

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

24 САКАВІКА 2000г. № 12/4044 КОШТ 75 РУБ.



### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **300 рублёў**, на квартал — **900 рублёў**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **930 рублёў**, на квартал — **2 тысячы 790 рублёў**.*

**Наш індэкс — <u>63856</u>.**

*22 сакавіка вядомаму паэту, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Аляксею ПЫСІНУ споўнілася б 80 гадоў. Матэрыялы, прысвечаныя Аляксею Васільевічу, чытайце на стар. 13—15.*



# КОЛА ДЗЁН

***На гэтым тыдні наша краіна сустрэла дзень вясновага раўнадзенства. Сіноптыкі кажуць, што толькі зараз надышла сапраўдная астранамічная вясна. З гэтага тыдня з кожнымі новымі суткамі дзень будзе павялічвацца на 4-5 хвілін. Так што жыць будзе весялей. Да ўсяго, ходзяць чуткі, неўзабаве павінны павялічыць мінімалку. Праўда, мы ўжо добра ведаем, што з павелічэннем мінімалкі, павялічваюцца цэны. Але мы да гэтага даўно прывыклі...***

## НАЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Указам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь старшынёй Мінскага гарвыканкама назначаны Міхаіл Паўлаў. Новы старшыня нарадзіўся ў 1952 годзе ў Магілёўскай вобласці, беларус. Закончыў Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут і акадэмію народнай гаспадаркі пры ўрадзе Расійскай Федэрацыі. Працоўную дзейнасць пачаў электразваршчыкам у міжкалгаснай будаўнічай арганізацыі Валожынскага раёна. З 1997 года да назначэння мэрам нашай сталіцы працаваў старшынёй Баранавіцкага гарвыканкама. М. Паўлаў — кандыдат тэхнічных навук, мае званне "Заслужаны работнік прамысловасці Рэспублікі Беларусь".

## ФАКТ ТЫДНЯ

На сённяшні дзень на нашай планеце налічваецца каля 6 тысяч моў. Па ацэнках спецыялістаў, каля 90 працэнтаў з іх асуджаны на знікненне ў самым недалёкім будучым. Зараз штогод знікае ў сярэднім 12 моў, а ад 25 да 50 працэнтаў практычна не выкарыстоўваюцца ў штодзённым жыцці. Па дадзеных апошняга перапісу, які праходзіў у нашай краіне, беларускай мовай у штодзённым жыцці карыстаецца амаль 40 працэнтаў насельніцтва Беларусі. Словам, у нашага народа яшчэ ёсць добры шанс не трапіць у тыя 90 працэнтаў моў, якім наканавана небыццё. Але ўсё залежыць ад кожнага з нас, ад таго ці мы самі хочам застацца на гэтай зямлі як народ, як нацыя...

## ІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што ў лютым сярэднемесячная налічаная зарплата рабочых і служачых Беларусі, у параўнанні са студзенем, вырасла з 44 да 49 долараў ЗША у пераліку па рынначным наяўным курсе. Няблага. Але...

## ПРЫЗЁРЫ ТЫДНЯ

У конкурсе, мэта якога — "Захаванне нацыянальнай гістарычнай і культурнай спадчыны", прынялі ўдзел звыш 50 школ з усіх абласцей краіны. Журы, у якое ўваходзілі вядомыя вучоныя-мовазнаўцы, педагогі, мастацтвазнаўцы, адзначыла дыпломамі І ступені шэсць лепшых сельскіх школ. Сярод іх — Германавіцкая СШ Шаркаўшчынскага раёна, Залужская СШ Стаўбцоўскага раёна, Бердаўская СШ Лідскага раёна і іншыя. Школы-прызёры атрымалі ў падарунак відэамагнітафоны, музычныя цэнтры і іншыя каштоўныя падарункі. Конкурс праводзіла Таварыства беларускай мовы і Таварыства беларускай школы.

## РАДАСЦЬ ТЫДНЯ

У сувязі з ростам сярэдняй зарплаты рабочых і служачых краіны ў красавіку адбудзецца чарговы пераразлік пенсій. У параўнанні з лютаўскай мінімальная пенсія павялічыцца на 9,9 працэнта і складзе 11054 рублі. Крыху больш (на 17,6 працэнта) узрасце сярэдняя пенсія, якая будзе вызначана ў памеры 20300 рублёў. Максімальная пенсія павялічацца на 18 працэнтаў і складзе (для працуючых пенсіянераў) 23348 рублёў, а максімальная пенсія непрацуючых пенсіянераў — 32165 рублёў. Але, мяркуючы па тым, як растуць цэны, радасць у пенсіянераў будзе нядоўгай. І ўсё ж...

## АПЫТАННЕ ТЫДНЯ

"Беларусь і свет" — так назвалі супрацоўнікі лабараторыі аксіяметрычных даследаванняў "Новак" рэпрэзентатыўнае апытанне, у якім прыняло ўдзел 1608 жыхароў нашай краіны. На пытанне "Якім чынам Беларусь можа лепш забяспечыць сваю бяспеку?" 46,1 працэнта рэспандэнтаў адказалі, што самы перспектыўны напрамак бяспекі — стварэнне агульнай абароны з Расіяй. 36,6 працэнта грамадзян заявілі, што захаванне нейтральнага і бяз'ядзернага статуса краіны, замацаванага ў Канстытуцыі, і ёсць неабходная гарантыя дзяржаўнай бяспекі. Яшчэ 8,2 працэнта апытаных лічаць, што ўступленне ў НАТА забяспечыць Беларусі надзейную бяспеку. Які з варыянтаў знешнепалітычнага курса нашай краіны з'яўляецца найлепшым? Арыентацыі на Расію і Захад аднаchасова аддалі перавагу 38,8 працэнта апытаных. Далейшай інтэграцыі з РФ аддалі перавагу 37 працэнтаў, а арыентацыю на ўступленне ў Еўрапейскі Саюз падтрымалі 15,5 працэнта апытаных. Лічбы цікавыя, але...

## ЦЭНЫ ТЫДНЯ

Адбылося чарговае павышэнне цэн на белыя гарэлкі беларускіх вытворцаў у сярэднім на 15 працэнтаў. Папярэдняе падаражанне было 10 лютага (на 20 працэнтаў), а яшчэ раней 21 студзеня гарэлка даражала на 30 працэнтаў. Цяпер паўлітроўкі вытворчасці "Крышталя" "Новы век" і "Вадалей" каштуюць 1320 рублёў. Пляшка "Люкса" і "Беларусі сінявокай" абыдзецца пакупніку ў 1209 рублёў. Крыху танней "Белая Русь" і "Крышталь люкс" — 1205. У адным коштавым шэрагу знаходзяцца "Сталічная", "Руская", "Маскоўская", "Сталіца" і "Пшанічная" — 1147 рублёў. Самымі таннымі на сённяшні дзень з'яўляюцца "Палеская" — 1140 рублёў і "Два буслы" — 1123.

## АБНАДЗЕЙВАННЕ ТЫДНЯ

Наведваючы мінскую "Камароўку" з мэтай набыць таннае харчаванне, пакупнікі часта купляюць замежны маргарын "Рама", які па сваіх якасцях блізкі да масла. На працягу сёлетняга года, згодна з дзяржаўнай праграмай, распрацаванай Міністэрствам эканомікі і зацверджанай Саветам Міністраў, Мінскі маргарынавы завод павінен увесці ў эксплуатацыю цэх па вытворчасці паліўнога (мяккага) маргарыну. Абсталяванне для лініі па вытворчасці маргарыну было прывезена з Германіі яшчэ ў 1989 годзе, тады ж быў пабудаваны новы корпус завода. На сённяшні дзень гатоўнасць аб'екта ацэньваецца ў межах 95-97 працэнтаў, так што засталося чакаць сваёй "Рамы" беларускім пакупнікам нядоўга.

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Інтэрнэт у наша жыццё ўвайшоў нечакана і хутка, але, відаць, ужо назаўсёды. І той, хто карыстаецца Інтэрнэтам, адчувае сябе не толькі сучасным чалавекам, але і чалавекам новага дваццаць першага стагоддзя. Праўда, за карыстанне Інтэрнэтам трэба плаціць. Да ўсяго і ў гэтай сферы абслугоўвання цэны не стаяць на месцы. Новы тарыф абаненцкай платы за доступ да сеткі Інтэрнэт складае цяпер 1004 рублі ў месяц (было 930 рублёў), абаненцкая плата за выкарыстанне статычнага ІР-адраса — 497 рублёў (было 460), рэгістрацыя абанента на прадстаўленне паслуг доступу да сеткі Інтэрнэта са статычным выдзяленнем ІР-адраса — 2998 рублёў (было 2776 рублёў). Так што, калі ёсць грошы, падключайцеся да Інтэрнэта!

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Не толькі вечарынай у Цэнтральным Доме літаратараў у Маскве быў пазначаны візіт дэлегацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў у сталіцу Расіі. Адбылася сустрэча і гутарка з прадстаўнікамі двух творчых саюзаў Расійскай Федэрацыі.

У прыватнасці, в.а. старшыні Саюза пісьменнікаў Вольгу Іпатаву прыняў старшыня Міжнароднай суполкі творчых саюзаў Цімур Пулатаў. Адбыўся абмен думкамі аб шляхах далейшага супрацоўніцтва.

Цяпер сумесна з Дзяржкамдрукам рыхтуецца яшчэ адзін візіт у Маскву, у час якога плануецца правесці "круглы стол" у часопісе "Дружба народов", сустрэча ў іншых літаратурных выданнях Масквы, абмен перакладамі.

Што тычыцца іншых замежных сувязяў нашага творчага саюза, то наладжваюцца кантакты з калегамі з Латвіі, Славакіі, Чэхіі, Балгарыі, Румыніі. Дарэчы, у бліжэйшы час у выдавецтве "Беллітфонд" выйдуць анталогіі беларускай паэзіі на балгарскай і румынскай мовах. Плануецца таксама сустрэча ў Доме літаратара з міністрам замежных спраў Беларусі Уралам Латыпавым, вядучымі дыпламатамі замежных краін.

●

Свой 65-гадовы юбілей паэт і перакладчык з Віцебска Уладзімір Папковіч пачаў адзначаць у сталіцы. У Лінгвістычным універсітэце, выпускніком якога з'яўляецца загадчык кафедры нямецкай мовы Віцебскага універсітэта, адбылася цікавая сустрэча з выкладчыкамі і студэнтамі навучальнай установы. У ёй разам з У. Папковічам прынялі ўдзел намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч і перакладчык кандыдат філалагічных навук Лявон Баршчэўскі, які таксама з'яўляецца выпускніком гэтай ВНУ.

●

Адкрыты ўрок, прысвечаны творчасці выдатнага беларускага паэта Аляксея Пысіна, адбыўся ў бібліятэцы Саюза пісьменнікаў. На яго прыйшлі вучні 44-ай сярэдняй школы Мінска. Словы пра аднаго з выдатнейшых нашых творцаў, 80-годдзе якога адзначае ў гэтыя дні грамадскасць краіны, гучалі з вуснаў Алеся Савіцкага, Міколы Аўрамчыка, Пятра Прыходзькі і Навума Гальпяровіча, які быў вядучым гэтага ўрока.

**Н. К.**

●

Сумеснае паседжанне дзвюх секцый — драматургіі і дзіцячай літаратуры — было незвычайным: у ім прыняла ўдзел 209-ая, творчая група Беларускага універсітэта культуры. Студэнтаў, якія спрабуюць свае сілы ў розных жанрах, запрасіў драматург Алесь Петрашкевіч. Тэма паседжання гучала так: "Літаратурная моладзь. Выяўленне, дапамога, кантакты". А вымагала такой фармулёўкі малалікасць абедзвюх секцый, іх слабае папаўненне маладымі творчымі сіламі.

Па дзіцячай секцыі (а яна сабралася больш дружна), абмяркавалі публікацыі часопіса "Вясёлка". Ад імя яго супрацоўнікаў слова трымаў Мікола Чарняўскі, які ўжо 40 год стала працуе ў выданні для самых маленькіх, а таксама вядзе радыёперадачу "Сцяжынка". Пісьменнік прызнае, што праблема творчага папаўнення сапраўды мае месца. Даўно сфармаванае кола "вясёлкаўцаў" значна пастарэла, новых аўтараў можна злічыць па пальцах, дый і тых часцей прыходзяць ва ўзросце паважаным. Сярод маладзейшых названы, напрыклад, І. Шукалава, Г. Аўласенка, В. Савасцюк, Г. Пятроўскі, І. Сцяцко.

У выступленнях было адзначана, што тэндэнцыя друкаваць адных і тых жа аўтараў назіраецца і ў іншых выданнях — "ЛіМе", "Полымі". У адрас "Вясёлкі" гучалі закіды наконт неадпаведнасці тэматыкі і выяўленчых формаў часу, адсутнасці гарадскіх матываў, залішняй заспакоенасці рэдакцыйнага калектыву.

Аспірант НАН РБ А. Трафімчык прапанаваў нейкім чынам заахвочваць юныя таленты, каб пасля спарадычных публікацый яны не прападалі з поля зроку. Згадваўся часопіс "Пралеска", літаратурная частка якога апошнім часам стала мінімальнай.

Асобная гаворка распачалася вакол недахопу "міні-драматургіі" — сцэнак і інсцэніровак для школьных і садаўскіх драматычных і лялечных калектываў. Іх рэпертуарам практычна ніхто цяпер не займаецца, творы гэтага жанру рэдка друкуюцца ў дзіцячых і метадычных часопісах. Маладых драматургаў, зноў жа, мала, ды і тыя не могуць прабіцца на сцэну.

Артур Вольскі, які вёў паседжанне разам з Галінай Каржанеўскай, расказаў пра выязное паседжанне секцыі дзіцячай літаратуры ў Мінскай СШ N 176, дзе заснаваны клуб творчай моладзі. Намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Н. Гальпяровіч запрасіў юных гасцей наведваць літаб'яднанне Алеся Масарэнкі (кожны панядзелак) і літаратурныя вечарыны.

Моладзь задавала пытанні, на якія П. Місько, М. Яфімава і А. Махнач адказвалі сумесна. На завяршэнне А. Петрашкевіч, які не забыўся прадставіць студэнцкую групу, працытаваў словы свайго былога начальніка "Прычапі чалавеку крылы, а ён іх сам распусціць"

**Г. Э.**

# Гукаем вясну

*"Не ведаеш, чаго хочаш:*
*Ці зорку дастаць, ці сонца.*
*Табе трэба ўсё адразу"...*

Гэтыя радкі, якія прыслала ў Саюз пісьменнікаў школьніца з Пастаў Каця Ярашэвіч, нібыта сама квінтэсенцыя мараў і памкненняў маладых. Менавіта ім, сённяшнім семнаццацігадовым, працягваць традыцыі майстроў айчыннага прыгожага пісьменства, несці ў новае стагоддзе слова пра час і пра сябе, пра вечныя імкненні і пачуцці, якія жывяць літаратуру, якія не даюць адолець істоту паняверцы, паныласці, абыякавасці, жорсткасці і спустошанасці.

А мы, старэйшыя, чакаючы вясну, гукаем і вясну літаратурную. Так было летась, калі ўпершыню за апошнія дзевяць гадоў удалося правесці семінар маладых літаратараў. Так ёсць і сёлета, калі мы яшчэ са студзеня пачалі падрыхтоўку да новай сустрэчы.

І вось 28 сакавіка у пісьменніцкім Доме зноў загучаць галасы маладых. Звыш сямідзесяці юных празаікаў, паэтаў, крытыкаў, запрасілі мы на чарговы семінар. Крытэрыем адбору былі ў першую чаргу маладосць, талент і жаданне адкрыць новыя імёны. Таму шмат юных літаратараў прыедуць з глыбінкі, а сярод мінчан у пераважнай большасці будуць студэнты, многія з якіх таксама прыехалі вучыцца ў сталіцу з розных куткоў Беларусі.

Арганізаваць такі семінар сёння справа далёка не простая, таму мы вельмі ўдзячны Дзяржкамдруку і Камітэту па справах моладзі, якія не толькі дапамаглі з фінансаваннем, але прынялі самы чынны ўдзел у складанні праграмы, дапамаглі арганізаваць конкурсы і г. д.

Семінар пачнецца ў вялікай зале Дома літаратара. Сярод запрошаных ганаровых гасцей Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Алена Васілевіч, кіраўнікі літаратурна-мастацкіх выданняў, выдавецтваў, ведамстваў. Свае творчыя лабараторыі для маладых адкрыюць Вольга Іпатава, Генрых Далідовіч, Леанід Дранько-Майсюк, Галіна Каржанеўская, Любоў Турбіна, Васіль Жуковіч, Андрэй Федарэнка, Барыс Пятровіч, Міхась Скобла.

Вечарам удзельнікі і госці семінара стануць удзельнікамі вечарыны, прысвечанай 160-годдзю Францішка Багушэвіча, і накіруюцца ў Дом творчасці "Іслач". Зранку і да абеду 29 сакавіка літаратурныя мэтры будуць абмяркоўваць радкі маладых, даваць практычныя парады і кансультацыі, паслухаюць развагі юных пра іх жаданні і памкненні, звязаныя з уласным творчым лёсам.

Думаецца, што і старэйшым пісьменнікам будзе карысна атрымаць зарад маладой энергіі, акунуцца ў свет сённяшняга юнага пакалення.

"Зберагчы агонь, высечаны продкамі", — гэта выказванне домай нашай пісьменніцы цудоўна супадае з мэтамі і задачамі семінара. Будзем жа разам з маладымі творцамі не толькі два семінарскія дні, але і заўсёды служыць гэтай высокай мэце, дзеля якой і дзейнічае наш творчы саюз!

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**
**намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў**

## НАДЗЁННАЕ

"...Беларусь уваходзіць у першую дзесятку краін Еўропы — па асаблівасцях тэрыторыі, па сваім этнасе, па наяўнасці карысных выкапняў і іншых паказчыках".

"Калі гаварыць пра кантынентальную сухапутную Еўропу (без уліку выспаў), то цэнтр яе акурат у раёне вёскі Чыжаха паблізу рэчкі Бярэзіна".

**Радзім ГАРЭЦКІ,**
**акадэмік**
*("ЛіМ", 31.XII.1999)*

# Скарб вёскі Чыжаха

*Як калісьці ў юнацтве,*
*душа заклапочана,*
*Ды не ўсмешкаю вуснаў,*
*не рухам брывей, —*
*Зноў, чапляючы вецем*
*за хатнія вочапы,*
*Жаўтакрылая восень*
*у далеч плыве.*

*Стала моўчкі яна*
*пад парожнімі пожнямі*
*Каля вёскі Чыжаха, ля тое ракі,*
*Дзе ўшчувалі французаў,*
*арыйцаў трыножылі,*
*Калі збройна, з вайною,*
*ішлі чужакі.*

*Вось ён дзе — цэнтр Еўропы!*
*Аралі і сеялі*
*Беларусы здаўна тут...*
*Не трэба раўняць*
*Змрочны Таўэр брытанскі,*
*палі Елісейскія —*
*Не славуцей яны*
*і на корх не радня.*

*Не крыўдуйце, калі перайшоў*
*на гісторыю*
*Той, хто лапці на боты*
*вось толькі змяніў, —*
*Стала лепей відаць,*
*калі вочы не хворыя,*
*Як, адкуль і куды прараслі карані.*

*Не хвалюся на вецер*
*і не задаюся я:*
*Цэнтр Еўропы выдатнае*
*месца заняў*
*Каля светлай Бярозы,*
*ракі беларускае, —*
*Гэта ў нас вымагае*
*святочнага дня.*

*Маяка!*
*Што дамоў шлях*
*паказвае жоравам,*
*І сынам, што спяшаюцца*
*маці абняць*
*Пуп не струп — матчын знак,*
*у народзе гаворана,*
*Хто наважыцца знак*
*такі не шанаваць!*

*Як было спаконвеку:*
*што сказана — здзейснена!*
*У той бок пакіруецца*
*крок наш і зрок.*
*Падхвачуся з раўнёй*
*і на ўласную пенсію*
*Сваручна паставім*
*дубовы слупок.*

**Максім ЛУЖАНІН**



ЧАСАПІС

## Паэзія маладосці

Вясну атаясамліваем з каханнем, а значыць, і з паэзіяй. А дзе каханне і паэзія, там няўлоўна і нязменна прысутнічае жанчына... Менавіта ў яе гонар ладзілася ў Доме літаратара вечарына. Прымеркаваная да свята 8-га Сакавіка, яна стала віншаваннем тым, маладым паэткам, якія прыйшлі чытаць свае вершы. Ну і, канешне, мелася стаць падарункам для слухачоў, але іх, на жаль, было няшмат. Дрэнна, відаць, спрацавала рэклама.

Таму вечарына праходзіла ў канферэнц-зале, а не ў вялікай, як было запланавана. З таго атмасфера склалася недастаткова ўрачыстая, але больш утульная, хатняя. І дзяўчаты менш хваляваліся, бо вакол былі, лічы, усе "свае" сябры. Але (кажу з асабістых назіранняў) і перад немалой аўдыторыяй наша моладзь пачувае сябе досыць упэўнена: выходзіць на сцэну з пачуццём уласнай значнасці. Відаць, з-за адчування далучанасці да кола прафесіяналаў.

Шчырыя, прыветныя словы ад Саюза беларускіх пісьменнікаў сказала Вольга Іпатава, згадаўшы верш кітайскай паэткі 10 стагоддзя як прыклад неўміручасці паэзіі, да таго ж — жаночай. А кіравалі вечарынай двое: Навум Гальпяровіч, а пасля Алесь Масарэнка.

Паэтак усіх не назавём (з прычыны колькасці). Адзначым толькі тых, што згадваліся ў ліку лепшых: Алену Мароз, Ксенію Брэчку і Вольгу Базылёву.

Кахання ў вершах было даволі — дзе сумнага, дзе гарэзлівага. Нашмат менш, як тое было б пры ўдзеле хлопцаў, прагучала палітызаваных твораў, прасякнутых духам пратэсту — так званай "грамадзянскай лірыкі". Не было той "бурапеннасці", якую звычайна нясуць "бум-бам-літаўцы". Дзявочая паэзія спакайнейшая, лагоднейшая, са шматлікімі пытальнікамі і шматкроп'ямі. І чамусьці палюбіўся дзяўчатам белы верш...

Адчувалася розніца ва ўзроўні майстравітасці аўтарак. Трэба думаць, не апошнюю ролю іграе ўзрост: адны школьніцы, другія студэнткі. У некаторых адчувалася перайманне не лепшых сучасных узораў. Іншымі словамі, іх вершы формай і зместам вельмі нагадвалі "бум-бам-літаўскія". Дарэчы, гэтае аб'яднанне на вечарыне прадставіў Віктар Жыбуль: віншаваў паэтак сваёй "Страшылкай".

Вольга ЛАШКЕВІЧ

## Прэм'ера ў Маладзечне

Мінскі абласны драматычны тэатр з Маладзечна застаецца верным сабе і адкрывае для гледача новыя імёны ў сучаснай беларускай драматургіі. Так, нядаўна адбылася прэм'ера спектакля "Аўчары" па п'есе Вячаслава Лапціка. Спектакль, вырашаны ў жанры "сучаснай драмы", узнімае сур'ёзныя праблемы бездухоўнасці нашага грамадства, адносін бацькоў і дзяцей. Запамінальныя вобразы ствараюць артысты С. Карзей, Я. Іўковіч, Б. Донін, А. Слабодчыкава, І. Карчэўская, Л. Рошчына. А паставіў спектакль мастацкі кіраўнік тэатра, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай Мацкевіч.

М. СЕРАФІМОВІЧ

## "Загароддзе"

Яшчэ ў чэрвені 1996 года Мінюстам РБ было зарэгістравана грамадскае аб'яднанне "Заходнепалескае навукова-краязнаўчае таварыства "Загароддзе", якое мае статус рэспубліканскага аб'яднання. Асноўнымі мэтамі дзейнасці таварыства з'явіліся забеспячэнне навуковай базы для распрацоўкі праграм зберажэння археалагічных і гісторыка-культурных помнікаў Брэсцка-Пінскага Палесся, зберажэнне і ўзнаўленне яго прыродных ландшафтаў, традыцыйнай матэрыяльнай і духоўнай культуры, праграм вядзення экалагічна бясшкоднай сельскай гаспадаркі.

Сярод навукоўцаў, выкладчыкаў брэсцкіх ВНУ, краязнаўцаў і проста аматараў роднага слова дзейнасць таварыства добра вядомая. Больш таго, актыўная дзейнасць загароддзеўцаў паслужыла перадумоваю, што "Загароддзе" паспяхова прайшло перарэгістрацыю. А надоечы ў актавай зале абласной бібліятэкі імя М. Горкага адбылося чарговае пасяджэнне таварыства. Прысутныя праслухалі лекцыю "Гісторыя Берасцейскай зямлі" старшага навуковага супрацоўніка Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, старшыні грамадскага аб'яднання "Загароддзе" Фёдара Клімчука. Не менш цікавым і змястоўным было паведамленне старшыні Брэсцкага гарадскога прыватнага клуба велатурызму і падарожжаў Валянціна Балдэнкі. У прыватнасці, кіраўнік клуба распавёў пра распрацоўку турысцкага маршруту "Белыя азёры Палесся", якіх з такою назваю — Белае — на нашай зямлі ажно 28.

Першая экспедыцыя ўжо адбылася. Падчас яго велатурысты наведалі помнікі гісторыі і культуры, сустрэліся з мноствам карэнных жыхароў, вялі своеасаблівы дзённік сустрэч, рыхтавалі самы розны матэрыял для будучых альбомаў.

Уладзімір БАРЫСЮК

ТАСЦЁЎНЯ

# Георгій БУТРЫМ: "Важна разгледзець у чалавеку добрае..."

**— Пакуль я вас чакала, Георгій Аляксеевіч, у прыёмнай, у мяне верш напісаўся. Дзеля "затраўкі" прачытаю яго заканчэнне:**

*Залежаць ад надвор'я — ці загана?*
*Мы ўплецены ў касмічную канву.*
*І кожнаму жыццё падаравана,*
*Каб радавацца факту: "Я жыву!"*

**У вас часта здараюцца такія імгненні?**

— Не ведаю, ці часта, але здараюцца. Звычайна пасля нейкага поспеху — у працы або асабістым жыцці. Калі маеш дачыненне да якойсьці важнай справы. Калі бываеш сярод настаўнікаў, вучняў, студэнтаў — і бачыш, што твае думкі сугучныя з іх думкамі, з часам. Хоць мы і скардзімся на чыноўнікі і настаўніцкі лёс (а ён сапраўды няпросты — аж да роспачы), ды ўсё ж, здолеўшы некаму дапамагчы, па-сапраўднаму радуешся жыццю.

**— Выпраўляю памылку і прадстаўляю вас чытачам: начальнік Галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі РБ, кандыдат педагагічных навук Георгій Аляксеевіч Бутрым. І ў працяг гаворкі: а што, калі сапраўды бывае балюча і роспачна?**

— Я і тады асабліва не б'юся галавой аб сцяну. Шукаю выйсця.

**— Вы на самай справе верыце, што ў школьных сценах дзіця можа стаць лепшым?**

— Не так даўно давялося пачуць адну перадачу па Беларускім радыё. Выступаў выкладчык нядзельнай праваслаўнай школкі (а мы супрацоўнічаем з царквой, праводзім Еўфрасіннеўскія чытанні, маем пагадненне з Экзархатам). І выкладчык той гаварыў прыкладна наступнае: "Вы дарэмна, бацькі, спадзеецеся на школу, выхаваць можа толькі царква". З гэтым пагадзіцца нельга. На дзіця ўплывае ўсё. Першасны, базавы інстытут сацыялізацыі — сям'я. Уплываюць і школа, і грамадскія арганізацыі, і, безумоўна, тая ж царква, і сябры, і вуліца — увесь соцыум. Падобныя заявы падрываюць супрацоўніцтва, якое ў нас апошнім часам наладжваецца. Раней, у савецкія часы, на самай справе лічылася, быццам школа — цэнтр выхаваўчай работы. А яна не цэнтр, а перш за ўсё кваліфікаваны каардынатар педагагічных намаганняў усіх сацыяльных выхаваўчых інстытутаў. Дарэчы, 30 лістапада мінулага года міністэрства зацвердзіла новую канцэпцыю выхавання дзяцей і навучэнскай моладзі. У ёй можна знайсці адказы на многія пытанні.

**— Адна ваша вучаніца, сама цяпер настаўніца, расказвала, што ў Косінскай школе на Лагойшчыне дзеці былі ў вас літаральна закаханы. Што дала вам праца ў школе?**

— Вельмі многа. Я прыйшоў класным кіраўніком у 10 клас, не нашмат старэйшым быў за вучняў, але і тады ўжо разумеў, што ў дзіцяці трэба бачыць найперш **чалавека**. Па сутнасці, тыя два гады вызначылі мой далейшы лёс, звязаны з педагогікай. Дасюль сустракаюся са сваімі былымі вучнямі. І яшчэ ўспамінаецца, што я быў трэнерам школьнай хакейнай каманды, якая заняла першае месца ў раёне. Пры гэтым, мушу прызнацца, у хакей я гуляць не ўмеў...

**— Значыць, умелі падбадзёрыць і знайсці агульную мову, карысталіся даверам. Спадзяюся, усё гэта захавалася?**

— Дык я ж дэпартамент выхавання ўзначальваю, трэба адпавядаць. Не хачу хваліцца, але ведаю па памяці да тысячы імёнаў і па бацьку (маюцца на ўвазе педагагічныя кадры з усёй рэспублікі).

**— Па Карнегі?**

— Па інтуіцыі. Я перакананы, што чалавека нельга залішне ідэалізаваць, але і пляжыць нельга. Важна ў чалавеку разгледзець добрае і падтрымаць гэтае добрае.

**— У чым, па-вашаму, карані паважлівасці да людзей як рысы характару?**

— Мабыць, у сям'і. Сам я "заходнік", з-пад Ваўкавыска. Вёска наша завецца Львоўка, а вучыўся ў Вярэйках (там і зараз неблагая школа). Бацька мой змаладу кавалём быў, яму ўжо 86. Маці маладзейшая на дзесяць гадоў. Шляхцянка, каталічка, яна выйшла замуж за праваслаўнага, трох сыноў выгадавалі. Не памятаю, каб мы, браты, паміж сабой сварыліся. Усе мы стараемся часцей бываць дома, падтрымліваць бацькоў. І яны нас таксама падтрымліваюць: мы дасюль ні сала, ні яблыка, ні мёду з базару не нясём... Калі прыеду дадому ўлетку — на веласіпед, і ўсе дзяцінныя сцежкі аб'еду... Лес, сад, луг, возера — які гэта цуд! Як добра там дыхаецца і думаецца!

**— Але ж вёска, відаць, змянілася?**

— На жаль. П'юць многа, а радасці няма. А некалі ж песні спявалі без усялякага "допінгу", ды і ставіліся адзін да аднаго інакш. Я памятаю тую, ранейшую атмасферу і хацеў бы аднавіць яе ў стасунках на працы.

**— Наколькі я ведаю, наша школа бясконца рэфармуецца — і застаецца той самай. Што там цяпер на парадку дня?**

— Па-першае, школа — жывы і дынамічны механізм, яна ва ўсім свеце падлягае зменам. Па-другое, змены — не самамэта. Пераўтварэнні адбываюцца эвалюцыйна. Школьная рэформа, канцэпцыя якой зацверджана ўрадам, разлічана на 10 гадоў.

**— Георгій Аляксеевіч, мы не ведаем, што заўтра будзе, а тут — на 10 гадоў...**

— Тым не менш, планаваць і прагназаваць неабходна: дзеці нараджаюцца.

**— Невядома яшчэ, у якой дзяржаве яны будуць жыць...**

— Добра ўжо тое, што мы адмовіліся ад



монаідэалогіі. Канцэпцыя прадугледжвае арыентацыю на хрысціянскія каштоўнасці, народную педагогіку, на патрэбы сям'і. Адна з нашых задач — і адраджэнне цікавасці да беларускай мовы, нацыянальнай культуры. У ідэале кожны навучальны прадмет павінен уплываць на гарманічнае развіццё асобы. Дыстэрверг, нямецкі псіхолаг і педагог 19-га стагоддзя, сцвярджаў: "Адукаваны, але не выхаваны чалавек значна больш небяспечны для грамадства, чым неадукаваны хам".

**— Здаецца, ён быў пракам, гэты малавядомы Дыстэрверг... А ў прынцыпе псіхолагам павінен быць кожны педагог. Вы згодны?**

— Невыпадкова ў сярэдніх школах з [illegible] га года ўведзена стаўка псіхолага. І тр[illegible] сказаць, што гэты інстытут сябе апраўдаў. Прынамсі, за мінулы год на 6,2 працэнта зменшыўся лік злачынстваў сярод непаўналетніх. Не апошнюю ролю адыграе тое, што ў рэспубліцы захавалася сістэма пазашкольных устаноў (палацы моладзі, гурткі, секцыі і да т.п.). Прыбалты, дарэчы, шкадуюць, што некалі з бруднай вадою выкінулі і дзіця...

**— Што дапамагае вам паўсюль паспяваць?**

— Сямейны мікраклімат. Бо дадому я не валакуся, а лячу на крылах.

**— Што на вас дзейнічае горш за ўсё?**

— Сірочыя слёзы.

**— Усё занадта станоўчае. У вас ёсць хоць які недахоп?**

— Чаму ж... Усё хочацца ахапіць, зрабіць як мага болей, і забываю, што нельга "объять необъятное". Канцэнтрацыі не хапае, і яшчэ часу. Хопіць вам недахопаў?

Гутарыла Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

ПАМЯЦЬ

# "Для суайчыннікаў быць родным..."

У мінулую пятніцу ў Мёрах з-за хмар раптоўна выглянула сонца, каб па-вясенняму прывеціць людзей каля будынка школы N 1. Якраз у гэты час адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі паэта Пятра Сушко (работа Б. Чарняўскага).

Памятны знак у гонар земляка — гэта даніна пашаны таленавітаму творцу. Ён нарадзіўся 1 студзеня 1937 г. у вёсцы Сушкі і зачасна адышоў ад нас, не паспеўшы адзначыць свой 60-гадовы юбілей. У адным са сваіх зборнікаў ("Пратока", 1976 г.) ён пісаў:

*О, як доўга чакаў я*
*Над ракою парому,*
*Пад сузор'ем — спатканія,*
*У прыёмных — прыёму.*

*Найцудоўнейшы камень*
*Падарыў ды каханай,*
*Каб з хвілінаў чакання*
*Манеты чаканіў.*

І вось гадаванцы школы, якую Пятро Сушко закончыў у 1956 годзе, супрацоўнікі раённай газеты, дзе ён працаваў у 1966—68 гадах, прадстаўнікі раённай улады, усе тыя, хто добра ведаў пісьменніка, сябраваў з ім да апошніх гадоў яго жыцця, выказалі шчырыя словы ўдзячнасці Пятру Сушко за пранікнёнае майстэрства, узнёсласць думак, глыбіню пачуцця, досціп і народны гумар у творах, ахвярную службу радзімай зямлі, сыноўнюю роднасць, якую ён выказваў і паэтычным словам, і дабрадзейнай чыннасцю. З асаблівым падтэкстам прагучаў на ўрачыстай імпрэзе, сярод іншых, і верш Пятра Паўлавіча, дзе ёсць такія радкі:

*Для суайчыннікаў быць родным —*
*Больш чым і талент, і прызванне.*

Перад прысутнымі выступілі старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Франц Сіўко, які і падахвоціў раённае начальства на ўвекавечанне імя пісьменніка-земляка. Жонка Пятра Сушко Марыя Аляксандраўна перадала ў дарунак школе і музею ў горадзе кнігі паэта...



Пасля ўрачыстасцяў каля школы N 1 ушанаванне Пятра Сушко прадоўжылася на яго радзіме, у вёсцы Сушкі, дзе наўпрець апусцелай роднай хаты паэта жыве яго сястра Тамара Паўлаўна. Недалёка ад азёрнага прыберага ў хлебасольнай сядзібе гучалі яго вершы, якія запомнілі землякі, яго ўлюбёныя песні, цёплыя згадкі, жарты гумарыста-сатырыка, успаміны сябрамі. Слухалі мы і яго сына Сяргея.

Старшыня раённага Савета дэпутатаў Чэслаў Станіслававіч Кашкур зрабіў высновы: добрая справа ў гонар земляка зроблена. Але мёрская зямля багатая на таленты. Варта яшчэ ўшанаваць і паэта Яна Гушчу, і скульптара Генрыха Дмахоўскага... У раёне рыхтуецца правесці свята тысячагадовага мястэчка Лявонпаль, дзе знаходзілася калісьці рэзідэнцыя графскага роду Лапацінскіх — дзяржаўцаў, асветнікаў, патрыётаў Прыдзвіння.

На сутонні мы вярталіся ў Мёры. Быў бы з намі Пятро, ён напэўна прамовіў бы калісьці напісанае ім самім:

*Край юнацтва майго дзівоснага,*
*Зноў плыву я тваімі вёснамі,*
*Праплываю над тымі вязамі,*
*Дзе не ўсе былі словы сказаны,*
*Дзе ружовае сонца цёплае*
*Уставала над белым поплавам.*

Сяргей ПАНІЗНІК

*На здымку: каля Сафійкі ў Полацку П. СУШКО з сябрамі-сутворцамі Г. ДЗМІТРЫЕВЫМ, А. ПІСЬМЯНКОВЫМ, В. ЧАРНЯКОВАЙ, С. ЗАКОННІКАВЫМ, В. АКОЛАВАЙ, Л. НЕЎДАХАМ, І. ЖАРНАСЕК, Н. ГАЛЬПЯРОВІЧАМ, С. ПАНІЗНІКАМ, І.СТАДОЛЬНІКАМ, А. МАРКОВІЧАМ. 6 верасня 1987 г.*

*Фота Анатоля КАЛЯДЫ*

# Выкрасленыя з жыцця...

Алег ФОМЧАНКА

I

Знешне бамжа пазнаеш адразу. Пазнаеш зусім лёгка. На галаве вязаная шапачка альбо аблезлая вушанка з труса; зморшчаны, няголены твар з патухлымі вачыма, на якім без цяжкасці часцяком убачыш, як кажуць, сляды "асфальтавай хваробы"; на плячах зашмальцаваная куртка; на нагах — знойдзеныя на памыйніцах красоўкі ці то іншы нікчэмны абутак; у руках абавязкова поліэтыленавы пакет з парожнімі бутэлькамі: іх дзынканне — своеасаблівая сімфонія бамжацкага ладу жыцця.

Усё вышэйадзначанае, яшчэ раз падкрэслім, — вонкавае знаёмства. Але ёсць яшчэ іншае, што адразу вылучае іх у людскім асяроддзі — пах, а дакладней, невыносны смурод. Ад брудных целаў і адзенняў. Памятаю, быў неяк на аўтавакзале. Наўкола сядзела шмат людзей. І вось з'явіўся ён — здагадваецеся, хто — і ў імгненне вока наўкола апусцелі лаўкі-сядзенні, бо разнёсся такі "букет", што хоць нацягвай процівагаз...

Бамжы — беспрытульныя асобіны, якія не маюць пастаяннага заробку, чыё месца жыхарства — гарышчы ды падвалы, пустуючыя будыніны лецішчаў ці хаты сялян, у тым ліку ў забруджанай зоне, і г. д. Гэта ў асноўным людзі (падкрэслім — людзі) больш сталага ўзросту, якія заявілі пра сябе ў выніку "вялікай" гарбачоўскай перабудовы, і іх колькасць з цягам часу, як бы гэта ні ўтойвалі, расце і расце. І асноўны іх занятак зараз — каб выжыць — збіранне макулатуры і бутэлек на вуліцах і плошчах, рынках, у дварах жылых дамоў, побач з імі — асабліва, дзе грувасцяцца кіёскі-"камкі", розныя кафэ-забягалаўкі, ну і, вядома ж, на вакзалах. Праўда, ёсць у іх і канкурэнты, армія якіх узрастае з кожным днём. Перш-наперш з ліку гаротнікаў — пенсіянераў без ільгот і тых простых смертных розных узростаў, чые заробкі-даходы — курам на смех.

Бедныя людзі, даведзеныя да такога становішча living рознымі балбатунамі-рэфарматарамі і бязглуздымі некампетэнтнымі чыноўнікамі, якія ззяюць сытымі самаздаволенымі тварамі, чыноўнікамі, якім ва ўсякія часіны і пры ўсіх уладах жывецца вельмі і вельмі някепска.

Канечне, у цяжкое, бруднае, безвыходнае становішча напачатку трапляюць людзі слабыя, псіхічна няўстойлівыя, з падаўленай воляй, альбо пастаўленыя жорсткім жыццём у невыносныя ўмовы; людзі, якія перажылі нейкія трагедыі. А ёсць і такія — далікатна-сумленныя, як кажуць, тонкія натуры, якім прыстасавацца да ўсеагульнага "бардака" амаль немагчыма. Сустракаюцца ў бамжацкім асяроддзі нядаўнія "зэкі", якія выйшлі з турмаў, а ўладкавацца, прыстасавацца ў новым для сябе быцці, якое "вызначае свядомасць", аніяк не могуць. Гэта толькі на словах вертыкальна-гарызантальныя прадстаўнікі існуючай улады садзейнічаюць іх сумленнаму ўладкаванню, дапамагаюць "знайсці сябе". Маю на ўвазе перш-наперш закаранелых бамжоў і былых "зэкаў", шмат з якіх "адной нагой стаяць на парозе смерці".

Дарэчы, усё вышэйазначанае — не голыя словы, а вывады са шматлікіх сустрэч з тымі, хто знаходзіцца за нябачным дротам бамжатніка.

II

Першае маё знаёмства з бамжамі адбылося гадоў пяць-шэсць таму. Мушу думаць, тады яны і з'віліся на свет у нашым слаўным грамадстве. Ну, можа, былі і раней, але не ў такой колькасці і не як "з'ява сучаснасці". І колішнія бамжы былі далёка не гэткія, не "сённяшняга менталітэту". І лёсы ў іх былі часцяком зусім іншага характару.

Неяк на дачным участку сустрэў двух незнаёмцаў. Адзін прадставіўся як Глеб Глебыч. Другі, часовы спадарожнік першага, — маленькі ростам, ці не ўдвая ніжэйшы за Глеба Глебыча, але такі ж — косці ды скура — назваў сябе даверліва "Сашам" і са скрухай удакладніў: "Знаць ляха па халявах. Завіце проста Сашком".

Быў Сашок значна маладзейшы за свайго хаўрусніка і выглядаў як камінар — летні загар плюс даўняя заскарузлая няўмытасць.

Шукалі яны "такую-сякую" работу, таму што, па іх словах, у гэтым свеце існуюць дзякуючы сумленнай працы.

Потым жа, пазнаёміўшыся бліжэй, я гэтымі блукаламі праз тыдзень-другі быў запрошаны ў іх "бамжаінтэрнат". О-о, гэта цікавае месцасховішча, месцазнаходжанне, месцажыхарства! У пажоўклым беразнячку далёка ад вёсачкі хавалася напаўразбураная будыніна. Служыла яна некалі мо складам, а мо і кармакухняй. Рэшткі загароджы, іншыя прыкметныя сляды сведчылі, што тут знаходзіўся калісьці летні жывёлагадоўчы лагер.

Унутры памяшкання — у некалькі радоў паверхаў дашчатыя, у грыбковых лішаях паліцы, прыстасаваныя пад нары. Нешта падобнае на асобны пакойчык праглядалася за сцяной з перакошанымі, на адным завесе, прыбуцвелымі дзвярмі. Мяхі з саломай — былі яны і сеннікамі, і падушкамі; у куце адрыны — падранае адзенне. У сярэдзіне пакоя на чатырох падпорках-слупках нешта падобнае да стала. Вось і ўсё, здаецца.

Не, яшчэ пах, пах... Ну, што зробіш?! Ён паўсюдна з гэтымі, пакрыўджанымі лёсам, людцамі.

— Хе-ха-ха! — захлынуўся ўсхліпамі Сашок. — Дэмкамфорт. Я маю на ўвазе не дэмакратыю, а дэмас, гэта значыць народ. Народны камфорт. Мы першыя, хто пракладвае дарогу ў светлае дэмкамбудучае, а яно — хе-ха-ха! — чакае шмат каго.

— Ну, ты не вельмі, Сашок, таво, — строга сказаў Глеб Глебыч. — Не вельмі пужай чалавека.

— А ці то гэта дрэнна?! Ці то дрэннае жыццё? Хе-ха-ха!.. Дый і чым каго зараз напужаеш? Усім сытыя. Асабліва абяцанкамі-цацанкамі дый прыгожымі словамі! Адно гэта нам і застаецца...

Нейкае абвостранае ўспрыманне жыцця Сашком я тады аднёс на кошт асаблівасцей, звязаных з ім самім. З глыбока асабістым. І сапраўды, як высветлілася, Сашок былы афганец, старшы лейтэнант, цяжка паранены, у дадатак мае некалькі кантузій, з бальніц не вылазіў. Жонка — кінула. Двухпакаёўку з хахалем прыхапіла. А ён — на вуліцу. Закон, а хутчэй суддзі апынуліся не на яго баку...

Адбылося тады знаёмства і з іншымі сужыцелямі бамжаінтэрната. Вось, да слова, каржакаваты, падобны да мядзведзя мужчына — яго так і звалі "мядзведзь", а яшчэ "прафесар". Прафесарам, праўда, ён не быў, але затое сапраўдным, дыпламаваным кандыдатам навук, дацэнтам з'яўляўся. Працаваў у ВНУ, а потым "лёс кульнуўся". Так і стаў бамжом... Дарэчы, нешта падобнае адбылося і з Глебам Глебычам, калі наказаў доўга жыць яго навукова-даследчы інстытут, дзе ён, працуючы токарам і слесарам у эксперыментальнай лабараторыі, вырабляў такое, чаму сам Ляўша пазайздросціў бы. І рацпрапановы былі... А потым безвыніковыя пошукі работы месяц за месяцам, і гэткі стан стагнацыі, калі здаровы, у росквіце сіл мужчына кажа, што няма аніякага стымулу жыць. Здалі нервы, здала воля, апусціўся на самае дно абрыдлага існавання.

— Не, не люблю я ў Максіма Горкага ягонага Саціна з п'есы "На дне", не люблю за пафасныя словы, што чалавек — "это — великолепно! Это звучит... гордо!.." І іншае, іншае... Усё — лухта! — раздражнёна, у хваляванні, распальваючы ля яліны вогнішча, вымавіў Глеб Глебыч. Памаўчаў. Працягваў: "Ніколі чалавек, у сутнасці сваёй, не гучаў-жыў горда! Спакон веку яго зневажалі, абражалі, трымалі ў ярме, нібы тую скаціну. Ну, хай ужо раней — царызм, сталінскія рэпрэсіі... А як разумець сённяшні дзень? Свабода, дэмакратыя, рынкавы сацыялізм, а мо яшчэ нешта такое-гэткае... Ну, а дзе ж чалавек, дзе?.. Калі ён не чыноўна-элітны, не прывілеяваны за нейкія "асаблівыя заслугі"?! Дый у каго могуць быць гэткія заслугі, калі вунь якое грамадства пабудавалі, калі жыццё простых працаўнікоў — хай і былых — сабача-бамжацкае!..

Горкі камяк сціснуў мне горла — не прадыхнуць-выдыхнуць. Але невыносна-цяжкае напружанне зняў, хаця і не натуральны, а найграна-бестурботны голас Сашка:

— Вой-вой! Дзям'я-а-наўна!.. Сапраўды, Расна пірагамі красна, — дадаў ён, убачыўшы ў руках высокай, з рэшткамі былой прыгажосці і некалі статнай паставы пажылой жанчыны бутэльку "чарніл".

Бутэльку ён па-свойму назваў "азверынам", войкнуў і рассмяяўся, калі азызлая, з уздутым чырвоным тварам кабеціна дала нырца ў дзвярны праём бамжатніка. Павойкаўшы, Сашок працягваў:

— Дзям'янаўна — баба прыкметная. Дакладней — была. Шык-карна жыла з мужыком-падпалкоўнікам. Можа, толькі птушынага малака не мела. А так у застой брэжнеўскі ў Германію трапілі, прыбарахліліся на ўсе сто, дый грошай прывезлі — курам не здзяўбаць. Атрымалі ў Мінску добрую кватэру, непадалёку ад цырка. Жыві ў сваю асалоду. Гэтак і было, пакуль выпадак не падвёў. Кажуць жа, золата за плячыма, а чорт перад вачыма. Карацей, муж раней прызначанага тэрміну вярнуўся з камандзіроўкі — застукаў жоначку любую ў ложку са сваім лепшым сябрам. Як кажуць, у момант, калі "пайшоў працэс". Хе-ха-ха!.. Вядома, што ў гэткіх выпадках... І палюбоўніку яна хутка стала непатрэбнай, не кажучы ўжо пра мужа. Пачала піць, пайшла па руках. А якой прыгажуняй была — фотакартку паказвала. На акардыёне іграла, спявала, як тая Зыкіна... Ажно не верыцца.

— Жыццё — штука хітрая... — цяжка ўздыхнуў Глеб Глебыч.

III

Лёсы, лёсы... Былі і потым сустрэчы-знаёмствы — працягваюцца яны і зараз — з людзьмі "гэтай катэгорыі", як сказалі ў адной афіцыйнай установе.

Ну як пройдзеш міма чужога болю, асабістага чалавечага неўладкавання!

Вось толькі вынырнуў з металічнай смеццевай скрыні невысокі, у зашмальцаваным адзенні і гэткай жа аблавушцы ні то хлапец, ні то дарослы мужчына. У брудных па локаць руках нешта трымаў, безумоўна, знойдзенае ў сметніку. Агледзеўся, убачыўшы мяне, неяк сарамліва вымавіў:

— Што зробіш? Жы-ывём. Камунізму не дачакаліся, а куды зараз ідзём?.. Мабыць, і Бог не адкажа.

Мы трохі адышлі, прыселі на лавачцы аднаго з двароў непадалёк ад плошчы Перамогі. Я пачаставаў бедалагу цёплым хлебам, які нёс дамоў з крамы, — іншага нічога ў мяне, пенсіянера, не было. Памаўчалі.

— Яшчэ нядаўна быў камандзірам танка, служыў на Урале, — жуючы, сказаў мой выпадковы знаёмец. — Няшчасны выпадак. Інваліднасць — не інваліднасць. А здароўе пакінула. Прыехаў на радзіму — і вось камандзір смеццевай скрыні...

У іроніі майго знаёмца адчуўся глыбокі боль. На жаль, у наш час даволі часта чуеш гэткія, кранаючыя за сэрца, ноткі; гэткі безвыходны сум і боль. Пазнаёміўшыся неяк у чарзе за хлебам з бабай Маняй — так яна назвалася. Жыла баба Маня ў мікрараёне Серабранка ў "аднапакаёвачцы-хрушчовачцы з гарачай вадой і туалетам не ў двары". А прывёз яе ў сталіцу, прадаўшы на вёсцы "дамок, хлеўчык, жывёлінку", сын Міцька.

— Прасвістаў усе мае грошыкі і з'ехаў, — уздыхнула баба Маня. — Не ведаю куды. Казаў, за нейкім бізнесам. Ужо тры гады няма і почуту. Ці жывы, баламут гэткі... Жыла б лепей у сваёй Кісялёўцы, хоць і ў зоне гэтай самай забруджанай...

Выпадак спрыяў сустрэцца з бабай Маняй яшчэ раз. Зусім змарнела яна. Сказала, што на яе "пенсійку", ну аніяк нельга пражыць. За "хрушчовачку" вунь завінавацілася... А праз нейкі час даведаўся, што ў бабы Мані з'явіўся "спонсар". Паабяцаў, калі надыдзе час, пахаваць яе, "каб было ўсё, як у людзей", бо яе, наколькі памятаю, гэта вельмі турбавала. І не бяда, што ў яе "хрушчовачцы" на першым паверсе "новы беларус", пераабсталяваўшы пакой, зрабіў офіс. Баба ж Маня напачатку тулілася на варыўні, а потым яе наогул звезлі на нейкую дачу. Суседка так і заявіла, азіраючыся па баках, каб, не дай Божа, не пачуў "новы": "Стала наша баба Маня зусім бамжыхай..."

Сустрэў я ў склепе свайго дома бамжоў іншага характару. Ён і Яна. Дарэчы, за апошні час "спараных", альбо "зведзеных у пары" — сустракаеш усё часцей і часцей. Маленькія сем'і. І не гэтак адзінока. І ўдвух лягчэй перабіцца. І такія-сякія, калі спрыяе ўзрост і настрой, інтымныя ўцехі: жыццё — ёсць жыццё.

Дык вось — назваўся ён Міхасём. Амаль палову свайго "існавання" правёў у месцах зняволення.

— Прыйду адтуль, — узмахнуў рукой Міхась, — а дакументы належныя аформіць цяжка, не меней цяжка ўладкавацца і на працу. Тым больш, калі няма належных дакументаў. Увогуле зноў туды трапляеш. Вось і зараз ніяк не магу пашпарт атрымаць. Мурыжаць некалькі месяцаў. А таму і беспрацоўны. Бомж. А мая палавіна, — кіўнуў ён на маладую жанчыну, — яшчэ ў горшым становішчы...

А ў якім — больш нічога не сказаў небарака. Як і пра сябе, быццам набраўшы ў рот вады...

Сутыкаючыся з лёсамі гэтых людзей, як журналіст-пісьменнік, вось ужо на працягу колькіх год, не магу не адзначыць своеасаблівыя змены ў з'яве (падкрэслю — эканамічна-сацыяльнай) самога "бамжацтва". І калі раней за нябачны дрот бамжатніка траплялі недарэкі часцей па нейкіх асабістых прычынах, то ў апошнія часы выкрэслівае з больш-менш нармальнага жыцця дзікі рост цэн літаральна на ўсё: і тавары (асабліва харчовыя), і жыллё (шмат хто не можа яго аплачваць), і бытпаслугі, і г. д. Адсюль — маральная і фізічная бездапаможнасць, падзенне на бруднае дно жыцця. І часцей за ўсё межы сучаснага бамжатніка пашыраюць, рассоўваюць людзі слабыя, неўладкаваныя, у асноўным пажылага ўзросту. Колькі зараз наўкола бамжоў, алкаголікаў, жабракоў! А вядома ж, усе яны некалі нарадзіліся нармальнымі, са светлымі марамі і спадзяваннямі...

IV

Даўно хацеў трапіць на прыём да аднаго высокага вертыкальшчыка. Але, нягледзячы на свой журналісцкі вопыт, далей сакратаркі прабіцца не змог. Мусіць, новыя часіны патрабуюць новых, больш сучасных, здольнасцей.

І ўсё ж настойлівасць, а можа, проста выпадак, ці ўсё разам, дапамаглі. Сустрэў я высокую чынавенскую асобу на выхадзе з афіцыйнага будынка. Ён скрывіўся, спыніўшы хаду.

— Чаго вам? — спытаў.

— Хацеў бы... некалькі слоў... Пра гэтых самых... бамжоў...

— А хто гэта? Не ведаю такіх.

Не азіраючыся, чыноўнік паскорыў крок. Я не ўтрымліваў яго. Аб чым з ім гаварыць, калі ён жыве ў іншых вымярэннях. Дый ці ўбачыш з акенца шыкоўнага лімузіна не тое, што бамжа, а нават звычайнага чалавека? Дый і да дому, дзе ён жыве, не тое, што бамжа, а нават простага смяротнага і блізка не падпусцяць.

Як было, так і ёсць. Яшчэ ў большых памерах. Аднак не будзем канцэнтраваць увагу на вертыкальшчыку. Хай яго Бог рассудзіць.

Непакоіць іншае. На шмат якія пытанні, што ўзнікаюць, нельга знайсці адказу. А тым больш такога, што супакоіў бы, пасяліў у душы веру ў добрае. Я ведаў, у прыватнасці, са сродкаў масавай інфармацыі, што ў рэспубліцы дагэтуль няма адзінай установы, якая б займалася рэабілітацыяй бамжоў; што ўсё залежыць ад сумлення і актыўнасці мясцовых уладаў і грамадскіх арганізацый. А ці заўсёды і ці наогул ёсць у іх гэтыя магчымасці? І перш-наперш, якая ў іх матэрыяльная база?



На ўскрайку Мінска існуе сталоўка, дзе адзін раз у дзень беспрытульныя людзі могуць атрымаць абед. Прычым усяго чалавек 60-70. Наколькі ведаю, мелася некалі падобная харчовая падтрымка немаёмных з боку царквы. Але ўсё гэта пры адсутнасці сродкаў без пэўнай сістэмы. Тым больш харчаванне ў асноўным фінансуе Чырвоны Крыж. А якія тут магчымасці — недасведчанаму ясна. Акрамя таго, сама колькасць абслугоўваемых — кропля ў моры.

З прэсы вядома, што ў Віцебску бамжамі галоўным чынам займаецца міліцыя і работнікі прыёмніка-размеркавальніка. У Гомелі ў пазалеташнім годзе адкрыўся Цэнтр рэабілітацыі, дзе тым, хто звяртаецца, дадуць "спальнае месца", дапамогуць у пошуку працы, у афармленні дакументаў. Нешта робіцца і ў іншых мясцінах. Усё гэта вельмі і вельмі важна, бо ў бамжа, як вядома, няма ні жытла і правоў на прапіску, медыцынскае абслугоўванне, ні магчымасці аднавіць ці атрымаць інваліднасць і нават грамадзянства. Таму і зразумела, чаму былыя ці нядаўнія "зэкі" імкнуцца — асабліва ў зімовы перыяд — вярнуцца ў "зону", дзе і дах над галавой, цёплы ложак, і кормяць — "ногі цягаць можна". Хапае і бамжоў, якія таксама знаходзяць тут свой "выратавальны круг".

*(Працяг на стар. 15)*



## ЧАСАПІС

### "Край верасоў"

**Іван Лашутка — чалавек немаладога веку. Нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Баяры Вілейскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, настаўнічаў на Вілейшчыне, некаторы час працаваў у раённым аддзеле народнай адукацыі. І ўвесь гэты час пісаў вершы. Піша і цяпер. У 1992 годзе выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла яго**



**кнігу паэзіі "Святло дваіх", якая была ўдастоена Спецыяльнага прыза Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь у галіне паэзіі. І вось новы зборнік Івана Іосіфавіча "Край верасоў", які пабачыў свет у "Беларускім кнігазборы", дзякуючы падтрымцы ААТ "Буддэталі" горада Вілейкі, генеральным дырэктарам якога з'яўляецца Сяргей Жук.**

**Лірычны герой паэта — чалавек, які нямала пабачыў на сваім вяку і цяпер, калі даўно пакрыла скроні сівізна, азіраецца назад, спрабуючы разабрацца, ці так жыў, як трэба. Гэтая тэма гучыць і ў вершы "Маіх сяброў становіцца ўсё меней":**

*Не раз на бездарожных каляінах*
*У памяць урывалася вайна,*
*Мы цяжка спасцігалі у краіне*
*Двулікі сэнс слоў Праўда і Мана.*

**Гэты трывожны роздум становіцца яшчэ больш усхваляваным, калі з'яўляецца жаданне разабрацца, а якімі ж будуць наступнікі, што возьмуць яны ад старэйшых пакаленняў і што прынясуць самі:**

*Спазнаўшы гора, шчодраю душою,*
*Пазбаўленыя ўласнага цяпла,*
*Мы вырасцілі племя маладое —*
*Цяплічнае, цынічнае датла.*

*Ці вытрымае націск навальніцы*
*Нічыйнай нівы спознены ўзыход,*
*Каб выстаяць і занава радзіцца*
*І быць у свеце з іменем — Народ...*

**Хараша гучаць вершы, у якіх адчуваецца не проста еднасць з бацькоўскай зямлёй, а з вёскай, прыродай, хараство якой па-сапраўднаму можа спасцігнуць толькі чалавек, у якога душа адкрытая і які адчувае сябе часцінкай усяго наваколля і не чужынцам на роднай зямлі, а сынам яе, які зноў жа заклапочаны, каб гэта ўсё не спынілася на ім, а было перададзена іншым. І разам з тым і ў такіх творах нярэдка з'яўляецца шчымлівы матыў ад усведамлення, што многае праходзіць незваротна. Пацвярджэнне таму — верш "Мы, напэўна, апошнія з тых...":**

*Мы, напэўна, апошнія з тых,*
*Хто і ў шчасныя дні, хто і ў горы*
*Не забудзе снапоў залатых*
*І высокія жнійўныя зоры.*

**Лірычны герой лічыць за "найвялікшы гонар у свеце" быць сувязным на зямлі нівы і жадае "цеплыню вясновай ралі" перадаць дзецям.**

**Удаліся І. Лашутку і творы, у якіх паэт ад імя свайго лірычнага героя выказвае імкненне быць заўсёды душэўна маладым: "Светлы золак плыве над ракою — Першацвет каб не ведаў смугі. Маладосць, затрымайся са мною, Хоць на колькі хвілін дарагіх". І вельмі пачуццёва настраёвы "Трыялет", што мае прысвячэнне "Ю. Т.":**

*Я вінават перад табой*
*За наша доўгае маўчанне,*
*За гэта позняе прызнанне —*
*Я вінават перад табой.*
*Даруй мяне, маё каханне, —*
*Прамень над юнаю зарой.*
*Я вінават перад табой*
*За наша доўгае маўчанне.*

**Паэзія І. Лашуткі, у чым чытач лёгка ўпэўніцца, мілагучная, вельмі лірычная. Таму не лішне нагадаць, што асобныя яго вершы сталі песнямі, кампазітары паклалі іх на музыку.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

## КРЫТЫКА

ГЭТАМУ таленавітаму і прыгожаму беларускаму хлопцу не мінула і 30-ці, калі карнікі выканалі прысуд сталінскай "тройкі" — Выязной калегіі Вярхоўнага Суда СССР. Ён, адзін з лідэраў нашай тагачаснай паэзіі, любімец Купалы і Коласа, быў беспадстаўна абвінавачаны ў нацыянал-фашысцкай і шпіёнскай дзейнасці і 29 кастрычніка 1937 года расстраляны...

Імя В. Маракова поруч з іншымі ахвярамі сталінскага этнацыду стала трагедыйным уваасабленнем гісторыі беларускай літаратуры. Жыццёвы і творчы шлях паэта на фоне і ў кантэксце часу ва ўсёй паўнаце яскрава раскрываецца перад намі з кнігі "Валеры Маракоў", якая мае падзагаловак "Лёс, хроніка, катэкст" ("Беларускі кнігазбор", 1999). Аўтар гэтага выдання — Леанід Маракоў, руплівы ілюстраваная, тут зроблена больш за сотню фатаграфічных адбіткаў, многія з якіх проста унікальныя). Асноўная ўвага аўтара скіравана на выбучэнне жыццёвага лёсу і абсягу творчасці паэта. Асоба В. Маракова паўстае ў кантэксце вялікай колькасці літаратурных імёнаў, у звязцы з дзейнасцю "Маладняка", БелАППа. Ён быў дзейсны і актыўны на ніве культурнага жыцця сталіцы і рэспублікі. Часта сустракаўся з чытачамі, прапагандаваў паэтычнае слова, выпраўляўся ў розныя творчыя камандзіроўкі, у тым ліку за межы Беларусі. Разам з тым Л. Маракоў імкнуўся не толькі весці летапіс розных падзей і фактаў, але і паставіў задачу ўзнавіць партрэт жывога паэта, паказаць, чым ён жыў, пра што думаў, як яго ўспрымалі людзі. Вось штрыхі да партрэта, якія зафіксавала памяць пісьменніка Паўла Прудбнікава:

"Валік". Неадноўчы запрашаў яго дахаты, каб "за шклянкай гарбаты" паслухаць яго новыя вершы і прачытаць свае яму. Ён гаварыў, што Маракоў — гэта будучыня нашай беларускай паэзіі". (П. Прудбнікаў).

Валеры Маракоў паспеў ярка заявіць пра сваё "я" ў літаратуры, выявіў сябе як цудоўны паэт-лірык. Даволі высокую ацэнку яго творчасці даў знакаміты М. Гарэцкі ў кнізе "Маладняк" за пяць гадоў. 1923—1928" (1928): "Маракоў вызначаецца лірычнасцю, эмацыянальнай напружанасцю, гучальнасцю сваіх вершаў. У яго шмат пачуцця, ён любіць яскравыя фарбы і гучанне". І яшчэ: "Ён моцны ад прыроды паэт... вершы яго робяць моцнае ўражанне...". І гэта, заўважце, гаварылася мэтрам літаратуры пра маладога дзевятнаццацігадовага аўтара. Адметнасць вобраза-

# "Любоў і паэзія ідуць праз вякі..."

### З НАГОДЫ ВЫХАДУ КНІГІ "Валеры МАРАКОЎ: ЛЁС, ХРОНІКА, КАНТЭКСТ"

даследчык дзейнасці рэпрэсаваных беларускіх пісьменнікаў. Ён даводзіцца пляменнікам Валерыю Маракову, з'яўляецца апантаным папулярызатарам творчасці свайго таленавітага родзіча, кнігі якога "Пялёсткі", "На залатым пакосе" і інш. у даваенны час былі на слыху ў шматлікіх аматараў паэзіі, але сённяшняму чытачу гэтае імя, на жаль, малавядомае.

Зрэшты, Леанід Уладзіміравіч Маракоў па адукацыі не філолаг і не гісторык — калісьці ён закончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут. Аднак менавіта дзядзькава творчасць і яго лёс прадвызначылі далейшы сур'ёзны інтарэс і сталы занятак — вывучэнне гісторыі літаратурна-грамадскага жыцця ў 20—30-я гады. І як вынік шырокіх зацікаўленняў і архіўных пошукаў — публікацыя артыкулаў Л. Маракова на старонках рэспубліканскай перыёдыкі ("ЛіМ", "Голас Радзімы", "Роднае слова", "Народная воля" і інш.), звязаных з цяперашняй працай над энцыклапедыяй пра рэпрэсаваных літаратараў Беларусі.

Кніга "Валеры Маракоў" — не літаратуразнаўчая манаграфія, яе, як падаецца, можна назваць дакументам-даследаваннем. Тут упершыню сабрана літаральна ўсё, што магчыма, да крупінкі, пра лёс і творчае жыццё вядомага паэта 20—30-х гадоў. Л. Маракоў змяшчае шматлікія вытрымкі з крытычных матэрыялаў, падае характарыстыкі і ацэнкі творчасці паэта, выказаныя ў артыкулах пра тагачасную беларускую літаратуру, фіксуе публікацыі вершаў, пераклады твораў на іншыя мовы, прыводзіць архіўныя звесткі. Словам, вядзе падрабязны, грунтоўны летапіс творчай дзейнасці В. Маракова.

Біяграфія пісьменніка рэканструюецца ў храналагічнай паслядоўнасці: год за годам, месяц за месяцам. Праўда, сцісла асветлены першапачатковы этап жыцця — ад часу нараджэння (1909) да 1925 года, калі ў друку з'явіліся першыя вершы паэта і ён стаў сябрам літаб'яднання "Маладняк". Матэрыял пра сям'ю Мараковых дапаўняе дадатак кнігі, з якога мы даведваемся пра пакручасты "гулагаўскі" лёс бацькі паэта Дзмітрыя Захаравіча, а таксама раздзел "Жыццё пасля смерці", дзе, апрача іншага, змешчаны фотаздымак маці Вольгі Станіслаўны і братоў Валерыя — Уладзіміра і Леаніда (наогул, кніга багата

"Валеры Маракоў быў юнаком вышэй сярэдняга росту, з выгляду прыгожы, бландзіністы, сінявокі і няўрымслівы. Увесь час ён як быццам кудысьці спяшаўся. Сам не мог спакойна сядзець на адным месцы і сяброў сваіх прымушаў разам з сабой бегаць. Здавалася, што і вочы яго не знаходзіліся на адным месцы — бегалі разам са сваім гаспадаром".

"Паэтам эмоцый" назваў П. Прудбнікаў гэтага энергічнага і імпульсіўнага аўтара "Пялёсткаў" і "На залатым пакосе". Падобныя згадкі і сведчанні тых, хто ведаў, ці назіраў пісьменніка ў жыцці, набываюць у кнізе асаблівую вагу, маюць выключна важнае значэнне для ўсіх, хто зацікавіцца асобай паэта. Вонкавы і ўнутраны воблік Маракова-паэта створаны калектыўнымі намаганнямі беларускіх літаратараў у напісаных імі ўспамінах, што часта цытуюцца ў кнізе. Успаміны гэтага належаць Станіславу Шушкевічу, Алесю Звонаку, Сяргею Грахоўскаму, Эдзі Агняцвет, Максіму Лужаніну, Юрку Віцьбічу і некаторым іншым. Спасылаецца даследчык і на матэрыялы з асабістых архіваў, якія таксама раскрываюць розныя бакі паэтычнай натуры В. Маракова. Ён быў з шэрагу тых маладых таленавітых людзей, што выклікалі захапленне, прыхільнасць, уражвалі сваім яркім унутраным гарэннем, творчым патэнцыялам. Гэта, уласна кажучы, красамоўна пацвярджаюць згадкі нашых пісьменнікаў пра гады яго вучобы ў Мінскім педінстытуце і адносіны да маладога паэта Я. Купалы:

"Самаю папулярнаю асобаю быў, вядома, Валеры Маракоў...

Калі на шумным і людным калідоры з'яўлялася яго здалёк прыкметная постаць, гамана сціхала, усе расступаліся, маладзейшыя прыхільнікі шапталіся: "Вунь Маракоў ідзе". Я ганарыўся нашым знаёмствам. Валеры заўсёды вітаўся за руку, пытаўся, што пішацца..." (С. Грахоўскі).

"В. Маракова любілі выкладчыкі педінстытута — акадэмік І. Замоцін, прафесары П. Бузук, М. Піятуховіч — за паспяховую вучобу, за глыбокія веды па мастацкай літаратуры. Ён смела падымаў голас супраць крыклівых і грубых сацыёлагаў..." (С. Шушкевіч).

"Янка Купала вельмі любіў Маракова. Ён заўсёды называў яго ласкава: "Валерык",

творчасці і культуру верша адзначалі многія тагачасныя крытыкі. Да прыкладу, цікавы і ў цэлым змястоўны "Літаратурны партрэт Валерыя Маракова" ў "Маладняку" за 1929 год змясціў Алесь Кучар, які тады быў у сяброўстве з Мараковым. Праўда, пазней, у 1935 годзе, крытык А. Кучар па даручэнні кіраўніка Саюза пісьменнікаў напісаў разгорнутую характарыстыку "О творчестве Валерия Морякова", у якой адмовіўся ад сваіх ранейшых слоў, даў процілеглыя ацэнкі паэзіі Маракова, ваяўніча кінуўся з крытычнай шабляй на таго, у кім зусім нядаўна бачыў "велізарнае паэтычнае пачуццё": "В. Моряков является наиболее ярким представителем богемско-упадничесткого отряда буржуазного национализма в белорусской литературе. Моряков исповедует в своем творчестве общие для всех буржуазных националистов идеи, однако, оттенённые богемским упадничеством..." Гэтая гора-характарыстыка з "аналізам" творчасці паэта ў тых умовах знішчэння "ворагаў народа" была пасквілем-даносам.

Даставалася розных абвінавачванняў і папрокаў на адрас В. Маракова яшчэ напрыканцы 20-х гадоў. Паэта бэсцілі розныя літаратурныя "шукайлы" (па імені П. Шукайлы, аўтара разгромных рэцэнзій), залічваючы яго да песняроў "пяшчотных струн, ледзяных гітар, пярыннага блажэнства і літаратурнай пустазвоніцы". Тады з пазіцый "пралетарскай літаратуры" паэзія Маракова судзілася сурова, бязлітасна, хоць сёння асабліва відавочная ўся надуманасць і бязглуздзіца абвінавачванняў накшталт наступнага: "Валеры Маракоў стаў членам літаратурнай сям'і ў дні, калі "мастацтва для мастацтва" з яго "лідэрамі" гвалтам лезла ў беларускую літаратуру. У дні, калі група людзей, што згубілі сцежку ў нашае сёння, адарваліся ад яго і пачалі шукаць "збавення ў чыстай "непарочнай" пекнаце нябёс". На самай справе В. Маракоў быў прадаўжальнікам Багдановічавай традыцыі паэтызацыі красы кахання, прыроды, ён спавядаў радасць і сум вечных пачуццяў, выгаворваў глыбока інтымнае, запаветнае, але ўсё гэта не прымалася вульгарызатарамі, абаронцамі "чысціні" пралетарскага, класава-партыйнага мастацтва і абвяшчалася ідэалагічна заган-

## ЧАСОПІСЫ

### "Полымя", N 1

Проза прадстаўлена апавяданнямі В. Быкава "Дваццаць марак" і А. Кудраўца "Каця і Балабончык", лірычнымі запісамі Я. Брыля "Пішу, чытаю, жыву", элегіямі В. Зуёнка "Чаравікі для баўэра", "Штаны", "Дзяцей шкада...". Змешчаны "Пальчновыя санеты" Р. Барадуліна, вершы С. Законнікава, Ю. Нератка. У раздзеле "Спадчына" прапануюцца вершы і вытрымкі з перапіскі Л. Геніюш (прадмова "Адна толькі праўда: зямля і Радзіма", падрыхтоўка да друку і публікацыя тэкстаў Л. Юрэвіча). Публікуюцца артыкулы М. Дуксы "Алтар паэзіі патрабуе чыстай душы", Л. Лыча "Ідэя дзяржаўнай незалежнасці ў славянскім свеце", Т. Навагродскага "Класіфікацыі страў беларускай народнай кулінарыі", С. Хамені "Мастацкая ўмоўнасць і рэалізм", В. Шынкарэнкі "У падарожжы праз імглу стагоддзяў", падборка запісаў С. Шаўцова "Пункцірам", рэцэнзіі на новыя кнігі.

### "Мастацтва", N 1

Нумар адкрываецца артыкулам Б. Бур'яна "Спроба разгадаць тэатральны феномен Расціслава Янкоўскага". Да вопыту рэжысёра М. Пінігіна звяртаецца Т. Арлова ("Бяда ад пяшчотнага сэрца"). А. Ахметшын ("Дванаццаць дзён у сталіцы") асэнсоўвае гастролі Брэсцкага тэатра драмы і музыкі, што праходзілі мінулым летам у Мінску. У раздзеле "Выяўленчае мастацтва" змешчаны артыкулы В. Трыгубовіч "Настальгія па велічы", Л. Фількенштэйн "Брама... З канца тысячагоддзя", Г. Фатыхавай "Мой лес і мой луг, і бацькоўская хата...", А. Аўчыннікава "Абмежаваная прастора". Святы "Славянскі базар у Віцебску" і "Залаты шлягер" у цэнтры ўвагі Д. Падбярэзскага ("Кожны спявае як можа"). А. Лабачэўская ўзяла некалькі інтэрв'ю ў славянскабазарным "Горадзе майстроў" ("Ці прыедуць у Віцебск ткачыхі з Афрыкі?"). Д. Сляповіч ("Аркестр — шматтэмбравы інструмент") разважае над асаблівасцямі Трэцяй сімфоніі У. Дарохіна. Чытач пазнаёміцца і з такімі матэрыяламі, як "Зараз адсюль вылеціць "птушка", або Анёл Карцье-Брэсона" А. Давыдчыка, "Нашчадак музычных традыцый славутага роду" С. Немагай, "Мікалай Папоў: беларускі архіў рэжысёра" А. Каўкі, "Сарматкае" барока ў

ным, варожым духу савецкага чалавека. Чаго каштавалі яму песні душы і сэрца, уражальна сведчаць матэрыялы следчай справы В. Маракова. Вось усяго дзве невялічкія вытрымкі з пратакола допыту, якія раскрываюць усю абсурднасць пытанняў і абвінавачванняў, што прад'яўляліся паэту пасля яго другога арышту ў лістападзе 1936 года:

**"Вопрос:**

— Далее, не видя "вольным свой край", то есть БССР, при сов. власти Вы в своем стихотворении "Встреча" просто говорите, что Вы не нашли здесь, при сов. власти, то, что искали, и контрабандно призываете восстановить в Белоруссии вместо Советского — буржуазно-националистическое государство:

*Чаго ж тады я верыў і імкнуўся,*
*Чаго я пеў, чаго хварэў душой,*
*Ў палях шырокіх роднай Беларусі*
*Чаго шукаў, таго я не знайшоў.*

Ваши ли это стихи? Признаете ли их контрреволюционными?

**Ответ:**

— Стихи эти принадлежат мне. Контрреволюционными приведенные мне строки не признаю, так как это стихотворение написано девушке, является лирическим и вместо "чаго шукаў" нужно читать "каго шукаў"... и по своему содержанию оно не призывает к восстановлению бурж. нац. государства".

**Вопрос:**

— Вы говорите неправду. Этот контрреволюционный призыв Вы продолжали и далее..."

**"Вопрос:**

— Следствие вновь уличает Вас в желании уйти от полного и правдивого ответа. Известно, что такая контрреволюция проходит у Вас красной нитью и в последующие годы Вашего творчества. В книге "Жизнь в цвету" 1933 (1934 г. — **Л. М.**) года Вы проповедовали нацдемовскую теорию надклассового искусства:

*Любоў і паэзія ідуць праз вякі..."*

Цяжка ўявіць і адчуць сёння, які пякучы боль працінаў сэрца паэта, якая вялікая крыўда апаноўвала яго істоту. Немагчыма было вытрымаць маральна-псіхічную і фізічную экзекуцыю катаў. Але вінаватым сябе В. Маракоў не прызнаў, трымаўся як мог, спадзяваўся на літасць і справядлівасць "суда".

Архіўныя дакументы, якія прыводзяцца ў кнізе (раздзел "Крыжовы шлях"), маюць вялікую каштоўнасць для гісторыкаў літаратуры, гісторыкаў увогуле. Але не толькі. Магутнае эмацыянальнае ўздзеянне яны робяць на любога чытача, апякаюць сваёй суровай і жахлівай праўдай. Зрэшты, сам паэт нібы прадчуваў трагедыйную наканаванасць уласнага лёсу: "А лёс мой — віхар-навальніца..." (верш "Жыццё, як моракіян..."). Цёмны "віхар-навальніца" забраў жыццё паэта, вычарпаць на поўную моц свой паэтычны талент яму было не суджана.

Час нярэдка нявечыць і руйнуе чалавечыя лёсы, але ён здольны, апрача іншага, адраджаць памяць. Вядома, дзякуючы намаганням і высілкам пэўных людзей. Духоўнае жыццё паэта Валерыя Маракова пасля гвалтоўнай смерці працягваецца, і ёсць сёння ў гэтым вяртанні да асобы і творчасці паэта часцінка працы яго пляменніка Леаніда Маракова, нашага з вамі сучасніка. Заключны раздзел кнігі "Жыццё пасля смерці" ў чарговы раз красамоўна гаворыць нам пра засяроджанасць, скрупулёзнасць і пільнасць даследчыцкага зроку Л. Маракова.

Нам невядома, дзе тая брацкая магіла, у якой сталінскія карнікі засыпалі паэта разам з іншымі ахвярамі. Кніга "Валеры Маракоў" зрабілася своеасаблівым надмагіллем у знак памяці пісьменніка, а сапраўдным літаратурным помнікам яму стане поўнае выданне яго творчай спадчыны. Не забывайма: сапраўдныя "любоў і паэзія ідуць праз вякі...".

**Алесь БЕЛЬСКІ**

---

архітэктуры Беларусі" Т. Габрусь, "Гліна набывае дух" В. Угрыновіч.

## "Кантакты і дыялогі", N 1-2

Да 2000-годдзя Хрысціянства прапануюцца артыкулы Д. Бэзіда "Расійская дума, рэлігійная талерантнасць і беларуская губерні ў 1905—1914 гг." і К. Лапіч "Нацыянальная самасвядомасць і рэлігія". У нумары ёсць і такія матэрыялы, як "Святкуе другая, каранаваная сталіца Беларусі" В. Чамярыцкага, "Увекавечым памяць Іосіфа Гашкевіча" П. Краўчанкі, "Парыжскія сустрэчы" А. Мальдзіса, "Да гісторыі габрэяў у былой Прапойскай воласці на Магілёўшчыне" І. Яшкіна. Прадстаўлены раздзелы "Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў свеце", "Рэцэнзуем кнігі", "Хроніка беларусазнаўчага жыцця", "З рэдакцыйнай пошты".

---

ВІНШУЕМ!

# Жыццёвыя сцежкі Віктара Шведа

### ДА 75-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

Калі мы хочам даведацца нешта пра паэта або пачаць пра яго зацікаўленую гаворку, то перш за ўсё павінны пачуць тое слова, з якім ён ідзе да людзей. Бо ніхто так не скажа пра аўтара, як яго ўласны паэтычны радок. І вось як сам Віктар Швед спавядаецца перад чытачамі:

*У маіх вершах — сэрца насцеж,*
*Праўдзівасць пройдзенага, дум.*
*У маіх вершах — маё шчасце*
*І ў перамешку боль і сум.*

*У маіх вершах — мае слёзы*
*Ад шчасця, ад трывог, бяды,*
*Бо раз на возе, раз пад возам*
*Мае імчаліся гады.*

*Бурліць у вершах безупынна*
*Мая гарачая любоў*
*І да народа, да Айчыны,*
*І да бацькоў, і да сяброў.*

*У мае вершы пераліта,*
*Як кроў у вены, пачуццё,*
*Усё, што мною пражыта, —*
*Усё-усё мае жыццё.*

**("Мае вершы")**

В. Швед даўно заваяваў значную папулярнасць на Беласточчыне як вельмі актыўны беларускі паэт і перакладчык, як прапагандыст беларускай літаратуры, а таксама беларуска-польскай садружнасці. Яго вершы і паэтычныя зборнікі друкаваліся таксама і ў Беларусі і заўсёды знаходзілі тут зацікаўленых чытачоў. Праўда, апошнім часам сустракаемся з ім рэдка, хоць сам ён актыўна ўдзельнічае ў літаратурным жыцці Беласточчыны.

23 сакавіка В. Шведу споўнілася 75 гадоў. І гэта — добрая нагода пагутарыць пра пошукі і здзяйсненні нашага шчырага сябра. Нарадзіўся ён у вёсцы Мора каля Гайнаўкі, непадалёк ад Белавежскай пушчы, у сялянскай сям'і. І хоць потым лёс закінуў яго то ў адзін горад, то ў другі — прытым у польскае асяроддзе, — ён на працягу ўсяго жыцця не страціў сувязі з роднай вёскай, з усімі тымі праблемамі, якія на працягу пасляваенных гадоў маглі хваляваць беларускага селяніна родных мясцін.

Жыццёвы лёс паспрыяў выяўленню і развіццю паэтычнага даравання В. Шведа. Ён атрымаў адукацыю, якая да вайны для звычайных жыхароў беларускай вёскі ў тых краях практычна была недаступнай. Пачынаў ён здабываць мудрасць кніжную ў даваеннай польскай пачатковай школе, так званай "szole powszechnej". І там ён напісаў першы верш на польскай мове. А ў 1940 годзе, пры савецкай уладзе, калі ён вучыўся ў арлянскай дзесяцігодцы, з беларускімі вершамі трапіў на раённы конкурс дзіцячай творчасці, што адбываўся ў Бельску.

Пасля другой сусветнай вайны вершы В. Шведа траплялі да першых чытачоў праз насценныя газеты ў беларускіх сярэдніх школах у Гайнаўцы і Бельску Падляшскім. Школу ў Бельску ён закончыў у 1946 г. Сваю адукацыю працягваў у Варшаве, на аддзяленні журналістыкі Акадэміі палітычных навук, выпускніком якое стаў у 1951 г. А яшчэ ён закончыў аддзяленне беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Да выхаду на пенсію працаваў у выдавецтве "Ksiazka i Wiedza" ("Кніга і веды") у Варшаве.

В. Швед знаходзіўся ля вытокаў пісьменніцкай арганізацыі беларускіх літаратараў Беласточчыны. У чэрвені 1958 г. у рэдакцыі "Нівы" ў Беластоку адбыўся першы сход беларускіх пісьменнікаў, на якім нарадзілася літаратурнае аб'яднанне, першым старшынёю якога стаў рэдактар "Нівы" Георгі Валкавыцкі. У газеце пачала рэгулярна з'яўляцца "Літаратурная старонка", а ў 1959 г. выйшаў з друку альманах "Рунь" — першы беларускі літаратурны зборнік.

У 1962 г. на трэцім з'ездзе адбыліся хрэсьбіны літаратурнага аб'яднання. Яно стала называцца "Белавежа". Адным з найбольш актыўных і папулярных удзельнікаў аб'яднання на ўсіх этапах з'яўляўся і з'яўляецца наш юбіляр В. Швед. Першы яго зборнік — "Жыццёвыя сцежкі" — пабачыў свет у Беластоку ў 1967 г. Потым з'явіліся паэтычныя кніжкі "Дзяцінства прыстань" (Беласток, 1975), "Дружба" (Мінск, 1976), "Мая зялёная Зубровія" (таксама Мінск, 1990), "Родны схоў" (Беласток, 1991), "Вясёлка" (Беласток, 1991). В. Швед прымаў таксама ўдзел у падрыхтоўцы беларускіх падручнікаў для VII класа "Дружба і праца" (Варшава, 1967) і "Насустрач жыццю" (Варшава, 1974). А яшчэ ж яго паэзія добра прадстаўлена ў літаратурных альманахах "Мой родны кут" (Беласток, 1963), "Белавежа" (Беласток, 1965, 1971, 1980, 1988), у зборніку "Літаратурная Беласточчына" (Мінск, 1973), у "Беларускіх календарах", якія штогод выдаюцца Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку.

Вершы паэта перш за ўсё прысвечаны бацькоўскай зямлі, роднай мове, усяму таму, што кожнаму чалавеку з дзяцінства з'яўляецца найбольш дарагім. Па сваім змесце яны звязаны з пасляваенным жыццём Беласточчыны, з паўсядзённым побытам і працай селяніна, з тымі працэсамі і зменамі, якія адбываюцца ў родным аўтару асяроддзі. Усю паэзію В. Шведа пранізвае пранікнёнае пачуццё патрыёта, у кожным радку яго вершаў — жывая і непарыўная сувязь з роднымі вытокамі.

Нам сёння трэба адзначыць, што на ўсіх этапах свайго творчага шляху В. Швед захаваў вернасць сапраўднай паэзіі, тым традыцыям, якія перадало нам у спадчыну і польскае і беларускае XIX стагоддзе ды і пачатак нашага, што ўжо канчаецца. Чытаеш яго, і ўсюды яму верыш, бо ён снуе свае песні ад душы.

Надзейна засвоіўшы традыцыі польскай і беларускай — перш за ўсё рэалістычнай — паэзіі, В. Швед на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў плённа працягвае іх і ўзбагачае на роднай глебе. Ён прытрымліваецца страфічнай пабудовы верша, выпрацаванай і адшліфаванай на працягу стагоддзяў многімі пакаленнямі найвыдатнейшых майстроў слова. Паэзія В. Шведа каштоўная гармоніяй зместу, пачуцця, рытму, мастацкага вобраза. І па сэнсе яго вершы заўсёды выразныя, празрыстыя, а чытач не мае патрэбы задумвацца над значэннем паэтычных вобразаў, над тым, што хацеў сказаць аўтар, дзеля чаго ён узяўся за пяро.

Асабліва хочацца адзначыць здзяйсненні і набыткі В. Шведа ў галіне дзіцячай паэзіі. Якраз гэтым вершам прысвяціла свой нарыс польская даследчыца Тэрэса Занеўская ў кнізе "Дарэмнае падарожжа" ("Podroz daremna", Беласток, 1992). Сама яна не звязана з літаратурным аб'яднаннем "Белавежа" і зірнула на здзяйсненні беларускіх пісьменнікаў збоку, як чалавек, які нечакана для сябе адкрыў, што ў яе на радзіме існуе не толькі культура польская, але і такая, пра якую ў школе на ўроках ніхто ніколі не сказаў ні слова. Між іншым і ў даваеннай Польшчы ў гімназіях і ліцэях нават і намёкам ніхто не спрабаваў заікнуцца пра існаванне нейкіх там беларусаў. З першых класаў "школы повшэхнэй" кожны вучань на пытанне "Кто ты естэсь?" меў права даваць толькі адзін адказ: "Поляк малы". Сама Т. Занеўская шчыра прызнавалася: "І толькі калі лёс прысудзіў мне жыць на Беласточчыне, нарадзілася ўсведамленне "адметнасці" і наяўнасці розных культур на польскай зямлі".

Дык вось, Т. Занеўская, зірнуўшы свежым вокам на здзяйсненні "белавежцаў", зрабіла даволі-такі нечаканы, але дастаткова абгрунтаваны вывад: "На працягу амаль трыццаці пяці гадоў сваёй багатай творчасці і разнастайнасцю паэтычных пошукаў садзейнічаюць яны развіццю літаратуры беларускай, узбагачаючы таксама культуру польскую, бо ўсё ж вытокі іх творчых пошукаў знаходзяцца на польскай зямлі з невыказнай красой яе краявідаў і людзей. Пішучы на роднай мове, яны ў сваёй творчасці ўзнімаюць праблемы філасофскія і універсальныя і пацвярджаюць каштоўнасць і прыцягальнасць сваёй нацыянальнай літаратуры". Сваёй кнігай Т. Занеўская імкнулася "засведчыць жывую прысутнасць беларускіх аўтараў у літаратурным жыцці і польскай культуры".

Усё сказанае тут мае самае непасрэднае дачыненне да творчасці В. Шведа, бо ён не толькі творча ўспрымае найбольш прагрэсіўныя традыцыі культуры польскай (побач, вядома, з беларускай), але і сам перакладае беларускія творы — у тым ліку і свае ўласныя вершы — на польскую мову.

Т. Занеўская прысвяціла свой нарыс разгляду паэзіі В. Шведа для дзяцей. Пры гэтым яна спасылаецца на вядомае выслоўе, што "для дзяцей трэба пісаць так, як і для дарослых, толькі лепш". Яна паказвае тое асяроддзе, у якім жывуць малыя героі і чытачы твораў паэта. Гэта — перш за ўсё вёска, вясковы панадворак, лес, агарод, поле, луг, заселеныя жывымі істотамі — звярамі і птушкамі. І, вядома, не абыходзіць паэт паўсядзённай цяжкай працы жыхароў вёскі — той працы, у якой па меры сваіх сіл і магчымасцей удзельнічаюць дзеці і якая садзейнічае выхаванню іх грамадзянскіх пачуццяў.

Знаёмячыся з гэтай паэзіяй, мы наглядна пераконваемся, што ёсць у ёй і гумар, і назіральнасць, і дыдактыка — у меры асцярожная, але пераканаўчая. Аднак найбольш каштоўнае тут тое, што аўтар тонка ўлоўлівае і адчувае псіхалогію ўспрымання навакольнага свету самымі маладымі чытачамі, якім ён адрасуе свае творы. У якасці прыкладу можна спаслацца на верш "Гаспадарыла сонца на градках":

*Колькі дзіваў на градках ля хаты*
*Нінка ўбачыла летняй парой!*
*Ловіць сонца сланечнік цыбаты,*
*Залатою трасе барадой.*

*Як вужака, па тычцы да сонца*
*Струкавы узбіраецца боб.*
*І гарбуз прыпякае бясконца*
*Аграмадны, бліскучы свой лоб.*

*Ад спякоты, як крот на загоне,*
*Закапаўся ў зямлю бурачок.*
*Пад зялёным схаваў парасонам*
*Прыгажосць чырванеючых шчок.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Шмат на градках і дзіваў і чараў*
*Заўважыла Нінка кругом.*
*Дбала сонейка тут гаспадарыць,*
*Напаўняе прыроду жыццём.*

У сённяшніх умовах, калі беларушчына перажывае такія трывожныя часы, асабліву каштоўнасць набываюць вершы В. Шведа, якія абуджаюць у чытача цікавасць да гісторыі нашага народа. Возьмем хоць бы такі прыклад:

*Раскажы нам, лес дрымучы,*
*Аб мінуўшчыне сівой.*
*Пазнаваць нас мала вучаць*
*Шлях гісторыі сваёй.*
*Мы пра тое знаем мала,*
*Як пад кронамі дубоў*
*820Воўк некалі Ягайла*
*На Крыжакаў грозных вёў.*
*Лес дрымучы, раскажы нам*
*(Ці ж было ў нас мала спраў!),*
*Як першадрукар Скарына*
*З Вільні ў Кракаў вандраваў.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Раскажы нам, лес бывалы,*
*Як падчас ваенных год*
*З фашыстоўскаю навалай*
*Тут змагаўся наш народ...*

**("Раскажы нам, лес дрымучы")**

У вершах паэта ўваскрасае памяць пра М. Багдановіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Гаруна, пра жахлівыя гады апошняй вайны, пра жыхароў вёскі Райск, закатаваных гітлераўцамі ў 1942 г. І ўсюды ён умее сказаць сваё адметнае паэтычнае слова. Хіба ж чытача не крануць радкі, сказаныя пра нашага пакутніка А. Гаруна?

*Ты з небыцця да нас вярнуўся,*
*Цяжкі твой і па смерці лёс.*
*Распяты ў роднай Беларусі,*
*Ты ўваскрасаеш, як Хрыстос.*

Можна тут нагадаць, што перш, чым уваскрасаць, А. Гарун памёр у далёкім Кракаве, маючы ўсяго 33 гады, якраз у хрыстовым узросце.

Вядома, тут няма магчымасці прасачыць усе жыццёвыя сцежкі, увесь творчы шлях паэта. Але хоць нейкае ўяўленне пра творчыя набыткі нашага юбіляра павінны даць і прыведзеныя вышэй радкі. А завяршыць нашу гаворку хацелася б словамі самога В. Шведа, сказанымі шмат гадоў таму назад:

*Хоць лічаць нам у юбілеі*
*Гады, што мчаць у небыццё,*
*Мы не старэем, мы сталеем*
*І ўдасканальваем жыццё.*

І сёння з нагоды юбілею Віктара Шведа і сустрэчы з яго творчасцю пажадаем яму і моцнага здароўя, і вялікага плёну ў творчай працы, і поспеху ва ўсіх справах. І традыцыйнае: "Sto lat!"

**Уладзімір КАЗБЯРУК**



## ЧАСАПІС

# "Усмешка Джаконды"

Час такі, што няма, здаецца, падстаў радавацца. І тое не так, і гэта засмучае. Тым не менш усё ж бываюць мінуты, калі хочацца ўсміхнуцца, адпачыць душой. І ў такім разе адно з выйсцяў — пазнаёміцца з гумарыстычнымі ці сатырычнымі творамі. Праўа, падобных кніг сёння выходзіць не так і шмат. Ды нездарма кажуць: у любым правіле бывае выключэнне. А такім выключэннем і стаў зборнік гумару Міхася Слівы "Усмешка Джаконды", што выйшаў у Магілёўскай абласной друкарні. Прозвішча яго аўтара знаёма чытачам "ЛіМа". І не толькі па публікацыях у нашым штотыднёвіку. М. Сліва друкаваўся і ў такіх выданнях,

Міхась СЛІВА

Усмешка

Джаконды

як часопісы "Вожык", "Полымя", "Беларусь", "Першацвет" і іншыя. Выступаў і ў калектыўных зборніках "Жарты, анекдоты, гумарэскі", "Кубік Рубіка", "П'яныя каровы" і іншых. Ды і кніга "Усмешка Джаконды" таксама задумвалася як калектыўная і планавалася ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", але ў выніку фінансавых цяжкасцяў пераносілася з году на год. І атрымалася, як у той прымаўцы: не было шчасця, дык няшчасце дапамагло. М. Сліва знайшоў тых, хто яго падтрымаў, а ў выніку і з'явілася яго аўтарская кніга. Адразу засведчу: атрымалася яна вельмі змястоўнай, цікавай, а галоўнае, смешнай.

Здавалася, а хіба можа быць зборнік гумару — не смешны? Але, на жаль, нярэдка надараецца і такое. Аўтар спрабуе рассмяшыць чытача, але гэта ў яго ніяк не атрымліваецца. А ўсё таму, што ён не мае свайго голасу, не ўмее знайсці такія калізіі і сітуацыі, якія і на самай справе вартыя таго, каб да іх паставіцца неабыякава. Вось і атрымліваецца, што гумарыст сіліцца выклікаць у чытача ўсмешку, а таму смяяцца не хочацца. І наадварот, калі аўтар разумее і адчувае прыроду гумару, з'яўляюцца творы надзіва арыгінальныя, адметныя. А падобных твораў у М. Слівы пераважная большасць. І ў розных жанрах. У гэтым пераконвае і зборнік "Усмешка Джаконды". Хоць бы з аднайменнай гумарэскай. Яна кароткая, вельмі лаканічная: "Я сустракаўся з ёю амаль штодня. Ідучы ў гастраном па пакупкі, вяртаючыся дадому, заўсёды заглядваўся на яе. Прыгожы твар, прывабная, загадкавая, нават таямнічая, як у Джаконды, усмешка. Надзвычай зграбная постаць". Адразу ж хочацца даведацца, хто яна, гэтая незнаёмка: "Так прайшло некалькі тыдняў. Нават на рабоце я стаў думаць толькі пра яе, з нецярплівасцю чакаў канца змены, каб хутчэй бегчы дамоў, а потым — у магазін. Сёння ж на сэрцы горка і цяжка... Часопіс, на вокладцы якога быў змешчаны фотаздымак прыгожай артысткі кіно, у кіёску нехта купіў". І такіх гумарэсак — з нечаканай канцоўкай, а многіх і з глыбокім падтэкстам — у кніжцы шмат. Удаюцца М. Сліве і творы, што нагадваюць анекдоты. Каторы ні прачытаеш, абавязкова ўсміхнешся. Так і хочацца прывесці некалькі з іх. Можа, для пачатку гэты, — "Карацелька":

"— Ты храпеш, як леў, варочаешся ў ложку, як мядзведзь, ходзіш, як слон! — дакарае жонка мужа. — А ўсё астатняе робіш, як сонная муха".

Або яшчэ адзін — "Падазрона":

"— Ты часам не захварэў? — пытаецца жонка ў мужа.

— А чаго ты так устрывожылася?

— Бо сёння ты прыйшоў дадому цвярозы?"

З самога жыцця "выхаплены" і анекдот "Штраф":

"Міліцыянер спыніў аўтамабіль. Падыходзіць да вадзіцеля.

— Вы перавысілі хуткасць. Плаціце штраф — мільён рублёў!

— А ў мяне з сабой такіх грошай няма, — адказвае вадзіцель.

— Давай, колькі ёсць!"

А яшчэ ўвайшла ў кнігу сатырычная аповесць "Белая варона, або Дыярыуш Сымона Капелюша". І яна вылучаецца дасціпнасцю, прываблівае ўменнем аўтара будаваць сюжэт. Думаецца, што "Усмешка Джаконды" знойдзе свайго ўдзячнага чытача. А яшчэ хацелася б, каб увагу на яе звярнулі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці. Асобныя творы М. Слівы вартыя таго, каб загучаць з вуснаў дэкламатараў.

Юрась ВАЙСЁНАК

## ПАЭЗІЯ

Віктар ШНІП



# І будзе ў Храме Бог...

•

*Канчаецца дваццатае стагоддзе,*
*Нібы жыццё канчаецца зусім,*
*Нібы над вогнішчам ацiхлым дым,*
*Нібы дарога на вясновым лёдзе,*
*Канчаецца дваццатае стагоддзе.*

*І ты глядзіш на свет, як дамавіну,*
*Дзе шчэ не ўсё змярцвела, адцвіло,*
*Дзе нашых дзён самотнае святло*
*Анёлы носяць Богу, быццам гліну,*
*І ты глядзіш на свет, як дамавіну.*

*Канчаецца дваццатае стагоддзе,*
*Нібы ў пустэльні шлях за небасхіл,*
*Нібыта з-пад вазоў дзядоўскіх пыл,*
*Нібыта крык у знішчанай прыродзе,*
*Канчаецца дваццатае стагоддзе...*

## Яшчэ адна ўтопія

*І знікне ўсё і з'явіцца Нічога,*
*І ад Нічога зноў пачнецца свет,*
*Дзе ўжо не будзе ні цябе, ні Бога,*
*І ўжо ніхто навейшы Запавет*
*Не зможа запісаць, бо не пачуе,*
*Як напачатку слова прагучыць.*
*І міг міне і вечнасць запануе,*
*І сонцам усплыве святло з начы,*
*І знікне ноч, нібы пачатак свету,*
*І я прачнуся невядома дзе,*
*І прыпалю ад сонца цыгарэту,*
*І буду плыць у небе, як вадзе,*
*Што неяк засталася ад патопу,*
*Калі знікала ўсё і назаўжды.*
*Я зноў сабе прыдумаю Еўропу*
*І сатвару з аблокаў гарады.*
*І ўсё ізноў паўторыцца з Нічога,*
*І будзе ў Храме Бог, і свет без Бога.*

## Начная балада

*Цёмныя людзі на вуліцах цёмных,*
*Быццам нашчадкі сабакаў бяздомных,*
*Ноччу блукаюць, шукаюць святло,*
*Быццам калісьці святло тут было*
*І на слупах на бетонных віселі,*
*Нібы матросы-паўстанцы на рэі,*
*Белыя, быццам сцягі, ліхтары.*
*Нібы Кітайскія сцены, муры*
*Свет гарадскі раздзяляюць каменна.*
*Цёмныя людзі блукаюць ля сцен.*
*Страшна выходзіць на вуліцу нам,*
*Выйдзем з табою і пойдзем у Храм,*
*Каб там за цёмных людзей памаліцца.*
*Можа, й яшчэ хто начы не збаіцца,*
*Можа, й яшчэ хто падасць ім святла...*
*Знічка зляцела, бы ўпала страла,*
*З цёмных далёкіх забытых гадоў,*
*Дзе нас няма, дзе ёсць смерць і любоў.*

•

*Зноўку снегам засыпаны нашы дамы*
*І, як снежныя людзі, па вуліцах мы*
*Ходзім, быццам шукаем, чаго ўжо няма.*
*І навокал, нібыта Еўропа, зіма,*
*Ад якой не схавацца, пакуль тут жывём,*
*І ў тралейбусе едзем, нібыта плывём*
*У жалезным чаўне, дзе нябачны Харон*
*Нас вязе між слупоў, як антычных калон.*
*І мне хочацца выйсці і следам ісці*
*За жанчынай, што ведае сэнс у жыцці,*
*За якое ўсё ж варта штоміг паміраць*
*У каменных дамах,*
*што, як горы, стаяць*
*У снягах, як самоце, што знікне вясной,*
*Калі тут да яе дажывём мы з табой.*
*А пакуль з неба сыплецца, сыплецца снег.*
*Нібы д'яблавы смех, нібы д'яблавы смех...*

## 2000

*Гэтай ноччу і вечнасць прайшла.*
*Бы віно мы з табой дапілі*
*З пляшкі той, дзе атрута была.*
*Мы памерлі. І мы ажылі.*
*І глядзіш ты, як прывід, на свет*
*І не бачыш у свеце мяне,*
*Дзе на снезе лятучым партрэт*
*Твой вісіць, быццам бы на сцяне,*
*Да якой мне ісці праз вятры*
*І не знаць, што спадман прада мной,*
*Пра жыццё, як пра смерць, гаварыць*
*І стаяць, як туман, прад сцяной,*
*За якой анічога няма,*
*Як віна, што з табой дапілі.*
*І цябе я шукаю дарма.*
*Мы памерлі. І тут не былі.*

•

*Сумна ўсё гэта, сумна ўсё гэта...*
*Цяжка на свеце без пісталета,*
*Цяжка на свеце, хоць ты памры,*
*Хоць ты атруты ўсім навары.*
*Сумна ўсё гэта, сумна ўсё гэта,*
*Быццам труна, труна для паэта,*
*Жыць што не можа без пісталета,*
*Без пісталета, быццам без лета,*
*Лета, якое знікла даўно,*
*Як за капейкі ў крамах віно.*
*Сумна ўсё гэта, сумна ўсё гэта,*
*Ты дагараеш, як цыгарэта,*
*Тая, што кінуць, плюнуць услед.*
*Не дапаможа і пісталет*
*Нешта каб здзейсніць, нешта змяніць.*
*І застаецца толькі — запіць.*
*Сумна ўсё гэта, сумна ўсё гэта.*
*Свет наш, нібы габрэйскае гета.*
*Сумна ўсё гэта, сумна ўсё гэта...*

## На станцыі "Няміга"

*Выходжу з метро,*
*быццам бы з таго свету,*
*Не свечку палю, а палю цыгарэту.*
*Той свет застаецца ў мяне за спіною.*
*Той свет, як ступенькі*
*між мной і табою.*
*Ды я ўсё далей і далей па праспекце*
*Іду па асфальце гарачым, як леце,*
*Дзе нам не сустрэцца ніколі з табою.*
*Той свет, як сцяна між табою і мною.*
*І ноччу святою ў цямрэчы перона*
*Мільгне электрычка, як човен Харона,*
*І кінеш пад ногі ты мне цыгарэту,*
*Нібыта запіску бацькам з таго свету...*

•

*Нібыта з вечнасці туман, апошні снег*
*Ляціць на белую, як смерць, зямлю.*
*І ў лёце снегу чуецца анёльскі смех,*
*І слова чалавечае "люблю".*
*І ты ідзеш праз снег, нібы праз белы лес,*
*Які між намі быў, якога не было,*
*Які шумеў, і ў шуме чуўся паланез,*
*І з неба зорак капала святло,*
*І замярзала на ляту, і снег гусцеў,*
*І ў цемнаце двароў, бы ў бездані, знікаў.*
*І Марк Шагал над горадам,*
*як чорт, ляцеў*
*І жоўтае нам неба маляваў...*

•

*Вось і свята прайшло, бы стушылі святло,*
*І мы ўсе разыйшліся, нібыта цяпло*
*Ад віна па ўсім целе, па шэрай начы,*
*У кішэнях пустых ад кватэры ключы*
*Адшукаўшы, нібыта ўключыўшы святло*
*На праспекце ў дажджлівай,*
*як восень, начы,*
*Каб вярнуцца дамоў, як вярнуцца з вайны*
*У кватэру, дзе толькі ёсць сцены адны*
*І вада, што на кухні ўсё з крана цячэ,*
*І нічога яшчэ, і нічога яшчэ*
*Ты ў жыцці не зрабіў,*
*каб пайсці на спачын*
*Ад прапітых сяброў,*
*ад сцярвозных жанчын,*
*І таму будзеш піць ты з-пад крана ваду,*
*Быццам вечнасці кроў,*
*быццам восень-бяду,*
*Ад якой анікому нідзе не ўцячы*
*Па праспекце ў дажджлівай*
*халоднай начы,*
*Бо ўжо свята прайшло,*
*бы стушылі святло,*
*Дзе яго аніколі і так не было.*

З ЦЫКЛА "ЧЫРВОНЫ ЛІХТАР"

## Балада семнаццацігадовай

*Табе семнаццаць, а яму ўжо сорак,*
*І ты магла яго дачкою быць,*
*Хадзіць у школу з дзённікам пяцёрак*
*І камсамолаўскі значок насіць.*
*Але ў цябе ж усё не слава богу*
*З тых дзён, як ты з'явілася на свет,*
*З тых дзён, калі на слізкую дарогу*
*Ступіла ты, прыйшоўшы ў кабінет*
*Да гінеколага габрэя Мішы,*
*Які любіў маладзенькіх дзяўчат*
*І складна тарабаніў пра Парыжы...*
*Прайшлі гады, не вернеш іх назад,*
*Як не вярнуць цнатлівасці ніколі.*
*І ты жывеш з багатым мужыком,*
*Які, як ты, не davучыўся ў школе,*
*Ды аваладаў добра кулаком.*
*Табе семнаццаць, а яму ўжо сорак,*
*Ён, можа, праз дзесятак год памрэ,*
*Пакіне яхту для цябе ля мора*
*І "Мерсэдэс" іржавы на двары.*

## Балада сустрэчы

*У святле чырвоных ліхтароў*
*Ён, як кот, з табой сустрэўся зноў.*
*Ну а ты, як год назад, была*
*Прыставучай, быццам бы смала,*
*Толькі ўжо без грошай і сяброў*
*Штось яму шаптала пра любоў.*
*Ён цябе, як брат, пашкадаваў*
*І дамоў зайсці прапанаваў —*
*На Канары з'ехала жана.*
*Музыку ўключыў, наліў віна...*
*Ну а ты нервоваю была —*
*Пляшкаю па галаве дала.*
*Не забіла, а магла забіць...*
*— Чым жа я не змог ёй дагадзіць? —*
*Так цяпер ён думае адзін,*
*Рыжы, як з Марока апельсін.*

## Балада самотнай

*У вандроўным дыме змрочнага вакзала,*
*Дзе спыняюцца ў Варшаву цягнікі,*
*Кожну ноч ты ў міні цёртай сумавала*
*І ад суму ад тваіго ўсе мужыкі*
*Вар'яцелі ціха, як ля мёду мухі,*
*І вачамі распраналі дагала,*
*Быццам бы апошнюю на свеце шлюху,*
*Толькі ты ніколі шлюхай не была.*
*Ты хацела проста з'ездзіць у Варшаву*
*І па ёй, як прывід, ноччу пахадзіць,*
*І ў кавярні "Глобус" з фліжанкі каву,*
*Як саму Еўропу, стомлена папіць.*
*Аб тваіх жаданнях аніхто не ведаў,*
*І тым больш не ведаў Сашка-хуліган,*
*І пайшоў ён ноччу за табою следам,*
*Быццам за авечкай малады баран.*
*І ніхто нічога не пачуў уночы,*
*І ніхто ні слова, пэўна б, не сказаў,*
*Каб тваю спадніцу не знайшоў абходчык,*
*Каб не побач Сашка, як жывы, ляжаў...*

## Балада любові

*Хто Азію любіць, хто любіць Еўропу,*
*А ён палюбіў вашу царскую попу,*
*Якую вы ў цесныя джынсы схавалі,*
*Нібыта ў скляпенне віно Цынандалі*
*Замкнулі і ўсім пра яго расказалі.*
*За вамі ён следам ідзе па бульвары,*
*Нібыта з кастэтам,*
*з усмешкай на твары.*
*За вамі, нібыта за флейтай гадзюка,*
*Ідзе і ў мазгах паўтараецца: "Сука!"*
*І лісце, як піва разлітае ў бары,*
*Жаўцее наўкола і вас асвятляе,*
*І дзівіцца ён, што ніхто не спыняе*
*Такую красотку, такую марцэлю,*
*З якой бы згубіцца хаця б на нядзелю*
*У ціхім гатэлі і шуму гатэлю*
*Такога ўчыніць, каб усе ўспаміналі,*
*І ўспомнілі б вас, і ўсю ноч уздыхалі..*
*За вамі ён следам ідзе па бульвары,*
*Нібыта іграе цыган на гітары*
*І думае, што ён адхопіць даляры*
*За песню, якую ніхто тут не чуе,*
*Але ўсё ж якая вам ножкі цалуе...*
*Хто Азію любіць, хто любіць Еўропу,*
*А ён палюбіў вашу царскую попу.*

## Балада падсуднай

*Як на чорнай на лаве, як на лаве падсуднай*
*Ты сядзела адна, як савецкая вош,*
*І навокал было, бы ў аўтобусе, людна,*
*І бліскучы пракурор, бы ў зазубрынах нож,*
*І глядзеў на цябе і не бачыў нічога,*
*Бо заліты яго вечна вочы вінам.*
*На яго ж ты глядзела,*
*як глядзела на Бога*
*Твая маці-матуля*
*перад вечным прад сном.*
*І цябе засудзілі, нібы прыдушылі,*
*Аж на дваццаць*
*на пяць арыштанцкіх гадоў.*
*І сяржанты-мянты табе рукі скруцілі,*
*Павялі між людзей, як галодных ваўкоў.*
*І слязамі ты ўся, як агнём, залілася,*
*Дзіка людзі табе пра расплату раўлі.*
*І чаму пракурору ты не аддалася,*
*І чаму табе праўду сказаць не далі?*
*З-за цябе твая маці адышла назаўсёды,*
*Што любіла цябе — толькі не зберагла.*
*І згніеш ты ў турме за сяброў-ідыётаў,*
*І ніхто не прыпомніць, якой ты была...*

Марыя ВАЙЦЯШОНАК

# ВОСТРАЎ

АПАВЯДАННЕ



*Леаніду ГАЛУБОВІЧУ*

Вялікая вада, мора... Каля яго я заўсёды баялася нечаканасці, выпадковасці, яно ўвесь час у руху, яно ненадзейнае, з ім патрэбна тая ж асцярога, як у дзяцінстве з талеркай супу да краёў, — гэтак жа лёгка яго кульнуць сабе пад ногі ці на настольнік, несучы ў абедзвюх руках. А цяпер бегла да яго, — толькі б паспець зняць пальчатку, пакуль хваля прывітальна дойдзе да берага. Высокая вада раптоўна акочвае да паясніцы. Як недарэчна! — трэба вяртацца ў атэль пераапранацца. Але на адзежы аніводнай кроплі, вада скацілася, як з тугога лісця?! Зноў хваля ідзе, з белым грэбнем. Каля самага берага вымае грэбень, дробныя кучары рассыпаюцца па каменнях. Я болей не рызыкую, стаю наводдаль — цуды не паўтараюцца. Мае новыя прыяцелькі, астравіцянкі Гуніла з Эльзай, гаспадыні ўласнага атэля, запытальна глядзяць на мяне, галіны на спрадвечным дрэве. На вуліцах лёгка зблудзіць, дамы натоўпам, цесным натоўпам, які ўвесь час рухаецца, перамяшчаецца, і каб знайсці знаёмы дом, трэба яго шукаць ужо на новым месцы. І аніякай упэўненасці, што трапіш. Тут, пэўна, трэба ведаць гаспадароў, быць тутэйшым, — з чужынцам горад гуляе ў хованкі. Вуліцы быццам будаваліся адвольна, без агульнага плана. І толькі пазней заўважыш, як яны ўсе сцякаюць ручаямі, вадаспадамі па сходках — уніз, да мора. І сама ўвесь час, дашчэнту сцёгаўшыся, выходзіш да мора. Рака ўнутры нас, мора нас абдымае, як сказаў паэт. Чуеш за спіной шоргат, павароЧваеш ад мора блажэнны твар — едзе на веласіпедзе старая рыбачка, прывіталася, паглядзела пільна, бы я ўсміхалася ейнаму мужу, а пэўней — адразу пазнаўшы іншаземку, бо тут нязвыкла выказваць свае эмоцыі. Самае жаданае і нязбыўнае: узяць з дому веласіпед з поўным кашом рыбы, прымацаваным да сядла, і выехаць ёй насустрач і павітацца першай, добра засвоіўшы — ты павінен абнадзейваць сваёй лаю, малюнак скупы, як на скале. Але хіба магчыма перакласці, перавесці на мову, што хочаш сказаць?! Мы паведамляем адно аднаму моўчкі больш і дакладней. Чалавек неперакладальны. Колер вачэй, колер валасоў, рухі, позірк, ад нас ідзе інфармацыя бясконца і счытаць яе магчыма толькі на ўзроўні падсвядомасці. Скульптура чалавека таксама маўчыць, але да яе прыходзяць, як прыходзяць да маўклівага мора, гор, лесу. Гётэ лічыў, што аналізаваць колер вясёлкі — шкодзіць "сэрцу прыроды".

Ці не таму мы болей маўчым, лёгка маўчым з блізкімі нам людзьмі, з каханымі.

Эльза дастае з кішэні вялізныя ключы, каб адчыніць дзверы старадаўняй паўразбуранай царквы, нешта тлумачыць, падымае руку, крыху наводдаль ад сябе, далонь чашай, быццам трымае ў ёй тое, аб чым гаворыць. І так зразумела: тут старанна пільнуюць кожны рух, нават шоргат стомленага каменя ў сцяне, каб падтрымаць, замацаваць, даць калі я асалавела вяртаюся да машыны. Адводжу позірк, па-змоўніцку азіраюся на мора, абяцаючы маўчаць, бо яно можа незалюбіць пагалоскі.

Мы адлучаныя ад мора, ад ягонай стыхіі ціхімі балатамі, лясамі, як у прыродным кляштары ўсё роўна, — вось там, дома, і паспавядаюся.

Валасы ў Эльзы то за адно плячо, то за другое, то сцякаюць на грудзі ручайкамі, высветленымі на канцах, выпетраныя, вылашчаныя. У іх заўсёды жыве вецер, яна заўсёды недзе на вяршыне і сярод нас, стрыжаных жанчын. Твары ў абедзвюх пасівераныя, вочы з чырванню, бы ўвесь час каля агню, блікамі сярэднявечных вогнішчаў гараць шыбы ў вокнах дамоў на захадзе. Востраў. "Іх бін гойтэ орднунг!" — крычу ім раз-пораз. Яны смяюцца, разумеючы, што я толькі вось гэта і ведаю на іншай мове са школьнай праграмы, шведскага — ані слова. Але ці патрэбна тут, на востраве, мова?! Паўсюль знаходжу знакі прыветнага гаспадара. Накрытыя спецыяльнай адзежынай пад дажджом коні, прывітальнае "хей" ля мора, на вуліцах,у крамах, — хай сабе і камерцыйнае. Адрэжце мне во такі, паказваю, кавалак рыбіны, і раптам чую голас з радзімы: "А хвост каму? Бяры ўсё, калі хочаш!" Адразаюць з прыхілкай усмешкай, бо я найважнейшая асоба, пакупнік, маю права на густ, на выбар. Вядома, востраў. Я тут госця, але сабакі не брэшуць на чужых, спыняешся каля іх на вуліцы, каб падзівіцца, гаспадар затрымліваецца, абое ўслухоўваюцца ў маю мову, як у мову немаўляці. Ніхто не пільнуе тваіх крокаў. Ноч. Ціша. Сабакі недзе побач. Яны кладуцца блізка каля чалавека, прыхінаюцца, прымаючы формы твайго цела, — то клубком у падоле, то ўздоўж спіны. Ляжыш, бы на цёплай, нагрэтай за дзень скале, не адчуваючы сцен, клямак, запораў, — мы абмежаваны ўсе разам, увесь востраў, толькі блізкімі берагамі мора. Я чую праз сон, як, можа, за вярсту ад мяне жаліцца Гуніла: дом, які яна калісьці набыла на востраве, доўга яе не прымаў — ламала на сходках ногі, збівала локці, пакуль не знайшла ў падполку вялікую іголку, якой былы гаспадар рамантаваў рыбацкі невад. Эльза яшчэ днём паказвала, у якім баку жыве ейная сям'я. Паварочваюся туды тварам. Хто з іх расказваў: я прачынаюся іншы раз у захапленні, але нічога не памятаю, гэтага нельга ўспомніць, бо такога не бывае. Можа, у сне яна каторая адчувала бязмоўнае шчасце цвітучай архідэі, іх тут на востраве трыццаць тры віды. Няўжо ўсё сапраўднае адбываецца з намі ў сне?

Мы ніколі не гаворым пра сваіх мужчын.

Кладзешся спаць толькі дзеля таго, каб устаць, узысці разам з сонцам, а то і раней. Мокрыя вуліцы, жвір, пясок, як свежыя, бы толькі што занесеныя хваляй, — можа, мора заходзіць ноччу ў горад, ціха, сонна, адным грабеньчыкам? Горад Сярэднявечча, другая даўгата жыцця, усё, што ні робіш, набывае значны сэнс, нават веліч, рухі міжволі запавольваюцца, бы нехта хоча зафіксаваць звесткі аб табе. Людзі тут, пэўна, не паміраюць, а адміраюць, як ветлівасцю ўсіх вакол сябе.

Вяртаешся дамоў, у атэль, як той казаў, па зорах, пільнуючыся высокай готыкі царквы Дзевы Марыі — яна над усім. І як жыхар вострава недзе ў Інданезіі, таксама прымаеш Млечны Шлях за нябесную раку і нават чуеш ейны шум, калі маўчыць само мора.

Вада, камень, ветракі, старыя сцены — пейзаж, у якім нешта абсалютнае, і дом чалавечы, захаваны некалькі вякоў, ужо як праобраз храма.

Іншы раз, ідучы па начным горадзе, адчуваеш сябе... прывідам. Палохаюць нават створкі адчыненага вакна. Вярнуўшыся, няўцямна разуваешся адразу ля парога, у агульным калідоры, парасон — на поручні лесвіцы, плашч, раздваішча, растраішча, распаўсюдзішча па ўсіх кутках старога дома, пакінуць аб сабе знакі, каб цябе не зачыніла, не замуравала выпадкова сярэднявечнай плітой у тваім пакоі нумар сем. Суцяшае толькі тое, што лічба гэта біблейская.

Дамы на востраве жывуць асобным ад чалавека жыццём.

Адчыніла вакно — вецер сарваў сухі ліст герані.

Тут мне дом, можа, толькі дзеля таго, каб змяніць вопратку, і зноў уніз, да мора, — рака ўнутры нас. Здалёк сёння яно надзвычай сіняе, пэўна шчоўкнулі створкі, як у кішэнным гадзінніку, расчыніліся на нейкі момант на дне самыя сінія ракавіны. І зноў ляснуў зашчап. Ходзіш па самым беразе, каб быць найбліжэй за ўсё, ходзіш, нахіліўшыся, нешта шукаючы, але што?! Раскрываеш далонь з назбіранымі каменьчыкамі і дзівішся — колер бляклы, малюнкі зніклі, кідаеш назад, у ваду — мора вяртае іх сабе, абы толькі высахла вільгаць. Ходзіш бясконца, па-птушынаму азіраешся, каб цябе не ўбачыў, не спудзіў чалавек.

Ля мора можна быць толькі птушкай ці дзіцем.

Ціхая затока цёплай, бы талай, вады. Блікі сонца па мелкім дне, ідзеш, як з цацачным ліхтаром. Далей і далей, а потым азірнуцца, каб убачыць, ці далёка бераг, і зноў ісці вадой. Тут зямля спускае цябе з рук, з падолу і сочыць за тваімі дуронымі крокамі — вяртае назад. Тут пазнаеш самотную ад людзей ласку, пяшчоту немаўляці. Магчыма, ты трапіў у завадзі боскай любові.

Магчыма, сюды выраем злятаюцца душы.

Няўжо даравана пражыць тут, на востраве, яшчэ адно кароткае жыццё, з'ехаць назаўсёды, як памерці?! З'ехаць. Толькі навучыўшыся хадзіць на нізкіх абцасах, у апранасе, абы не сцюдзёна, і каб аніводнага маруднага гузіка ці апліка. Тут давяраешся сабе, свайму целу, не пільнуеш, углядаючыся ў незнаёмыя твары, як цябе ўспрымаюць, ці добра выглядаеш, ці дарэчы ўсё на табе. З'ехаць, толькі навучыўшыся абыходзіцца без мовы?! Крычу Гуніле, Эльзе: "Іх бін гойтэ орднунг", — а болей жэстыкурады, але ж храмы пачатку вякоў, камень рассыпаецца жвірам. У Эльзы аніводнага ненатуральнага руху, яна як у сне. Цяжкое паліто бы толькі ўскінута чужой рукой, плечы ўвесь час выслізгваюць, яна раз-пораз папраўляе яго, адчуўшы дотык халоднага ветру. Перапыняю, прашу ў яе ключ, каб самой адчыніць дзверы. І ў гэты момант, пэўна, перадалася боская воля: ноччу ісці да пагашаных храмаў, ставіць запаленыя свечкі. Ад аднаго да другога, па пустых вуліцах, паглядаючы толькі на шпіль Святой Марыі, каб не зблудзіць канчаткова. Вунь ужо і дзве дзяўчыны звярнулі да храма, убачыўшы агеньчык. Твае першыя прыхаджане. Яшчэ і яшчэ храмы, паўразбураныя часам, храмы-калекі, з пустымі цёмнымі вачніцамі, з ненакрытымі дахамі. Кружляюць і кружляюць сярод іх, як у шпіталі, чуючы слабыя галасы і не ведаючы, да каго трэба найперш. О, свечка! Таксама нехта запаліў! Падыходзіш бліжэй і раптам пазнаеш, што гэта твая, ты сама, зблудзіўшы, вярнулася сюды ўжо прыхаджанкай — у дзеючы храм. Так, Эльза казала, што гэта руская царква, праваслаўная. І ноч была якраз перад Вялікаднем. Хіба не цуд?!. Усяночная... Галасамі дзікіх галубоў мяне пазвала да сябе мая грыдзькаўская радня, галасамі глухімі, таямнічымі нават, можа, для самога Бога. Цяпер толькі б лодачкі ў рукі і па матчыных сцежках з Пастаў да вёскі, кіламетраў з дзесятак, несучы перад сабой свячоныя яйкі, булкі — хрэсным ходам. А ўся вёска, прачнуўшыся, чакае цябе, не снедае, каб пранашчыцца свячоным. Або яшчэ дзеўчынёхай выглядаць дзевак, баб з Усяночнай, каб памыцца, паклаўшы ў ваду яйка — тады будзеш круглявая ў твары, харошая... Быў момант, калі хацелася раптам кінуць-рынуць усё і як стой — ходу, дамоў, ледзьве не галосячы: а ў людцаў парадак і ў будзень і ў свята, а ў маёй хаце век гармідар, мая ты родзінка, чаму такая горкая, такая ніякая... Дамоў! Да работы! Успомнілася, як мая сяброўка жалілася свекрыві, прыйшоўшы ад багатых суседзяў: мама, у іх так прыгожа, так хораша ўсё. А ты не хадзі туды, дзе лепей, чым у нас, адказала тая. Ці не галоўная прычына людзей з маёй стараны: мы не разглядаемся, не вучымся ў другіх, нам абы каня дастаць і бульбу пасадзіць, а потым уздыхнуць з палёгкай, што пасаджана — і на гэтым усё свята. Дратаваць зямлю без аддухі — хай сабе чаго і нясмачнага, але каб многа. Нам скрозь вінавайцы: то маразы палі на цвет, то сонца выпаліла. А тут у людзей той зямлі сярод камення — як у вазонах усё роўна, вільгаці — як мірры на святых абразах, і — парадак...

Хопіць. У мяне ўжо ўвайшоў Дух Вострава, дух адзіноты і самадастатковасці, — салёны вецер адусюль, дзе б ні знаходзіўся, увесь час жывеш, бы вандруеш на вялікім чаўне. На плыткім месцы зноў і зноў шукаеш цікавыя каменьчыкі — патаемныя пісьмёны з марскога дна, звесткі, і толькі паспееш угледзецца — пісьмо знікае, камень мярцвее без вады, як вырваны з каранём. Гойдаюцца абапал пялёсткамі скамянелыя рапаны. Шум мора чуецца нават на могілках, але тут у кожнага яно сваё, асабістае — у галовах ля помнікаў раструбай уніз ляжаць вялікія ракавіны.

Жывыя і мёртвыя, мы вандруем у адзіноце.

У шторм мора падымаецца вышэй зямлі, не ўстаяць на месцы, здаецца, ляціш ад аднаго берага да другога. І аніяк не можаш, апранаючыся, трапіць у рукаво. Ліхаманкава б'ецца сэрца, у поцемках памяці адзін напамінак, што ты ўсяго наземная істота, калісьці выкінутая на бераг — губляеш розум. Жаданне высільвацца, хістаючыся на самым ветры, каб цябе выпластала, здзёрла старую кару, нарасты, яшчаркай легчы потым на каменне, на сонцы, і адчуць жыватом, здавалася, ужо немагчымае: я... люблю... жыць... Зноў счытваеш прыродны код сваякоў з вёскі Грыдзькі, людзей надзіва шчырых да слёз і да смеху, да злосці і да дабраты.

Танцуючая Гуніла, ейная танюткая, зграбная постаць не спыняецца на месцы, рухі лятучыя, галавой уперад, плашч ззаду, увесь час супраць ветру, выдае, што і нагамі не перабірае — проста нізка ляціць. Абедзве з'яўляюцца нечакана, кормяць амаль з рук, як цяжкахворага, які нарэшце ачуньвае. З імі не сысціся ў дарозе, але струмень паветра зацягвае, і ўжо лёгка ляціш ззаду, а то і дуронна перадкуеш, ніхто ні ад кога не залежыць, як у маленькім выраі.

Сталыя жанчыны?! Мы старэем толькі на вачах мужчын, аб іх мы не ўспамінаем, быццам нічога пра іх яшчэ і не ведаем.

Горад кожны раз непазнавальны, новы. Можа, таму, што нехта амаль кожны дзень на вокнах выстаўляе і выстаўляе новыя цацкі: лялька, фарфоравы дракон, авечка, яшчэ лялька — наіўным дзіцячым парадкам, каб усё табе з вуліцы відалася, каб запрасіць цябе ў свой дзіцячы свет. А сам гаспадар, выдае, сядзіць на падлозе, як любяць сядзець дзеці, і моўчкі чакае, калі ты прыйдзеш да яго забаўляцца. З веку ў век новыя цацкі. На змроку запальваюцца свечкі, на змроку дамы паварочваюцца да мора, кожная свечка — маленькім маяком. Вокны не завешваюцца. Прастора дома бязмежна пашыраецца. Зоркі, поўня праз вакно, бы ў суседнім пакоі. Незнаёмец на вуліцы праплывае лятучым галандцам.

Мой дом-атэль толькі дзеля таго, каб змяніць, як той казаў, барму[1], але... што гэта? — унізе, бачу з другога паверха, ходзіць... мужчына?! Пэўна, той, каго чакалі Гуніла з Эльзай, трымаючы нумар. Назіраю за ім даўжэй, чым трэба б — ён вельмі прыгожы. І раптоўнае ліхаманкавае пачуццё несумяшчальнасці: мне тут перашкодай усё, што можа адхіліць ад камення, ад вады, ад сцен Сярэднявечча. Перашкаджала б нават знаёмая мова. Хацелася тут, на востраве, як нідзе болей і ніколі, зведаць волю, жыць не азіраючыся, не адчуваючы свайго полу, каб нават рукой не правесці па валасах, прыхарошваючыся. Дарэмна! Ён ужо насупраць, нешта гаворыць, перабірае мовы: ангельскую, нямецкую, шведскую, нарэшце, рускую, але я не разумею — я толькі чую блізка ягонае цела, моцнае, скрозь пакрытае чорным лішайнікам — бывалы ўсходні чалавек. Адчуваю румянец на ўсю шчаку, як пры гарманальнай недастатковасці. Я здрадзжваю, я больш не веру сабе, сваім рухам, жэстам, напружана адводжу позірк, бы назіраючы за зграяй дзікіх галубоў — у паветры правісае страчанае пяро. Мы ўдваіх, мы запертыя адзін у адным, ён засланяе мне свет. Я губляю сваю асобасць. Гуніла! Эльза! Дзе вы ёсць? Гуніла падыходзіць, нешта гаворыць, паставіўшы перад сабой на насок выцягнутую нагу, як у "Кармэн-сюіце". Крыссе плашча расхінулася, прыгожае калена выступам-выклікам перад ім. Гуніла нагадвае падлетка, а зараз абазначыліся жаночыя лініі, пераменліва, дрыготка, няўжо таксама хвалюецца?! Эльза гэтым часам сядзела ў другім пакоі, у кутку, нешта чытаючы, устала з крэсла, як бы ўставала, стаміўшыся сядзець каля фантана, мармуровая скульптура. Не заўважыш, калі яна зрушылася з пастамента. Паўсюль цесна стаялі сталы, крэслы, яна ішла, не дакранаючыся ні да воднага прадмета. І шкляныя дзверы адчыніліся перад ёй самі, бы на роліках

*(Працяг на стар. 12)*

[1] *Барма — адзенне пастыра.*





Наўрат ці дзяржава прызнае за акадэміяй афіцыйнае права на такую назву і вызначэнне акадэмікаў. Але ў любым выпадку, не хацелася, каб стварыўся прэцэдэнт апазіцыі БелАВМ, дзе аб'ектыўна сабраліся многія выдатныя творцы рэспублікі, да іншай аналагічнай, але ўжо афіцыйна створанай структуры. Тым больш, менавіта БелАВМ, хай і неафіцыйна, стала бурыць складзеную за савецкім часам сістэму адзначэння заслуг толькі пры сталым ўзросце. Зрэшты, вядомага амерыканскага мастака Эндру Уаеса за яго карціны адзначылі ўжо ў дваццацігадовым узросце...

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*Фота М. ПРУПАСА.*

ных прадстаўніць у канцэртнай праграме некалькі пакаленняў сваіх вучняў, лаўрэатаў і дыпламантаў міжнародных ды нацыянальных конкурсаў, ды яшчэ з арыгінальным, разнастайным і высокамастацкім рэпертуарам, створаным самім жа настаўнікам? Наўрад ці ёсць сур'ёзны канкурэнт унікальнай асобе Валерыя Жывалеўскага — самаахвярнага паслядоўніка ідэі беларускага музычнага, культурнага адраджэння.

Пра тое, як разгортвалася гітарная імпрэза, распавядаць можна доўга, бо кожны з яе ўдзельнікаў узбагачаў атмасферу перапоўненай залы тэатра непаўторнымі перажываннямі, эмацыйнымі нюансамі, эстэтычнымі ўражаннямі. Тут і зусім яшчэ юны, сямігадовы лаўрэат міжнароднага конкурсу Ігар Дзедусенка з "Беларускай калыханкай", і дуэт братоў-школьнікаў, Алеся ды Васіля Клімовічаў, якія прадставілі самы першы кампазітарскі вопыт Жывалеўскага — "Мелодыю для гітары ды флейты". Тут і першакурсніца Юлія Лонская, лаўрэат нядаўняга міжнароднага конкурсу ў польскім горадзе Крыніца, — з "Беларускай бахіянай". І дыпламант гэтага ж конкурсу Яўген Данілаў, які граў і сола, і ў дуэце з клавесіністкай Надзеяй Русінай ("Трыпціх на старадаўнія беларускія тэмы" для гітары і спінета). Тут і малады выкладчык сталічнай ДМШ N 8 Ігар Кузьміцкі з "Паванай і гальярдай мінскай феі Мелузіны", шляхетнай кампазіцыяй, на стварэнне якой В. Жывалеўскага натхнілі рамантычныя звесткі з гісторыі горада. І "пацалаваны Богам" Ян Скрыган — студэнт II курса, лаўрэат і пераможца ўжо некалькіх міжнародных конкурсаў, які з годнасцю нясе імя свайго знанага дзеда.

Гісторыя таварыства філаматаў ды філарэтаў, песня, якую спяваў у няволі Ян Чачот пад акампанемент Тамаша Зана, — вось вытокі кампазіцыі "Белая бяроза", у выкананні якой раскрылася не па ўзросце сталая, глыбокая, мудрая ігра Яна Скрыгана. Былі ў праграме іншыя вядомыя творы В. Жывалеўскага — "Элегія памяці Сяргея Палуяна", трапятліва выкананая студэнтам II курса Юрыем Мяркулавым, варыяцыі на тэму песні "Павей, ветрык" (іграў аспірант кафедры філасофіі БАМ Кірыла Успенскі).

У зале прысутнічаў амерыканскі гітарыст Курт Радармер: удзельнік віцебскага фестывалю "Менестрэль", ён меў канцэрты ў Мінску, правёў майстарклас у Акадэміі музыкі. Госця прадставілі публіцы, а герой (і вядучы-каментатар) вечарыны В. Жывалеўскі падараваў яму некалькі беларускіх нотных зборнікаў.

Імпрэза атрымалася святочная й шчырая — з ласкі Божай. І з благаслення пробашча касцёла, ксяндза Уладзіслава Завальнюка, які прытуліў у святых сценах агмень высокай творчасці — тэатр "Зніч", што працуе пры Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Мастацкі кіраўнік тэатра Галіна Дзягілева, як заўсёды, была гасціннай і ветлай гаспадыняй, шчодрай на ўсмешку і добрыя разумныя словы. Між іншым, яна заўважыла, што Валерый Жывалеўскі, узіраючыся ў беларускую гісторыю, культурную спадчыну, дбаючы пра сённяшні рэнесанс айчыннага гітарнага мастацтва, працуе на будучыню. Сапраўды, у адмысловай шматграннай дзейнасці гэтага Музыканта знітоўваюцца наша мінуўшчына і заўтрашні, новы дзень.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: В. ЖЫВАЛЕЎСКІ (у першым радзе справа), амерыканскі гітарыст К. РАДАРМЕР (тамсама, злева) і ўдзельнікі імпрэзы.*

*Фота М. ПРУПАСА*

МАНАЛОГІ

# Толькі ў багатых багатая Радзіма

***Ён усё жыццё поруч з музыкай. Яна — лагічны працяг ягонай душы. Ноты чысцей за словы. У празрыстасці гукаў няма фальшу. Сапраўдная музыка не хлусіць. Таму прыцягвае, зачароўвае, ачышчае і робіць свет сапраўды светлым... Ён больш за трыццаць год у педагогіцы, бо ўпэўнены, што самая высакародная справа — вучыць дзяцей разумець прыгожае: слова, гук, мазок пэндзля; вучыць іх адчуваць уласную душу і сусветную гармонію, імя якой — чалавечая дабрыня, святая вера і спрадвечнае каханне...***

**Яўген Данілавіч САВІН — дырэктар Мінскай школы мастацтваў:**

— Можна шмат гаварыць пра будучыню нашай культуры. Марыць, што стане яна самадастатковай, патрэбнай кожнаму для духоўнага ачышчэння і самарэалізацыі. Спадзявацца, што стан яе ды ўзровень не будуць залежаць ад дзяржаўнай нішчымнай датацыі. Можна... Але ці варта! Захаваць бы тое, што засталося. Яшчэ існуе мова, яшчэ не зруйнаваны ўшчэнт рэшткі Крэўскага замка. Яшчэ жыве ўспамін пра годнасць і самасвядомасць грамадзян Вялікага княства Літоўскага. Яшчэ засталося тое, з чаго і павінна складацца нацыянальная культура. Мастацкая, музычная, архітэктурная спадчына, як зернейка ў засмяглай глебе. Ці прарасце, ці забуяе важкім коласам?.. Згодны з Гілевічам, Барадуліным, Быкавым. Яны змагаюцца за душу, разумеюць і тонка адчуваюць, што менавіта яна прымушае думаць, верыць, любіць. Менавіта яна і дазваляе адчуць, што чалавек — частка культуры. І без гэтага няма руху наперад.

...У нашай школе 380 вучняў. Яны прыходзяць да нас пасля заняткаў у сваіх звычайных агульнаадукацыйных школах. Прыходзяць, каб спасцігнуць таямніцы музыкі і жывапісу. З упэўненасцю сцвярджаю, што гэта будучая інтэлектуальная эліта Беларусі. Надзея і душа дзяржавы. І як прыкра ўсведамляць, што з кожным годам набор у школу мастацтваў змяншаецца. Мы бюджэтная арганізацыя! Няма грошай на навучанне, набыццё музычных інструментаў. З-за жабрацкіх заробкаў кідаюць працу выкладчыкі. Закрыты клас трубы і ўдарных. З цягам часу развітацца прыйдзецца з класамі домры і цымбал... На Украіне школы эстэтычнага накірунку перайшлі на гасразлік. Мо выйсце ў гэтым? Але скажыце, хто з нашых бацькоў змога адшукаць 50 долараў у месяц, каб аплаціць мастацкую адукацыю сына ці дачкі? Хто з нас столькі атрымлівае? Дык мо выратуюць спонсары, мецэнаты? Але і тут ніякай перспектывы! Нашы законы не адаптаваны да такой "раскошы". Прыватным бізнесам займаюцца на Беларусі не Марозавы, а Карэйкі — "падпольныя мільянеры", якім няма выгоды "засвечвацца" са сваім спонсарствам, бо ніхто ад падаткаў за дабрачыннасць іх не вызваліць. Вось і пануе чорны бізнес ды дзяржаўны рэкет, а агульная культура застаецца нізкай, і калоніі перапоўнены непаўналетнімі злачынцамі, якія нічога не чулі пра Баха і Шагала.

І не трэба выдумляць "беларускі веласіпед". Толькі ў багатых можа быць багатая Радзіма. І культурай на ўсіх чынавенскіх узроўнях павінны займацца не абыякавыя дачаснікі, а сапраўдныя прафесіяналы... Я выкладаю дзецям музычную літаратуру. Шмат пытанняў задаюць яны на ўроку па-за межамі гэтага прадмета. І ўсе яны так альбо інакш звязаны з нашай культурай. Чаму так кепска жывём? Чаму не паважаем сябе? Чаму на Беларусі амаль ніводнага архітэктурнага помніка, захаванага ў першапачатковым выглядзе, а ў Аўстрыі ці Прыбалтыцы — іх процьма? Чаму—чаму—чаму... Мае разумныя і добрыя дзеці, на вашых вачах мастацтва перастала быць прэстыжным заняткам, бо не прыносіць імгненнага даходу і важкага заробку. Але вы, дзякаваць Богу, не перасталі думаць, параўноўваць, перажываць і хвалявацца. За лёс Бацькаўшчыны, за лёс народа і культуры. Вас надта мала, але сэрцы вашы не скамянелі, а душу трывожыць сумленне. Сярод вас — пераможцы самых розных конкурсаў. З вамі засталіся сумленныя выкладчыкі, якія цэняць і ашчаджаюць прыгажосць, ратуючы сваімі высілкамі такі хісткі і надзвычай ненадзейны свет. А маладзечанскія баяны "Юпіцер" каштуюць пяць тысяч долараў і выпускаюцца з перабоямі з-за недахопу камплектуючых (амаль такое ж становішча і з барысаўскімі цымбаламі). А оперны тэатр патрабуе неадкладнага рамонту. А Верхні горад знік з твару Мінска. А бацькі вашы, усведамляючы, што без адукацыі няма ў вас будучыні, ламаюць галовы, як пракарміць сям'ю і выкраіць з жабрацкага бюджэту грошы на фарбы і ноты... Так, прыгожае і добрае заўжды перамагаюць. Але як невыносна цяжка даецца гэтая перамога...



Беларусь — цудоўная і трагічная краіна. Мы — у цэнтры Еўропы. Мы патрэбны Захаду і Усходу як транспартны калідор для зносін. Але з шасейных і чыгуначных дарог на нас ляцяць не долары, а пыл і бруд. А бруду, радыяцыйнага, чарнобыльскага, нам хапае і свайго. Трэба выбірацца з гэтай багны. І ці мае сэнс доўга разважаць, што на сёння самае галоўнае — духоўнае ці матэрыяльнае. І першае і другое — узаемазвязана і ўзаемазалежна, таму і патрабуе адначасовага і неадкладнага вырашэння.

Багаты для мяне не толькі той, у каго поўны партманет. Не ўяўляю сабе багатага без напоўненага сэнсам і гармоніяй жыцця. Багатага духоўна, інтэлектуальна... Калісьці, за савецкім часам, калі на тысячу чалавек дванаццаць было ахоплена музычнай адукацыяй, — такі паказчык агульнай культуры лічыўся неблагім. Зараз пра гэта і марыць не даводзіцца. Толькі тады скранецца ўсё з мёртвай кропкі бездухоўнасці, калі да любога віду культуры далучыцца столькі беларускіх дзяцей, колькі іх зараз налічваецца ў месцах зняволення. Іншага выйсця проста няма.

Дык вы жадаеце быць багатымі?!

**Занатаваў Яўген РАГІН**

*На здымку: Яўген Савін з унукамі.*

ВЫСТАВЫ

# Адкрыцці мастака

Новыя творы прапанаваў гледачам вядомы беларускі мастак Уладзімір Зінкевіч на выставе ў галерэі "Мастацтва". Яго апошнія работы нечакана высвечваюць палітру мастака, і гэтаму дапамагла значная для кожнага творцы падзея. Год таму ён перабраўся з невялікага пакоя ў прасторную светлую майстэрню. Магчыма, пачуццё прасторы навокал і штодзень змяняла строй яго палотнаў, насыціла іх свежымі і сакавітымі фарбамі, рассунула звыклыя межы камернасці.

Апошнія карціны мастака, як і раней, поўныя філасофскіх разважанняў. Уладзімір прапануе алегорыі кахання ("Палон", "Жамчужныя сеці", "Вечаровы свет"). Серыя "Туманы" прыцягвае глыбокім лірызмам, нечаканым для творчасці мастака спакоем, зачароўвае сваім краем. А тэматыку карціны "Купалле" сам Зінкевіч называе "містычным рэалізмам".

**Н. Ш.**

## Амбітная, смелая і ўдалая



**Нячаста можна пачуць гэткія вызначэнні адносна кнігі. Тым не менш, акурат гэтак сказаў пра кнігу Пітэра Бэрка "Народная культура Еўропы ранняга Новага часу" адзін з яе дасведчаных чытачоў Крыстофер Хіл. Словы яго змешчаны на вокладцы кнігі і цалкам гучаць гэтак: "Цудоўная кніга... Каштоўнасць гэтай багатай і шырокамаштабнай працы ў тым, што яна прымушае нас паглядзець на Еўропу як на цэлае, пазбаўляе нас ад традыцыйнай нацыянальнай ці заходнееўрапейскай абмежаванасці. Гэтую амбітную, смелую і надзіва ўдалую кнігу з захапленнем прачытае кожны, хто цікавіцца гісторыяй навачаснай Еўропы і паходжаннем нашай культуры".**

**Дык вось, кніга — пра народную культуру Еўропы ранняга Новага часу. А што такое народная культура? Ці кожны з нас зможа з ходу сказаць пра гэта дакладна і вычарпальна? Наўрад, бо паняцце "культура" — няпэўнае і супярэчлівае. Адно з вызначэнняў гэтага паняцця такое: "сістэма прынятых значэнняў, светапогляду і каштоўнасцяў ды сімвалічных формаў (перформенсы, артэфакты), у якіх яны выяўляюцца або ўвасабляюцца". Культура ў такім сэнсе — частка агульнага ладу жыцця, але не ідэнтычная яму. А народная культура — гэта неафіцыйная культура, культура не-эліты, так званых "ніжэйшых класаў", у дачыненні да Еўропы XV—XVIII стагоддзяў — культура рамеснікаў і сялян.**

**Акурат яе і даследуе П. Бэрк. Перыяд, якому прысвечана гэтая кніга, доўжыцца прыкладна ад 1500 да 1800 г. Ён адпавядае перыяду, які гісторыкі называюць перыядам ранняга Новага часу. Арэал разгляду — уся Еўропа, ад Нарвегіі да Сіцыліі, ад Ірландыі да Урала. Кніга ўяўляе сабою зборнік з дзевяці звязаных між сабою эсэ па асноўных тэмах, прысвечана яна законам народнай культуры, а не прыватным ідэям, і падае спрошчанае апісанне асноўных канстантаў і накірункаў. Кніга канчаецца менавіта XVIII стагоддзем, бо індустрыялізацыя выклікала велізарныя культурныя змены, у выніку чаго свет проста-такі стаў іншым. І вось П. Бэрк паспрабаваў сабраць усе па магчымасці звесткі (дзякуючы таму, што гэты перыяд найбольш дакументаваны ў гісторыі даіндустрыяльнай Еўропы), усе па магчымасці фрагменты і падаць іх як цэлае, як сістэму ўзаемазвязаных частак, каб мы, далёкія нашчадкі, змаглі зноў увайсці ў культурны "свет, страчаны намі".**

**Спытаеце, хто такі Пітэр Бэрк? Лектар гісторыі культуры ў Кембрыджскім універсітэце і член навуковай рады каледжа Эмануэля. Свет культуры, у які ён вяртае чытачоў, гэта свет прафесійных забаўляльнікаў, менестрэляў, жанглёраў, блазнаў, знахароў, вандроўных акцёраў і казачнікаў. Песні, казкі і паданні, лялькавыя спектаклі і карнавалы, а таксама іх галоўныя персанажы — народныя героі, ліхадзеі і дурні — усё гэта выяўляе светапогляд і духоўныя каштоўнасці рамеснікаў і сялян, пастухоў і шахцёраў, маракоў і слуг, жабракоў і злодзеяў.**

**На самым пачатку кнігі П. Бэрк прызнаецца: "Ствараючы гэтую кнігу, я займеў даўгоў значна болей, чым звычайна". І выказвае шчырую падзяку Брытанскай акадэміі за грант, які даў яму магчымасць наведаць музеі ў розных краінах свету; дзякуе рэцэнзентам кнігі, скандынаўскім даследчыкам за дапамогу ў зборы матэрыялаў, многім гісторыкам Вялікабрытаніі за даведкі і адказы на ягоныя пытанні, тым, хто дапамог у складанні каментарыяў, у выданні кнігі і г.д.**

**А мы, беларускія чытачы, павінны сказаць дзякуй за магчымасць пазнаёміцца з даследаваннем П. Бэрка на роднай мове выдавецтву "Тэхналогія", а менавіта: Арсену Лісу — навуковаму рэдактару, Ірэне Ганецкай — перакладчыцы з англійскай мовы, Алене Трусавай — рэдактару выдання, Віталю Катовічу — мастаку-афарміцелю, Кастусю Санько — макетоўшчыку і ўсім іншым, хто спрычыніўся да выхаду кнігі. І няхай сабе гаворка пра нашы культурныя абсягі ў кнізе часцей толькі ўскосная, аднак жа і нам пазнаёміцца з ёй будзе надзвычай цікава і карысна.**

**М. М.**

ВІНШУЕМ!

## Уладзіміру ПАПКОВІЧУ — 65

*Уладзімір Папковіч нарадзіўся 25 сакавіка, што вельмі сімвалічна для кожнага беларуса. У ягонай асобе наша літаратура мае самабытнага паэта і арыгінальнага перакладчыка, што вельмі хораша дапаўняюць адзін аднаго. І гэта заўсёды яскрава адчуваецца на якасці твораў, што выйшлі з-пад пяра Уладзіміра Антонавіча.*

*Зычым нашаму даўняму аўтару новых творчых поспехаў, добрага здароўя, святла і шчасця!*



Уладзімір ПАПКОВІЧ

# Восень, вясна і доля...

•

*Адплакала маё дзяцінства*
*І адсмяялася юнацтва.*
*Цяпер, як лёгкі жанр мастацтва,*
*Усё мне бачыцца квяціста.*
*Нібы з экрана — рухі, гукі,*
*Не я там плачу і спяваю.*
*І толькі маміныя рукі*
*Усёй істотай адчуваю.*

•

*Па-беларуску "дні", а па-нямецку "tage".*
*Дзе болей сонца,*
*радасці, святла?*
*Мне хочацца, каб толькі раўнавага*
*Між душамі і словамі была.*
*Ды роднае здаецца мілагучней.*
*Чужое падаецца нам ліхім.*
*Пакуль што мы у Бога — толькі вучні.*
*Мы — себялюбцы... нават перад ім.*

•

*Тут, у чужой старане,*
*Дзе ўтульнасць, парадак, багацце,*
*Мама прыснілася мне —*
*Дома, у роднай хаце.*
*Спявала нягучна яна*
*Пра беларускае поле.*
*Тут восень была і вясна,*
*І нашая горкая доля.*

*Адзін у чужой старане...*
*Мне хочацца вельмі дадому.*
*Мама прыснілася мне,*
*Мне, сіраце старому.*

•

*Мінае дзень і надыходзіць вечар*
*І наваколле ахінае змрок.*
*А мы не разумеем: гэта ж вечнасць*
*Зрабіла ціха свой няўмольны крок.*

*Глядзім у ноч, яна — як воран чорны,*
*Гібее на сусветным скразняку.*
*Павольна круцяцца планет далёкіх жорны*
*І расціраюць вечнасць у муку.*

•

*Вечар. Палеглі цені.*
*На ўсім запусцення пячаць.*
*Сэрца маўчыць у здранцвенні.*
*Яно і мусіць маўчаць.*
*Адплакала, адгаласіла*
*І адкрычала без слоў.*
*Чорная, брыдкая сіла*
*Лятае паверх галоў.*
*І нагнятае жахі*
*І дамагаецца слёз.*
*Сусветныя валяцца гмахі*
*На наш шматпакутны лёс.*
*Ведзьмам — раскашавацца,*
*Чорным чарцям — сабантуй.*
*Няма нам куды схавацца.*
*Божачка, уратуй!*

•

*Горкія слёзы за ўсмешкай схаваю,*
*Перахрышчуся нязграбна, няўмела.*
*Выйду на плошчу — і заспяваю*
*Па-беларуску,*
*Задзірыста, смела.*

*Буду спяваць, што ў душы набалела.*
*Хтось падцягнуць тую песню памкнецца.*
*Зробіцца чыста навокал і бела.*
*Нават маёр КДБ усміхнецца.*

*Юны сяржант міліцэйскі падцягне,*
*Ціха схаваўшы дубінку за спіну.*
*Кожны нармальны — я ведаю — прагне*
*Абеларусіць хоць крышку краіну.*

•

*Тады ізноў пачнём з нуля,*
*Упарта вернемся да старта.*
*Мая любімая зямля!*
*Ты пад пагрозай не на жарты.*

*Нам лезлі у душу здаўна.*
*Яе душылі й дратавалі.*
*У здзеках выжыла яна.*
*Так, мы яе уратавалі.*

*Бо не бывае шмат Радзім.*
*Яна адзіная, як маці.*
*І мы яе не аддадзім*
*Злым ліхадзеям на распяцце.*

•

*Зноў Радзіма мая ляжыць*
*Распластаная, згвалтаваная.*
*Заўтра раніцай — як устану я?*
*Паслязаўтра — як буду жыць?*

*Мне няма паратунку нідзе.*
*Я — палонены. Я — акружаны.*
*Як у гразкай вадзе сярод лужыны,*
*Захлынаюся ў чорнай бядзе.*

*Чую крокі з трыццатых гадоў.*
*Крочаць дужыя, розумам — квёлыя.*
*Каралі, безумоўна, голыя.*
*Ды з дубінамі напагатоў.*

•

*Часам крыўда прыпамінаецца,*
*І сціскаецца сэрца тады...*
*Супакойся, душа, усё мінаецца —*
*Ад слязы да вялікай бяды.*

*Як насеяна, так намалоціцца.*
*Праца рупная плён прынясе.*
*За благое благім і адплоціцца.*
*Мы пад Богам ходзім усе.*

•

*Убачыць Парыж — і памерці...*
*Я глянуў — і цёмна ўвачу.*
*Цяпер я баюся смерці —*
*Я зноў у Парыж хачу.*

*Парыж быў па-восеньску рыжы*
*І велічны, і гаваркі...*
*Я вандраваў па Парыжы...*
*Я вандраваў праз вякі...*

*Я быў не зусім цвярозы —*
*А хмель жа не толькі ў віне...*
*Я мармытаў праз слёзы:*
*Божа, прабач ты мяне...*

*Прабач свайго сына-заблуду,*
*Што я, несучы свой крыж,*
*Вечна прасіцца буду:*
*Божа, хачу ў Парыж...*

•

*Няма кахання — ёсць савакупленне.*
*Няма паэзіі —*
*ёсць хэнць балбатуна.*
*Няма святога — ёсць з душы глумленне.*
*Няма палітыкі — а ёсць адна мана.*

*Усё ураўнаважана выдатна:*
*Чагось няма — чагосьці вельмі шмат.*
*І ўсё, што ёсць, даецца нам бясплатна:*
*Парад, нагляд і светлы далягляд.*

# ВОСТРАЎ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

у супермаркеце. Старая жанчына, праходзячы побач, раптоўна падабрала вісячае валлё падбароддзя, як тая індычка. Усё навокал змянілася, падпарадкавалася з'яве, востра адчуўшы сваю прыроду. Нашыя галасы, смех, гучаць чысцей, бы нарэшце пачулі абсалютны голас камертона. О, вядома, мы запрашаем яго палуднаваць! Мы ўжо на кухні. Мы толькі тое і рабілі, што гатавалі яму ежу! Мы адважваемся гатаваць для ўсходняга мужчыны?! На нас накацілася старажытная няволя — мы падпарадкоўваемся гэтаму незнаёмцу. Каштуем стравы з адной лыжкі, мы смяёмся, нам надзвычай весела, звіняць Гуніліны бранзалеты, па-дзіцячаму зробленыя з меднай спронжкі. Каторая гэта з нас была ўжо на абцасах?! Разамкнуліся вярыгі, мы выслабаніліся з пустэльні. Божа, на кухні няма люстэрка?! Вой, нешта гарыць! А можа, гэты пах дыму, сполахі злога вогнішча, на якім паліць Сярэднявечча сексуальна прываблівых жанчын?! Я быццам спрабую ўратавацца, накідваю на плечы вязаную хустку.

Паселі, сядзім, "скаваныя ланцугамі полу".

Ён спазняецца. Ён спазніўся. І не папрасіў прабачэння. Мы разгубіліся, мы стоўпіліся ў табун, мы, як у гарэме, адчулі, хто тут гаспадар.

— Не хапае да стала кінзы. Я шукаў яе ва ўсіх крамах — няма, — стаяў, паціраў паміж пальцаў той звыклы, жаданы пах, церушыў нам у вочы, — ён шукаў на выспе пах свайго агароду.

Першай апрытомнела Гуніла, устала, зазваінелі бранзалеты.

— Трэба памяняць ваду ў цюльпанах.

— Дзе памяняць ваду? — перапытала Эльза.

— У супе харчо... — адказала я.

Мы моцна смяёмся. Мы цешымся адна з адной. Грымнулі пад сталом, скінутыя з ног, туфлі на абцасах. Мы ўжо адвучыліся баяцца мужчын.

І адкуль мне цяпер ведаць, чаму я надзіва свежая сёння і румяная, паўдня прастаяўшы на кухні. І ў якім выпадку я больш здраджваю сабе...

Па гэтым разе! Мы хутка губляемся, блудзячы па вуліцах Сярэднявечча, паранейшаму трапляю ў атэль па зорах — па самым высокім шпілі храма Дзевы Марыі. Крокі запавольваюцца — апошні дзень на востраве. Запыняе нават незнаёмы куст, падобны на баярышнік. Ужо на ім набрынялі пупышкі. І раптоўна зусім не вандроўніцкі сум: я не ўбачу ягоных кветак, не ўбачу, якім ён будзе летам, увосень. Не заплыву ў разводдзе дзікіх дэльфініумаў. Я не пражыву з вострававам ягоных бясконцых стагоддзяў. Востраў, бы тваё неспадзяванае дзіця, непасрэднае, выпешчанае, дзіўнае, з якім ты адчула сябе найбліжэй да сваёй чалавечай прыроды, да сваёй сутнасці. І якое бачыш у апошні раз, — як перад смерцю.

У мяне поўныя жмені ўражанняў — поўны кубак-ахвярнік нясу перад сабой проста ў адчыненыя дзверы царквы. Сёння ўсе ідуць сюды слухаць арган.

А перад гэтым каб аніводнага музычнага гуку, нават птушынага спеву. Рокат галасоў у царкве, як у марской ракавіне, пакладзенай у галовах на могілках. Першыя шквальныя гукі аргана голасам храма, урачыстым, патрабавальным шчырасці. О, як нязвыкла сэрцу боскае запытанне — слёзы за ўсё жыццё марскімі водамі забіліся ў горле, патрабуючы выйсця. Высока плылі люстры, перамяшчаліся ў плыні гукаў, бы па рацэ. Паварочвалася зямля, сонца перабірала вітражы на высокіх вокнах, складала святыя малюнкі. Юлёвымі пялёсткамі ўпала мне на рукі — урачыста спавіло вянцом адзіноты. На момант схаваліся былі на іх рудыя ўзроставыя плямы, "кветкі старасці", зараз яны смылелі, як стыгматы. "На пасцелі маёй ноччу шукала я таго, каго любіць душа мая, шукала яго і не знайшла яго..." — пацерамі наўмя спевы цара Саламона.

Цяпер толькі засталося сысці на сваім беразе і адчайна адпіхнуць нагой човен — на самую сярэдзіну мора...

**P.S.** *Готланд, Вісбу — ледзь вымавіш у канцы, як прызнаешся наастатку, — назавеш чароўнае імя сваёй любові...*

*Я так сумую па моры, што ўсё часцей гляджу на неба.*

## УГОДКІ

*У ШЭРАГУ ПАЭТАЎ, якія прайшлі дарогамі самай вялікай вайны ў гісторыі чалавецтва, Аляксею Пысіну належыць адно з першых месц. Адно з першых месц належыць яму і ў беларускай паэзіі. І няхай Аляксей Васільевіч не быў ганараваны многімі званнямі, што паспелі атрымаць іншыя, няхай у параўнанні з імі ён напісаў куды менш, але гэта Паэт з вялікай літары. Творцамі падобнага таленту, гэткай яркай мастакоўскай індывідуальнасці можа ганарыцца любая высокаразвітая літаратура. І асабліва важкае ў мастакоўскай спадчыне А. Пысіна тое, што ім уласна перажыта, унутрана пераасэнсавана. А яно найперш звязана з Вялікай Айчыннай вайной, калі Аляксей Васільевіч удзельнічаў у баях на Заходнім, Калінінскім, Ленінградскім, 1-м і 2-м Прыбалтыйскіх франтах, быў двойчы паранены. Творы, у якіх гучыць водгулле тых векапомных падзей, прысутнічае бачанне вайны чалавекам з перадавой, напісаны тады, калі прыйшоў вопыт і з'явілася магчымасць у многім пераасэнсаваць перажытае. А ў выніку ў гэтых вершах асабліва адчувальна прысутнасць дня ўчарашняга і сённяшняга, дзе свайго роду сувязным паўстае сам паэт. А яшчэ ён кідае позірк і ў дзень заўтрашні. І таксама ўяўляе сябе неадлучным ад даўніх падзей, бо яны назаўсёды прапісаліся ў ягонай біяграфіі, яны частка яго жыцця, а калі жыццё скончыцца, тады...*

*Як не згадаць у сувязі з гэтым адзін з самых яго лепшых вершаў:*

***...Я гляджу на даўняе курганне,***
***На траву, на рыжых мурашоў.***
***Ведайце: калі мяне не стане —***
***Я ў сваю дывізію пайшоў.***

*Ён і пайшоў у сваю дывізію, падкошаны цяжкай хваробай. Зваліла яна Аляксея Васільевіча хутка, як тая здрадлівая куля, што, як правіла, у першую чаргу забівае лепшых. Але то была смерць фізічная. Працяг жыцця паэта ў яго вершах. І хоць яны даўно не перавыдаваліся ("Выбраныя творы" ў двух тамах выйшлі ў 1989 годзе), сумнення няма, лепшыя з іх заўсёды на слыху ў сапраўдных аматараў паэзіі. Як і гэты, што даў назву апошняй прыжыццёвай кнізе А. Пысіна "Ёсць на свеце мой алень":*

***Вы, разумныя браты —***
***Я і сам страляць умею, —***
***Дайце жыць майму аленю***
***Пад галінкай дабраты.***

*Жыць "пад галінкай дабраты" — гэта і свайго роду запавет Аляксея Васільевіча. Яго, самога, на жаль, дабрата часта абыходзіла. Няхай жа не абыдзе яна нас.*



*А. Куляшоў, А. Пысін. 1972 г.*

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

## З адной дывізіі байцы

Байцам не сняцца пантэоны.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я ў сваю дывізію пайшоў.

**Аляксей ПЫСІН**

***Зліваліся ў адно агнямі***
***Калёры неба і зямлі.***
***Ў адной дывізіі байцамі***
***З табою побач мы былі.***

***Не раз табе перад паходам***
***Прысніцца мог шчаслівы сон, —***
***Ды не ўяўляў, каб з кроўным родам***
***Цябе паклалі ў пантэон.***

***Каля дарожнай каляіны***
***Лажыўся ў цёплую траву:***
***Шынель пад бок, шынель пад спіну,***
***І ранец свой пад галаву.***

***У штаб паслаў камроты зводкі,***
***Што авалодаў вышынёй.***
***І родны край твой сон салодкі***
***Ахутаў ціхай цеплынёй.***

***Прысніўся зноўку позні вечар***
***І дом пад дахам з капяжом,***
***Дзе маці запаліла ў печы***
***І скобліць бульбачку нажом.***

***А тут раздаўся выбух бомбы, —***
***І ты прамовіў дружбаку:***
***"Які прыгожы сёння сон быў, —***
***Ды, як гавораць, не ў руку..."***

***Далёка ад любімай маці,***
***Якую сэрцам не забыў,***
***Падрыхтаваны ў медсанбаце***
***Табе ўжо белы ложак быў.***

***Цябе хацелі як салдата***
***Ў строй дактары паставіць зноў, —***
***А ты крадком ад медсанбата***
***Ў сваю дывізію ішоў...***

# Залаты запас Аляксея Пысіна

У паэта толькі адзін суддзя. Суддзя строгі і бязлітасны, ад якога нельга адкупіцца ні званнямі, ні ўзнагародамі, ні прэміямі. Для яго яны, у адрозненне ад людзей, не маюць ніякага значэння. Яго Вялікасць Час бярэ ў сваю дарожную кайстру толькі тое, што яму патрэбна, у чым ён адчувае пільную неабходнасць. У выніку ягонай аб'ектыўнай рэвізіі з салідных тамоў застаюцца тоненькія кніжачкі, з кніжачак — строфы, са страфаў — радкі... І гэта абсалютна натуральны працэс, дакладней, — натуральны адбор. Праўда, бывае і наадварот. Бывае, што сам час раптам пачынае працаваць на паэта. І тады адкідаецца ўсё лішняе, выпадковае і застаецца толькі залаты запас, намыты штодзённай працай душы. Залаты запас, які забяспечвае жыццё Слова ў вечнасці.

Наўрад ці думаў пра свае рахункі з вечнасцю Аляксей Пысін, пішучы вось гэтыя, сёння ўжо класічныя, радкі:

***Забыта многае ў жыцці,***
***З дарогі змецена і змыта.***
***Мне ў жыта хочацца ўвайсці,***
***Мне вечнасцю здаецца жыта.***

Ён проста быў сумленным перад часам і словам. Слова і жыта былі для яго, як бачыце, паняцці адэкватныя, бо акурат у гэтым заключаўся сэнс ягонага быцця ў зямным жыцці, у якім вобраз паэта і чалавека гарманічна супадалі. Яму верыш. І, можа, якраз таму яго лірыку хочацца перачытваць, да яе хочацца вяртацца, над ёй хочацца думаць, бо Аляксей Пысін — паэт глыбокі. І ягоная глыбіня чыстая. Думаецца, з часам яна стане яшчэ глыбейшай. Надзелены ад Бога найвышэйшым моцартаўскім пачаткам, ён пісаў сябе самога, такім як ёсць:

***Нішто не моднае на свеце,***
***Уся прырода — без прыкрас.***
***Ліецца дождж і вее вецер***
***У незалежнасці ад нас.***

***Хачу застацца старамодным,***
***Жадаю лёсу аднаго:***
***Быць камусьці неабходным,***
***Не адчуваючы таго.***

Я перакананы, што сёння гэты верш успрымаецца больш глыбока, чым успрымаўся пры жыцці Пысіна, і не толькі таму, што паэта няма з намі і на яго творчасць мы глядзім больш аб'ёмна ("лицом к лицу лица не увидать"), а найперш таму, што абвастрылася наша гістарычная свядомасць. Тое, што было для яго нормай т а д ы, для многіх з нас стала толькі ц я п е р.

"На полі бацькоўскім, якое люблю, чытаю свае векавыя ўспаміны", — гаворыць паэт у адным са сваіх твораў. Гэта вельмі важнае і невыпадковае прызнанне. Дакладней — істотнае. Выпадковага ў такіх паэтаў, як Пысін, для якога гучная фраза, прыгожы жэст дзеля жэста не ўласцівыя, не бывае. Таму і ўспрымаецца яно шматзначна, я нават сказаў бы, успрымаецца як своеасаблівы ключ да яго мастацкага свету. Так, так — ключ, бо ў аснове многіх вершаў і балад Пысіна ляжаць успаміны. Часам, чытаючы іх, амаль фізічна адчуваеш удумлівы позірк чалавека, які пільна ўзіраецца ў пражытае і перажытае. Відаць, гэта тое, што сёння крытыка называе кінематаграфічным мысленнем:

***Жыццё маё ў двухколерным свячэнні,***
***Як доўгі фільм. Я — аўтар і глядач.***

Ці вось яшчэ:

***Лес і поле — міма, міма,***
***Лес і поле — чарнатроп.***
***Не бяжы, прырода, стоп,***
***Вось мой край, мая радзіма!***

Як бачым, кадры-ўспаміны, але, заўважце, "успаміны векавыя". Аўтар глядзіць на жыццё па-філасофску і бачыць яго ў трох вымярэннях, мінулае цесна пераплецена з сучасным, а сучаснае прасякнута трывогай і клопатам пра будучае. Сваё, асабістае для паэта неаддзельнае ад лёсу "бацькоўскага поля", ад лёсу народа і яго гісторыі.

***Старажытная каплічка,***
***Гарадзішча над ракой.***
***Ледзь прыкметная крынічка,***
***Што ўзялася асакой.***
***Не, не спадчына сівая***
***І не ўцэнены тавар, —***
***Мне радзіма адкрывае***
***Ў дарагіх***
***радзімках***
***твар.***

І хоць чыста "гістарычных" твораў у Пысіна мы не знойдзем, каардынаты яго духоўнага быцця пазначаны канкрэтна і выразна. Гэта і старажытная шматпакутная магілёўская зямля з Баркалабавам, дзе нарадзіўся геніяльны летапіс, які і сёння ўражвае мастацкай сілай (ці не таму "Баркалабаўскія салаўі"?), і Мсціслаў з легендарнай Дзявочай гарой, і трагічны лёс волата Машэкі, убачаны паэтам па-свойму, і руплівы мовазнаўца Бялькевіч, што не адзін год збіраў па нашых вёсках свой "Краёвы слоўнік", тых самых вёсках, у якіх і цяпер яшчэ жыве смачнае "як полаз, выгнутае — сянні". І, вядома, вайна, якая была для Пысіна не гісторыяй, а жорсткай рэальнасцю. За плячыма гвардыі радавога Аляксея Пысіна дымілася пяць франтоў. Двойчы ён быў паранены і двойчы вяртаўся з нябыту да жыцця. А колькі разоў ён адчуваў побач дыханне смерці!

***Нядоўгі прывал. Нядоўгі начлег.***
***Пад намі снег. Над намі снег.***
***Вароты рыпяць ці нашы сляды?***
***Дарога адна, дарога туды.***
***. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .***
***Стралковая рота сопку ўзяла.***
***Пад намі зямля. Над намі зямля.***

Паэт усім жыццём аплаціў права сказаць: "Ведайце, калі мяне не стане — я ў сваю дывізію пайшоў". Пысін ведаў, адкуль і дзе пачынаўся яго радавод, таму "дарагія радзімкі" мінулага для яго "не ўцэнены тавар", а неад'емная частка яго жыццёвай і духоўнай біяграфіі. Дарэчы, пра тое, што кожная з'ява ў яго жыцці мае тры вымярэнні, Аляксей Васільевіч пісаў у сваёй аўтабіяграфіі ў 1964 годзе. Несумненна, што менавіта гэтай формулы ён прытрымліваўся і ў творчасці:

***Ціха ў мінулым і ў будучым ціха,***
***З намі ўсе гукі і гул жыцця.***
***Цяжка ўздыхае зямля-парадзіха:***
***Заўтра якое ўзаўецца дзіця?***

Я не стаў бы так доўга засяроджваць увагу на гэтым аспекце творчасці пісьменніка, калі б аднойчы не пачуў такое: "Пысін, вядома, паэт, але ж у яго слаба выяўлена нацыянальнае". Тое, што менавіта паэтам дадзена найбольшая маг-



*Аўтографы пісьменнікам. 1978 г.*

чымасць выявіць дух і псіхалогію свайго народа, бо паэтычнае слова не толькі сэнсава напоўненае, але мае яшчэ і гучанне, і стылістычную афарбоўку, я ведаў даўно і Аляксея Пысіна заўсёды лічыў адным з тых нямногіх шчаслівуцаў, каму гэта ўдалося. Яшчэ як удалося!

***Была радня аж дзесьці ў Саматэвічах,***
***За Бесяддзю, за полем і барамі.***
***У вёсках***
***тут прыгадваюць Бялькевіча:***
***"Краёвы слоўнік" разам мы збіралі".***

***Чытаю, перагортваю я слоўнік,***
***Нібы ў бабульчынай гасцюю хаце:***
***— Прысядзь, маё ты дзетка,***
***на услоне,***
***А як жа бацька твой, а як жа маці?..***

Тут ёсць усё: і слова, і дух, і нацыянальны характар, і тая спрадвечная спагада, якую, на жаль, мы парастрэслі недзе на дарозе з вясковых хат у гарадскія кватэры. А які фінал верша! Які беларускі, знаёмы і дарагі яшчэ з маленства малюнак! І колькі ў ім ціхай і непазбыўнай наскай, горнасці:

***Яшчэ няўцешна ўдовы не галосяць,***
***Яшчэ касцоў гарматы не гукалі.***
***І тыя, што забіты, сена косяць,***
***Ядуць на лузе сала з агуркамі...***

Ці вось гэтыя пранізліва шчымлівыя радкі, у нечым нават прарочыя ў дачыненні не толькі да аўтара, але і да Міхася Стральцова, якому яны прысвечаны і які, дарэчы, вельмі высока цаніў паэтычны дар свайго старэйшага земляка:

***Зямля — у воблаках і мяце —***
***Ляці ўвысь,***
***Глыбока сей!***
***Сасна паклікала, як маці,***
***Працягла, глуха: "Аляксей..."***

Я, здаецца, занадта захапіўся цытатамі, ды што зробіш, калі цытаваць Пысіна — занятак прыемны! Больш таго — карысны. Працытаваныя радкі, строфы прыносяць не толькі эстэтычную асалоду сваёй натуральнасцю і дасканаласцю, яны яшчэ прымушаюць думаць і перажываць. Адбываецца той складаны ачышчальны працэс, які старажытныя называлі катарсісам. А гэта, як вядома, прывілея высокай паэзіі.

Нельга не сказаць колькі слоў пра зайздроснае майстэрства Пысіна пісаць партрэты, бо яны займаюць значнае месца ў яго творчасці. Здаецца, у адным з твораў так і сказана: "словам малюю настрой". А ў вершы "Валуеў" можна нават назіраць сам працэс гэтага малявання:

***Я ўспомніў прозвішча Валуеў,***
***Гвардзеец быў зусім хлапчук.***
***Малюю каску. І пад ёй малюю***
***Вучнёўскі твар, вяснушак пух.***

Гэтую асаблівасць пысінаўскага таленту ўпершыню заўважыў яшчэ Рыгор Бярозкін: "У Пысіна апошніх год яўна вырасла цікавасць да аб'ектыўнай, "прадметнай" тэмы, у прыватнасці да верша-партрэта і псіхалагічнай характарыстыкі". Вельмі трапнае і дакладнае вызначэнне: вершы-партрэты. Псіхалагічна дакладныя, з цікавымі канкрэтнымі дэталямі і ў той жа час прасякнутыя ціхім мяккім лірызмам. Не адзінкавыя, не выпадковыя, а цэлая галерэя. Вось некаторыя з іх: дзед Ярошка, Варачка, дзядзька Міхалап, Пятрусь Бядулін, сястра Проня, Анатоль Сербантовіч, чарнігаўцы... Калі ўважліва ўчытацца-ўгледзецца, у іх ёсць нешта агульнае з партрэтамі сялян Пётры Сергіевіча. Той жа беларускі каларыт, тая ж любоў да аб'екта сваёй творчасці.

У кнізе "Пячатка майстра" Міхась Стральцоў, кажучы пра вершы Пысіна, некалькі разоў ужывае слова **шэдэўр, сапраўдны шэдэўр.**

Я разумею высакароднае захапленне майстра работай свайго таварыша па цэху і цалкам яго падзяляю. Тым больш, што ў нас няма падстаў не давяраць строгаму і беззаганнаму густу Міхася Лявонавіча, як і няма падстаў баяцца гэтага слова: яго першапачатковае значэнне мае на ўвазе ўзорны выраб, які сярэдневяковы рамеснік прапаноўваў высокай камісіі для набыцця звання Майстра.

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

*1990, 2000 гг.*

## А пачынаў як паэт...

**Цікавы лёс у Алеся Вечара. Цікавы і, як у многіх з яго пакалення, няпросты.**

**Нарадзіўся ў вёсцы Машчыцы цяперашняга Слуцкага раёна, вучыўся ў Слуцкім сельгастэхнікуме, загадваў хатай-чытальняй у вёсцы Паськова Горка (сёння Старадарожскі раён). Пасля заканчэння аграманічнага факультэта Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі быў залічаны аспірантам Навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі БССР. Яшчэ падчас вучобы ў акадэміі, у 1926 годзе выступіў са сваімі першымі вершамі ў часопісе "Аршанскі маладняк", з'яўляўся адным з кіраўнікоў Аршанскай філіі "Маладняка", затым узначальваў Мінскую філію БелАПП. Працаваў выкладчыкам у Гарадоцкім тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі, загадваў аддзелам у Інстытуце харчовай прамысловасці БССР. Але ў 1937 годзе мусіў пакінуць Беларусь.**

**Да 1959 года жыў у Краснадары — загадваў кафедрай у Кубанскім сельскагаспадарчым інстытуце, быў дацэнтам, загадчыкам кафедры Краснадарскага інстытута харчовай прамысловасці. А вярнуўшыся на Радзіму, загадваў аддзелам біяхіміі раслін Інстытута біялогіі, а з 1970 года — з'яўляўся загадчыкам лабараторыі біяхіміі і малекулярнай біялогіі Інстытута эксперыментальнай батанікі імя В. Купрэвіча АН БССР. Зразумела, асноўную ўвагу ўдзяляў навуковым даследаванням у гэтым кірунку, выдаў некалькі манаграфічных прац. І толькі гісторыкі літаратуры ды найбольш дасведчаныя чытачы ведалі, што ў 1930 годзе ў А. Вечара выйшла кніга паэзіі "Кола дзён", што ён пераклаў паэму А. Пушкіна "Домік у Каломне". Вяртанне А. Вечара-паэта адбылося ў 1977 годзе, калі выйшла яго кніга "Зварот да слова", а праз два гады часопіс "Полымя" апублікаваў паэму "Мая гімназія".**

**25 сакавіка спаўняецца 95 гадоў з дня нараджэння Алеся Вечара.**

## У галіне нарыса

**выступаў Мікола Вішнеўскі, з дня нараджэння якога 28 сакавіка спаўняецца 90 гадоў (памёр 17 сакавіка 1986-га). Пасля заканчэння ў 1931 годзе Мінскага беларускага педагагічнага тэхнікума працаваў у газеце "Звязда", пасля вучыўся ва Усесаюзным інстытуце кінематаграфіі. Зноў працаваў у "Звяздзе", быў накіраваны на працу ў вілейскую абласную "Сялянскую газету". На пачатку вайны служыў у будаўнічым батальёне, потым у рэдакцыях франтавой газеты "За свабодную Беларусь", сатырычнага лістка "Партызанская дубінка", быў спецкарэспандэнтам газеты "Савецкая Беларусь". У 1944 годзе чарговы раз звязаў лёс са "Звяздой" — загадчык сельскагаспадарчага аддзела, уласны карэспандэнт, а ў 1952—1967 гадах — намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Сельская гаспадарка Беларусі". З першым нарысам выступіў у "Звяздзе" ў 1933 годзе. У той "Звяздзе" ў 1941 годзе апублікаваў і сваё першае апавяданне. Асобнымі кнігамі выйшлі нарысы М. Вішнеўскага "Майстар конегадоўлі", "Герой Сацыялістычнай Працы Еўдакія Кухарава". На яго творчым рахунку кніга апавяданняў "Скарб зямлі", шэраг сцэнарыяў навукова-папулярных і вучэбных фільмаў.**

## Даследаваў праблемы вершаскладання

**Іван Ралько (нарадзіўся 21 лістапада 1929 года ў вёсцы Макраны Капыльскага раёна, памёр 27 снежня 1979-га) у 1951 годзе скончыў Нясвіжскае педагагічнае вучылішча, працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры Багушоўскай сямігодкі, выкладаў рускую мову і літаратуру ў Навамышскай сярэдняй школе Баранавіцкага раёна. У 1958 годзе завочна скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У 1961—1979 гадах быў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР.**

**Свой творчы шлях І. Ралько пачынаў як паэт, дэбютаваўшы вершамі ў 1951 годзе ў газеце "Чырвоная змена". Але яго паэтычная кніга "Святло зары вячэрняй" змагла пабачыць свет толькі ў 1983 годзе. Больш вядомы І. Ралько як крытык і літаратуразнаўца. У гэтай галіне заявіў аб сабе ў 1958 годзе. Даследаваў праблемы сучаснай паэзіі, асаблівую ўвагу звяртаючы на пытанні гісторыі і тэорыі беларускага вершаскладання. Кніга І. Ралько "Беларускі верш. Старонкі гісторыі і тэорыі", што пабачыла свет у 1969 годзе, стала першым у беларускім літаратуразнаўстве гісторыка-тэарэтычным даследаваннем праблем беларускага верша. Асобнымі выданнямі выйшлі таксама працы І. Ралько "Вершаскладанне. Даследаванні і матэрыялы", "Верш і мова. Праблема тэорыі і гісторыі беларускага верша". Выступаў І. Ралько і як перакладчык з украінскай і польскай моў.**

ПАМЯЦЬ

# Ад родных ніў і бароў Прыдняпроўя

Пазнаёміўся я з Пысіным амаль паўсотні гадоў назад. Праўда, спачатку не з самім паэтам, а з яго кнігай "Наш дзень". У той час я не ведаў, а толькі здагадваўся, што гэты новы для мяне аўтар — мой зямляк па Магілёўшчыне (сам я працаваў тады ў Брэсцкай вобласці). Ды і як не здагадацца, калі кніжка была поўная магілёўскіх краявідаў, дыхала роднымі лугамі і нівамі.

Адкрываўся зборнік вершам "Магілёўскі шоўк". Не менш хвалявалі "Помнік у Лясной", "Сож", "Лесарубы", "Серп". Гэты апошні, хоць невялікі памерам, але па глыбіні зместу — цэлая народная балада.

***Спелага жыта гушчар непачаты***
***Песняю жнiўнай віталі дзяўчаты.***
***Песню пачуў і зайшоўся тугою***
***Серп, што застаўся***
***ў сяле пад страхою...***

***Тая рука, што серп моцна трымала,***
***Не апускаецца ў полі з штурвала,***
***Поле знаёмае, поле калгаснае***
***Перад камбайнам калоссямі шастае...***

***...Серп пад страхою ў сяле іржавее***
***Быццам бы зброя старая ў музеі.***

Няхай той першы зборнік А. Пысіна быў няроўны, няхай траплялiся ў ім і вершы-аднадзёнкі, у цэлым кніжка сцвярджала: аўтар — таленавіты паэт.

Пазнаёміцца ж з самім Аляксеем Васільевічам давялося толькі ў 1956 годзе. Тады пасля заканчэння партыйнай школы мяне накіравалі ў Чэрыкаў. У тамашняй раёнцы была якраз вакантная пасада: былога яе рэдактара Аляксея Пысіна Саюз пісьменнікаў Беларусі перад гэтым паслаў у Маскву на Вышэйшыя літаратурныя курсы.

Забягаючы наперад, скажу, што мне і яшчэ раз давялося замяняць Аляксея Васільевіча на творча-службовай пасадзе, калі ён, працуючы сакратаром Магілёўскага абласнога пісьменніцкага аддзялення, быў звалены інфарктам, а я, ягоны бязменны намеснік, узначаліў арганізацыю. Але гэта праз два з палавінай дзесяткі гадоў. А тады... Тады Аляксея Васільевіча ў Чэрыкаве не заспеў, у друкарні ж працавала наборшчыцай яго жонка Еўдакія Сямёнаўна, ці, як яе ўсе там звалі, Дуся.

І вось аднойчы шэрым восеньскім вечарам сядзеў я, схіліўшыся над сталом ля вакна, ледзьве не вобмацкам вычытваў газетную паласу заўтрашняга нумара: электрасвятло ў той час нярэдка ў райцэнтры прападала і нават друкарскую машыну часам даводзілася круціць уручную. Раптам *нехта прыадчыніў дзверы, зазірнуў у кабінет, але не зайшоў.* Я падумаў, што гэта наш друкар нервуецца, прыспешвае, каб я хутчэй паставіў сваё "ў свет". Аднак неўзабаве заходзіць адказны сакратар і з усмешкай кажа: "Тут Пысін... Хацеў пазнаёміцца з новым рэдактарам, але баіцца перашкодзіць..." Мяне здзівіла, нават збянтэжыла такая празмерная сціпласць ужо вядомага паэта, і я хуценька падаўся ў суседні пакой.

Сярэдняга росту, шыракаплечы, Аляксей Васільевіч неяк адразу выклікаў прыязнасць.

— Прыехаў на пабыўку да сям'і на Кастрычніцкае свята, — працягваючы руку, заўважыў ён. — Дык ці мог абмінуць рэдакцыю?

Мы заседзеліся да позняга. Аляксей Васільевіч дзяліўся ўражаннямі аб Маскве і сталічным літаратурным жыцці, расказваў *пра курсы і вучобу, чытаў свае новыя вершы...*

І пазней, калі ні прыязджаў у Чэрыкаў, ён не прамінаў наведацца ў рэдакцыю. Помніцца, і закончыўшы літаратурныя курсы, летам 1958-га, завітаў. Я чытаў якраз пісьмо-просьбу з "Магілёўскай праўды".

— У самых няўпраўка і просьбу як не ўважаць.

— А што за просьба? — прысеў каля стала Аляксей Васільевіч.

— Даюць серыю нарысаў аб гарадах, раённых цэнтрах Магілёўшчыны. Дайшла чарга да Чэрыкава.

— Магу выручыць. Без справы быць не прывык.

На тым і дамовіліся. Прама з рэдакцыі Аляксей Васільевіч падаўся ў бібліятэку. А неўзабаве ў "Магілёўскай праўдзе" з'явіўся яго нарыс пра Чэрыкаў. А крыху пазней Аляксей Васільевіч друкаваўся там ужо як штатны супрацоўнік.

Восенню 1959-га прыйшоў у "Магілёўскую праўду" і я. Аляксей Васільевіч стараўся мяне ва ўсім падтрымаць, аказаць дапамогу.

Наўрад ці трэба камусьці тлумачыць, як не проста, асабліва ў тыя гады, было ў перанаселеным Магілёве з жытлом. Мусіў нейкі час жыць у Пысіных, хоць кватэра іх была цесная, аднапакаёвая, *а самі з дочкамі пяцёра.* Да ўсяго ў іх пастаянна нехта начаваў з Краснапольскага раёна, адкуль родам Аляксей Васільевіч і ягоная Еўдакія Сямёнаўна, ці яшчэ хто. Пысіны кожнаму спагадалі.

Праўда, часам выпадаў дзень, калі мы з Аляксеем Васільевічам заставаліся адны. Звычайна, у нядзелю. Госці-кватаранты на выхадны ехалі дахаты. Дуся з дочкамі —



*... ад Я. Янішчыц А. Пысіну. 1980 г.*

# Адчуваю і сваю віну...

Я тады працаваў у часопісе "Полымя". Жонка аднаго з чыноўнікаў Саюза пісьменнікаў зайшла ў мой кабінет і, ведаючы мае адносіны да Аляксея Васільевіча, нейкім вінаватым голасам абвясціла: "Віктар, толькі не палохайся... Вазьмі сябе ў рукі... Званілі з Магілёва... Пры смерці Аляксей Пысін... Шырокі (обширный) інфаркт..."

Пасля такой абвесткі ўжо было не да працы. Што рабіць? Куды кінуцца? Ісці дахаты — недарэчна: там у мяне яшчэ не было тэлефона. Ды і заставацца аднаму ў паласе такой няпэўнасці — яшчэ больш згубна. Мучыла сумненне: а ці праўдзівае тое паведамленне? Падцягнуў тэлефонны апарат. Набраў хатні магілёўскі нумар Пысіных. Хто быў на правадзе з таго боку, сёння ўжо не памятаю — хацелася хутчэйшага абвяржэння пачутага. Але, на жаль, "дыягназ" пацвердзіўся.

Трэба як найхутчэй ехаць у Магілёў. *Званю Галі, дачцэ Пысіных.* Яна жыве ў Мінску, з мужам Ігарам маюць уласную легкавушку. Галя ўжо ўсё ведае. Ігар паехаў да свайго начальства адпрошвацца з работы. Як толькі справяцца з усімі фармальнасцямі, заедуць за мной.

Заехалі ноччу. Я не спаў. Колькі разоў, з самага вечара, выходзіў на тэлефон-аўтамат, званіў знаёмым дактарам, каб растлумачылі, што такое гэты "обширный" і ці можна з яго выкараскацца. Недзе пасля трох — на пачатку чацвёртай — дзвярны званок. На калідоры Галя з Ігарам. Дзякуй, што не забылі. "Едзем. Машына ўнізе. Спускайся". У машыне ўжо быў Пётр Шаўцоў, супрацоўнік выдавецтва, Ігараў дзядзька.

У Магілёве былі недзе а восьмай раніцы. Забралі з сабой Еўдакію Сямёнаўну, Любу, старэйшую іх дачку, і — у бальніцу. Перад вачыма і сёння, як на кінаэкране, жывыя імгненні таго прыезду. У бальніцы нас нібыта чакалі. Дактары, падалося, з нейкай вінаватай мітуснёй паказвалі нам дарогу ў палату, дзе знаходзіўся Аляксей Васільевіч. Гэта была рэанімацыя — памяшканне, уздоўж сцен густа, упрытык застаўленае апаратурай, ад якой да ложка хворага цягнуліся шматлікія правады з датчыкамі.

У рэанімацыі Аляксей Васільевіч быў адзін. І трапіў ён сюды, як кажуць, не проста з моста. З нашых таропкіх пытанняў да дактароў і іхніх скупых, абрывачных адказаў збольшага стала зразумела, што хворага ўжо залічылі ў лік мёртвых, раздзелі і вынеслі ў морг. Многа ці мала ён быў у той лядоўні, нам ні тады ніхто не сказаў, як, вядома, ніхто не скажа і сёння. З блытаных тлумачэнняў дактароў мне запомнілася, што нехта (хто? — таксама не сказалі) ноччу пачуў стук у дзверы знутры морга. Калі ж іх адчынілі, не без жаху здзівіліся: перад імі быў пасінелы ад холаду, ледзьве жывы (але ўсё ж жывы!) Аляксей Васільевіч. Так і аказаўся ён у той рэанімацыі, куды нас праводзілі дактары з такой вінаватай мітуснёю.

Туды я, у рэанімацыю, здаецца, зайшоў першы. За мной — усе астатнія. На ложку Аляксей Васільевіч ляжаў на правым баку, тварам да левай (калі глядзець ад дзвярэй) сцяны, да апаратуры з правадамі. Пачуўшы, што нехта ўвайшоў, ён павольна павярнуў галаву, убачыў мяне (я ціхенька прывітаўся з ім, дакрануўшыся да ягонага пляча рукой. Плячо, як мне падалося, было халоднае), з немалымі намаганнямі прыўзняўся на локаць. "Віця, забяры мяне адсюль... забяры... хутчэй..." — загаварыў спяшаючыся, з непрыхаванай мальбою ў вачах, пасля кожнага вымаўленага слова ўсё ніжэй і ніжэй апускаючыся з локця на ложак: сілы ўвачавідкі пакідалі яго. Не пабаюся прылюдна прызнацца: я, здаецца, пачаў вар'яцець. Што яму адказаць на ягоную мальбу? І тут пачуў за сваёй спіной голас Шаўцова: "Ён трызніць... Ён не ў сабе..."

— Я не трызню, — азваўся ён ужо з падушкі. Тады зноў Шаўцову:

— Скажы, хто я?

— Ты — Шаўцоў, — знясілена прагаварыў Аляксей Васільевіч. — Віця... Забяры...

Гэта былі апошнія словы, якія я панёс з сабой (і да скону свайго буду насіць іх па белым свеце) яшчэ ад жывога друга свайго. У дыялог умяшалася ўрач. Яна папрасіла больш не хваляваць хворага, пакінуць палату. Я зноў дакрануўся да Аляксея Васільевіча, паспяшаўся запэўніць: "Мы яшчэ прыйдзем да Вас... І сёння прыйдзем..."

Вымаўляючы гэтыя словы, я верыў сам сабе, што прыйдзем. Прынамсі, я хацеў гэтага.

Ідучы ўсім гуртам ад Аляксея Васільевіча па бальнічным калідоры, я чуў, хоць і не ўсё, як урач давала настаўленні Еўдакіі Сямёнаўне, што б прынесці хвораму з хатняй гатоўлі... Запомнілася: не пашкодзіць б для такога выпадку журавіннага соку. Чуў і думаў сваё. За бальнічным парогам, ужо на вуліцы, перад машынай я напомніў дамачадцам хворага аб яго просьбе — "забяры".

— А што мы будзем дома з ім рабіць? — пачуў. — Тут жа, у бальніцы, і дактары, і апаратура... А хто яму дома паможа?..

Пярэчанне, прызнацца, даволі слушнае, абгрунтаванае. Але ж Аляксей Васільевіч прасіў забраць яго з бальніцы мяне, а не іх... Спасылка на дактароў мяне не пераканала. Бо гэта *праз доктарскія "клопаты"* ён прамым ходам яшчэ жывы быў укладзены ў морг, у стылую лядоўню. А настойлівая просьба Аляксея Васільевіча забраць яго адтуль падмацоўвалася, як я даведаўся пасля, яшчэ і страшэннымі пакутамі: каб звярухнуць нібыта астываючае сэрца, яму праз грудную клетку ўводзілі ў сэрца нейкі шчуп, ці як ён там завецца.

Каб ажыццявіць і ягоную просьбу, і сваё жаданне, трэба было нешта рабіць. У ма-




*А. Пысін з дочкамі. 1972 г.* *Фота Ул. КРУКА.*

праведаць на вёсцы сваякоў. Мы адпраўляліся раніцай на рынак, куплялі качан капусты і яшчэ што-небудзь з агародніны, потым варылі боршч. За сталом вялі размовы на філасофскія і іншыя, часам далёкія ад жыцця, тэмы. Аляксей Васільевіч звычайна не любіў успамінаць пра вайну, пра цяжкія раненні. Мабыць, непрыемнымі, балючымі былі для яго такія ўспаміны. І як разважаў тады ў вершы "Была бранёю гімнасцёрка", яшчэ і таму не любіў размоў пра вайну, што спакутаваная вайной яго салдацкая душа вылівалася ў вершы, з кніжкі ў кніжку пераходзіла, выкрышталізоўвалася галоўная тэма яго творчасці — тэма вайны, франтавых дарог, па якіх прайшоў у салдацкім шынялі.

***Хачу без каскі, без пагонаў***
***Хадзіць з сябрамі па зямлі***
***І каб у чашах палігонаў***
***Жывыя кветкі расцвілі.***

Прыгадваецца, неяк, будучы ў камандзіроўцы, заначавалі ў вясковай хаце. Убачылі, як гаротна жывуць удовы-салдаткі, а пасуседску раскашуе колішні паліцай, які адбыў тэрмін, вярнуўся, паставіў дом, як звон. Ды яшчэ насміхаецца з бедалаг. Напісаў тады Аляксей верш пра салдацкіх удоў, пра іх незайздросны лёс.

Да здраднікаў Аляксей Васільевіч адносіў усіх, хто тады, як і цяпер, стараўся аслабіць, разбурыць нашу краіну. І лічыў, што і на тым свеце не можа быць ім даравання. Хоць ад прыроды быў чалавекам добрым, спагадлівым, хутка забываў асабістыя крыўды.

Жаданым госцем быў Аляксей Васільевіч у кожнай рэдакцыі, у кожным літаб'яднанні Магілёўшчыны. І калі працаваў у газеце, і калі ўзначальваў пісьменніцкае аддзяленне Магілёўшчыны.

Падтрымліваў Аляксей Васільевіч і мяне. На мой першы зборнік гумару і сатыры адгукнуўся ў "ЛіМе" добразычлівай рэцэнзіяй "Мы з імі сустракаліся".

Памятаю, калі рыхтаваў да выдання свой другі зборнік гумару і сатыры, збіраўся назваць яго "Памылкай" — па загалоўку аднаго апавядання. Аляксей Васільевіч перасцярог: "Кепска ты ведаеш нашых крытыкаў. Ім трэба абавязкова за нешта ўчапіцца. Вось і ўчэпяцца за назву, маўляў, памылка выдадуць, што выдалі гэтую... "Памылку". Назвалі зборнік "Старыя знаёмыя".

Так апякаў Аляксей Васільевіч не толькі аднаго мяне. Дык і не дзіўна, што меў багата сяброў, прыхільнікаў. І калі раптам інфаркт зваліў яго, вырваў з жыцця, развітацца з ім прыйшлі не толькі тысячы магілёўчан, але прыехалі чытачы і пісьменнікі, сябры, добрыя знаёмыя з раёнаў, Мінска і іншых гарадоў.

На жалобных урачыстасцях, прысвечаных усталяванню мемарыяльнай дошкі на доме, дзе апошнія гады жыў Аляксей Пысін, прысваенню яго імя Палужскай сярэдняй школе, у якой вучыўся, вуліцы ў Краснаполлі, на якой жыў, калі там працаваў, усхвалявана гаварылася на хаўтурах шмат цёплых слоў пра паэта-земляка, што і пасля смерці будзе служыць людзям.

І праўда, такія паэты не паміраюць...

**Іван АНОШКІН**

шыну я не сеў, прамым ходам пайшоў у абкам партыі, да загадчыка аддзела прапаганды Мікалая Апанасавіча Тоўсціка, якога, ведаю, паважаў і цаніў Аляксей Васільевіч. Можа, думалася, ён у чымсьці дапаможа. У першую чаргу мне патрэбна была машына, каб у ёй даставіць хворага ў Мінск. Мікалай Апанасавіч па тэлефоне знайшоў загадчыка абласнога аддзела аховы здароўя Казакова. Пагаварыўшы з апошнім, ён коратка растлумачыў мне, што Пысін у такім стане не транспартабельны, і што тут, на месцы, будуць рабіць усё магчымае і звышмагчымае, каб адратаваць чалавека. Тлумачэнні Тоўсціка мяне таксама не задаволілі. Бо тут, "на месцы", ужо зрабілі адно "звышмагчымае" — выцягнулі жывога ў морг. А значыць, будуць прыкрываць свае промахі, усяляк адбельваць сябе.

Каб забраць Аляксея Васільевіча з бальніцы і пераправіць яго ў Мінск, у мяне была яшчэ адна і, як мне здавалася, немалая надзея: тэрмінова звязацца з галоўным урачом беллітфондаўскай палiклінікі ў Мінску (пры Саюзе пісьменнікаў) Мікалаем Дзмітрыевічам. Але Шаўцовы, дзядзька з пляменнікам, ірваліся ў Мінск. Галя заставалася ў Магілёве пры бацьку. Парушаючы сваё абяцанне — прыйсці да Аляксея Васільевіча яшчэ і сёння, я разам з Шаўцовымі таксама рвануў у Мінск, каб з вока на вока папрасіць галоўурача пісьменніцкай палiклінікі дапамагчы забраць Пысіна з таго пекла. А ўрач узяў ды пазваніў таму ж самаму Казакову: "галоўнаму доктару" Магілёўшчыны (як пасля я даведаўся, свайму аднакурсніку па вучобе, другу), які, як і Тоўсціку, "напеў" Мікалаю Дзмітрыевічу "сваю пазіцыю".

Пацярпеўшы чарговую няўдачу, ведаючы ўражальна-выбуховы характар Аляксея Васільевіча і тое, як ён непахісна цвёрда трымае сваё слова і гэткага ж патрабуе ад іншых, я вырашыў назаўтра ж цягніком вярнуцца ў Магілёў, каб сваёй прысутнасцю, хоць трошкі ды падтрымаць хворага. Прыйшоў на працу рана, колькі разоў звязваўся па тэлефоне з Пысінымі, а перад адбыццём з рэдакцыі на цягнік пазваніў яшчэ раз. "Ужо ўсё..." — праз слёзы прамовіла Люба, што была на провадзе.

Гэта было 27 жніўня. Гэтая дата ў мяне назаўсёды чорным колерам на душы.

Сёння я мог бы сказаць, што прысвяціў Аляксею Васільевічу столькі-та і столькі вершаў-успамінаў. Але не скажу гэтага. Не скажу таму, што ўсё маё астатняе (папярэдняе — само сабой!) пасляпісінскае (дазволю сабе гэтакае слова) творчае жыццё прайшло пад жыватворным уплывам і самога яго, як чалавека, і кожнага ягонага вершаванага радка, у якім, як сёння нелгадольна бачу, ёсць і па-франтавому пралітая аўтарам за Радзіму кроў (ён двойчы паранены на той вайне), так і (няўжо ўсё-ткі ёсць прадчуванне?) святая, па-пісінаўску адчайная барацьба за жыццё, якую ён вёў у моргаўскай лядоўні.

Першае, што вырвалася на волю з маёй душы ў першыя ж пасляcмяротныя пысінскія дні, былі радкі:

***Ах, як не хацелася жыць!***
***За другам ішоў вінавата:***
***Мая на Зямлі яшчэ хата,***
***А ён у Зямлі ўжо ляжыць.***
***Ах, як не хацелася жыць!***

Фабула страфы — не надуманая, не эфектыўнасці дзеля. Як і ўсё астатняе з гэтага верша. А ў астатнім ёсць такі радок: "Для гэтага, друг мой, жыві", вусна адрасаваны яшчэ пры жыцці адзін аднаму — таму, хто застанецца пасля адзін без аднаго, на выпадак, калі спатрэбіцца мёртваму абарона ад падлюжых наскокаў. Прызнацца, мне тады падумалася, што, на выпадак майго працягу, мне будзе надта ж лёгка: які дурань пасмее таптаць пысінскі высокі талент?! І — памыліўся! Не адзін такі дурань знайшоўся, а лепей сказаць, правіўся — нібыта на фотаплёнцы. І ўсе яны — з блізкага ягонага акружэння, з саслужыўцаў, што ні ў сваім жыцці, ні ў жыцці грамадства нічога не значылі, ды і значыць нічога не маглі. Пысін такіх бачыў, як кажуць, наскрозь. Але пра гэта — гаворка пакуль не тут, яна яшчэ наперадзе...

**Віктар РАКАЎ**

# Павел ПРУДНІКАЎ



16 сакавіка пайшоў з жыцця вядомы беларускі паэт, празаік, нарысіст, заслужаны работнік культуры Беларусі Павел Пруднікаў.

Павел Іванавіч Пруднікаў нарадзіўся 1 ліпеня 1911 года ў вёсцы Стары Дзедзін Клімавіцкага павета Магілёўскай губерні ў мнагадзетнай сялянскай сям'і. У шасцігадовым узросце пайшоў у школу, але ў сувязі з грамадзянскай вайной вучобу неўзабаве прыйшлося перапыніць. Толькі ў 1930 годзе надарылася магчымасць скончыць Мілавіцкую сямігодку, дзе рускую і беларускую мовы і літаратуру выкладаў ужо вядомы паэт-маладняковец Янка Бобрык. Пасля сямігодкі паехаў у Данбас: працаваў на Краматорскім металургічным заводзе, шахцёрам на Горлаўскім і Чырвонаармейскім рудніках, пазней быў мулярам, цесляром, землякопам на будаўніцтве чыгункі Асіповічы—Магілёў—Крычаў—Рослаў і Магілёўскай шаўковай фабрыкі. Працаваў грузчыкам на чыгуначнай станцыі Мінск-Таварны, на кніжнай базе, на Беларускім радыё, у рэдакцыях газеты "Беларуская вёска", "Савецкая Беларусь", карэктарам у друкарнях, рэпарцёрам у БЕЛТА, у клімавіцкай раённай газеце "Камунар". У 1933 годзе стаў студэнтам Ленінградскага педінстытута, займаўся перакладамі з сербскай і балгарскай моў. У 1937 годзе Паўла Іванавіча арыштавалі і выслалі ў Бурацкую АССР, пасля ў Іркуцкую, Омскую вобласці, Краснаярскі край. З 1945 года працаваў загадчыкам бібліятэкі Нарыльскага горна-металургічнага тэхнікума, пасля выкладчыкам у школах Смаленскай вобласці. З 1952 года выкладаў мову, літаратуру і гісторыю ў Браслаўскім раёне Віцебскай вобласці. У 1968—1971 гадах — старшы рэдактар часопіса "Служба быту Беларусі".

Першы верш надрукаваў у 1930 годзе ў газеце "Піянер Беларусі", супрацоўнічаў у газетах "Чырвоная змена", "Беларуская вёска", "Комсомольская правда", "Беднота", "Ленинская искра", "Крестьянская газета". У 1932 годзе выйшла першая кніга вершаў "Песні грузчыкаў". Аўтар зборнікаў паэзіі "Час майго нараджэння", "Прысады", "Мая магістраль", "Заасцёр'е", "Заранка", "Позняя ягады". Асобнае месца ў творчасці паэта займае тэма сталінскіх рэпрэсій. Тым жахлівым часам прысвечаны паэма "Таймыр", аповесці "Яжовыя рукавіцы" і "Пекла", нарыс "Па знаёмых пякучых сцежках". Аўтар шматлікіх успамінаў.

У асобе Паўла Пруднікава беларуская літаратура мела таленавітага пісьменніка-грамадзяніна, адметнага творцу.

Ён шчыра любіў Бацькаўшчыну і рабіў усё, каб адраджаліся яе культура і мова. Гэтай любоўю да роднага краю, роднай прыроды, чалавека працы была прасякнута ўся творчасць Паўла Пруднікава.

Светлая памяць аб таленавітым пісьменніку, чалавеку надзвычайнай душэўнай дабрыні і прынцыповасці назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

**Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы смуткуе з прычыны заўчаснай смерці былога старшага навуковага супрацоўніка ПАНЧАНКІ Таццяны Піменаўны і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.**

# Выкрасленыя з жыцця...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

Аднак свабода — ёсць свабода. Як чуў, у турмах-калоніях са славутых "застойных" часін захавалася пасада інспектара па працоўным і бытавым уладкаванні. І калі ў мінулым тут не было аніякіх праблем, то зараз, пры існуючым беспрацоўі, гэта зрабіць для людзей з "падмочанай рэпутацыяй" вельмі складана. Амаль немагчыма. Часцяком былыя "зэкі" і сваім блізкім, родным не патрэбны. Вось і жывi, станавіся на сумленны шлях быцця!..

Бяздомнасць, жабрацтва, неўладкаванасць маюць свае карані. Акрамя сацыяльна-эканамічных прычын, ёсць яшчэ і прычыны выцякаючыя. Страціў жыллё па рашэнні суда, пры пазбаўленні волі, пры продажы кватэры, згубіў сацыяльна-карысныя сувязі з-за сямейнага разводу, дзеці выгналі і г. д.). А ў выніку — бамжацтва.

Як заўсёды, актыўна бамжамі займаецца міліцыя. Праўда, апошнім часам узніклі праблемы: каб здаць у прыёмнік-размеркавальнік бамжа, патрэбны санкцыі пракуратуры. А гэта, няцяжка здагадацца, — новая валакіта, новае прамаруджванне.

Знаходзяць разуменне і падтрымку гаротнікі ў Цэнтры дапамогі бяздомным Беларускай асацыяцыі сацрабОтнікаў, які сумесна з Мінскім гарвыканкамам садзейнічаў стварэнню гарадскога пункта рэгістрацыі асоб без пэўнага месца жыхарства. У супрацоўнікаў дадзенага пункта галоўнае — дапамагчы чалавеку. Гэта — сацыяльная рэабілітацыя і адаптацыя, вырашэнне праблем бяздомнасці, аднаўленне страчаных дакументаў, дакументаванне пашпарта і афармленне прапіскі, працаўладкаванне. Можна атрымаць тут таксама юрыдычную, псіхалагічную дапамогу. У рэшце рэшт проста адчуць чалавечую ўвагу і зацікаўленасць тваёй асобы.

Чуў, што пад эгідай гарвыканкама ў Мінску распрацаваны праект Дома начнога прабывання. Карацей, знаёмай з літаратуры "начлежкі". Але ці вырашыць гэта саму праблему бамжацтва? Вунь пачытайце, успомніце пісьменніка Уладзіміра Гіляроўскага, маскоўскія прытоны-начлежкі, агіднае багно смярдзючага быцця "простых смяротных" — рассаднік непаглядн ай галечы і ўбоства, п'янства і распусты, злачынстві крыміналу. Колькі спатрэбілася намаганняў і часу, каб ад гэтага пазбавіцца!.. А напачатку ж былі гуманныя, добрыя намеры.

Напярэдадні новага 2000-га года прэзідэнт рэспублікі Лукашэнка на гарадской ёлцы ў Мінскім цырку сказаў, што дзяржава здарова тады, калі здаровы яе грамадзяне і перш за ўсё дзеці і старыя. Вельмі добрыя, кранаючыя за сэрцы словы. Але... словы! А самое жыццё?

З ростам, амаль штодзённым, цэн, з неверагодным збядненнем пераважнай большасці насельніцтва, гандлёвыя прылаўкі, сапраўды, становяцца "музейнымі". Сытае, добра ўкормленае чынавенства — Божухна, колькі яго развялося! — здаецца, на тое толькі і прыдатна, каб знаходзіць і абгрунтавана апраўдваць дзікунскі-фантастычны разгул цэнаў.

І ніякія шматлікія паказушна-музычныя фестывалі і святы, спартыўныя мерапрыемствы і спаборніцтвы, будаўніцтва розных фізкультурна-культурных комплексаў не "падсаладзяць" цяжкага галоднага жыцця-быцця простага люду. А каб гэта ўразумець, трэба хоць часова пажыць так, як жыве народ.

З дзяцінства памятаю бацькаў аповед пра тагачаснага кіраўніка нашай рэспублікі Чарвякова, які жыў вельмі і вельмі сціпла: хадзіў пешшу на працу, па горадзе, нават у падвязаных да ног галёшах. Вядома, мы жывём у іншыя часіны, прыглядваемся, прымерваемся да цывілізаванага Захаду, аднак там заможна жывуць не толькі кіраўнікі-чыноўнікі, прадпрымальнікі-бізнесмены, элітны асяродак, але і простыя працавітыя людзі, дзеці і старыя-пенсіянеры. Там цывілізацыі не пагражае бамжацтва.

А пакуль зноў сустракаю змардаванага, у вязанай шапачцы, з нямым тварам і сумнымі вачамі, з поліэтыленавым пакетам у руках нямоглага бамжа, і болем сціскае сэрца.

Яўген РАГІН

# Абыпраштоські

У мітуслівы і незразумелы горад дзядзька Пiлiп прыехаў з малой, на дваццаць падворкаў, вёсачкі. Ужо колькі год таму... Чарнобыль — прымусовае адсяленне ў "чыстую" зону, бясконцае прывыканне да таго, да чаго немагчыма прызвычаіцца. Вялікая трагедыя маленькага чалавека... У вёсцы ў дзядзькі нікога не засталося, толькі крыжы на недагледжаных магілках. У горадзе таксама — ні сваякоў, ні сяброў. Няўтульна. Асабліва доўгімі зімовымі вечарамі, калі на дварэ шалее завіруха. "Як жа ім там, пад крыжамі, зараз холадна і адзінока!" — пакутуе дзядзька Піліп, ушчэнт дабіты пенсіянерствам, бяссоннем і "беламорам". А за акном стогне і енчыць капрызлівая гарадская зіма. Няўтульна...

Натуральна, добра можна жыць і ў горадзе, праспекты якога названы ў гонар Лухты і Паражэння, а вуліцы пазначаны як Бязродная, Затурканая, Раздрайная... Можна, без сумневу, паспрабаваць адчуць сябе чалавекам, працуючы ў калгасе імя Абібока ці Здрадніка... Відаць, з лёгкасцю можна абысціся без родных сцягоў і сімвалаў, за адлік дзяржаўнасці браць толькі палітычныя перавароты, замест гісторыі частаваць уласных дзяцей показкамі, замест мовы прапаноўваць маўклівую згоду. Толькі б на стале было... Можна! Але, як ні пнёмся, штосьці не атрымліваецца...

— Даруйце, паважаны, а як прайсці на вуліцу Шчасця?

— Ды, калі ласка, васпане! Па завулку Кахання, мінаючы Сонечную і Брацкую, а там ад пляца Годнасці і Веры ўздоўж праспекта Сяброў — рукой падаць. Шчаслівага шляху!

"Прыйшла вясна". Просты апавядальны сказ. Неразвіты, двухсастаўны. Выказнік выражаны дзеясловам абвеснага ладу мінулага часу. Канкрэтная інфармацыя аб тым, што адбылося наўкола. І як бы мы ні развівалі гэты сказ даданымі словамі, як бы ні ўскладнялі яго семантыку, як бы ні сыпалі сінекдахамі, метаніміямі і метафарамі, дамагаючыся выразнай прэдыкатыўнасці, якія б надзеі ні ўскладалі на вясновыя палітычныя змены, а канкрэтнае застаецца канкрэтным: "Вясна прыйшла на Беларусь..." У немудрагелістай журналісцкай справе эмоцыі — толькі подсцілка пад упарты факт.

Сёння пятніца. Канец працоўнага дня і тыдня. Гэткае прыемнае адхланне ў чаканні выхадных. Але чаму так мала радасці на тварах? Вы што, даражэнькія! А давайце збяром на стол. Мы ж так рэдка збіраемся. Не, праўда, давайце! Паклічам і яго, і яе, і вунь таго, хто вельмі хоча (па выглядзе ж бачна!), але саромеецца. Нават вось гэтага давайце запросім. Ён не любіць, грэбуе, злуецца, нават нейкаю помстаю пагражае. А мы ўсё роўна запросім. Ад шырыні душы, па прычыне чалавечай радасці ад асалоды зносін... Сядайце! Пад чарку і скварку пагаворым пра адзінства памкненняў і неабходнасць неадкладнай барацьбы з пахмурнасцю твараў.

За ваша здароўе!

Ён паспешліва вырваў чысты ліст з сынавага сшытка. Схапіў асадку і ўпэўнена штосьці накрэмзаў. Утуліўшыся ў крэсле, прачытаў сам сабе ўголас гэтае штосьці: вершаванае, лёгкае і імгненнае, бы позірк выпадковай дзяўчыны на вуліцы. Прачытаў — і засмяяўся ад шчаслівага задавальнення. Зрабіў са спісанай паперчыны самалёцік і, адчыніўшы фортку, выпусціў яго ў марознае паветра. Доўга сачыў за плаўным палётам і ўзрушана думаў пра сваё...

Я ведаю, што такі чалавек ёсць, але пакуль мы не сустракаліся.

Гэты чэхаўскі твор прачытаў упершыню з жахам... Што ні пішу зараз пра абсурдна-вар'яцкае беларускае быццё — усё з лёгкасцю пазначаецца рубрыкай "палата N 6". І падпісаць цягне заўжды — "доктар Рагін". Ды толькі, трасцу на яго, які доктар?! Такі ж, як і ўсе — шараговы, недагледжаны як след пацыент вельмі агульнай і вельмі перанаселенай палаты, пацыент з цьмяным дыягназам клінічнай, да канца не акрэсленай і часам няўстойлівай беларускасці...

"Хворыя, на абед!" — уладарна бразгае чарпаком у аслізлы паўмісак разбэшчаная самапавагай бальнічная кухарка. Дзе там мая лыжка?!

Насупраць рэдакцыі шумная вераб'іная чародка в'етнамцаў (ці японцаў з кітайцамі?) нецярпліва ловіць таксоўку. Плойма цыганак з катэгарычнай просьбай штосьці там "позолотить" перакрывае падземны пераход. Слупы ліхтароў побач з прыпынкам шчодра абклеены ўлёткамі "русского национального единства". У чаканні аўтобуса негр у смешнай аблавушцы і доўгім паліто не з дзіцячым задавальненнем прытоптвае свежы сняжок. На "блышыным" рынку нязменнымі мандарынамі гандлююць гарбаносыя асобы самай што ні ёсць каўказскай нацыянальнасці: "Купи, да-а..."

А побач незадаволеная жанчына — блякламу ў разгубленасці свайму чалавеку: "Фима, это тебе не Хайфа — пойдем дальше!" Генеральная рэпетыцыя вялікага перасялення народаў?! А нам што? А нам куды? Дома, дастаўшы энцыклапедыю, са злой практычнай цікавасцю высвятляю: ці расце бульба ў Афрыцы?

Мы, як заўжды, разамлелі-расслабіліся. А грып-нягоднік тут як тут. Наваліўся знянацку, скруціў-зваліў. Цячэ нос, мляўкасць, тэмпература... У знаёмага сын-школьнік прыхвараў, жонка ў паліклініку пацягнула. А дакторка з ходу дыягназ ставіць: "острое респираторное заболевание". Маці непакоіцца: "Даруйце, якое ОРЗ, калі грып наўкола свавольнічае? Эпідэмія ж, кажуць!" А гэтая кірпатая ў белым халаце "супакойвае": наконт грыпу і эпідэміі, маўляў, ніякіх указанняў пакуль не было — чакайце!

Ды на тым месцы, якім беларус чакае, мазоль ужо арагавелы. Прадзеды чакалі, дзяды ад гэтага стаміліся, а ўслед за імі й мы, сённяшнія, на штосьці гэткае ж спадзяёмся. Авохці нам: наконт людскага жыцця — ніякіх указанняў. Сцяўшы зубы і заплюшчыўшы вочы, чакаем...

Пісаць трэба толькі пра тое, што добра ведаеш, альбо пра тое, чаго не ведае ніхто. З першым заўжды праблемы, таму і кінуліся ўсе ў другое: пішуць пра нацыянальную ідэю і будучыню Беларусі...

Мінск стаміўся, занядужаў. Хворым страўнікам непакоіць перагружанае метро. Як з'едзеныя зубы, ныюць нявыдаленымі каранямі зруйнаваныя будынкі Верхняга горада. І рака Няміга, закатаная ў асфальт, — як ампутаваная рука. Карастай па целе — засмечаныя газоны "спальных" раёнаў. Пракураныя лёгкія заводскай зоны... Сівы Мінск па-пенсіянерску ціха і бездапаможна хварэе. І ноччу, калі гараджане спяць, цяжка і парна дыхае каналізацыйнымі люкамі. Трывае, пакутуе, злуецца і замілавана ўспамінае Менку, гарадзішча, мядовы водар разнатраўя, неўтаймаванае і непрадбачлівае юнацтва.

Відаць, заўжды ў гэтым свеце на тысячу сляпых — адзін відушчы. Ён бачыць святло і ведае дарогу. Як яму, бедаку, невыносна! Дарэмна гарыць ягоная паходня. Сляпым утульна ў цемрадзі. Калі б нават і бачылі, ці кінуліся б на злом галавы за тым, хто разумее існасць святла, якое раз-пораз успыхвае на небасхіле? Ды не — няма дурняў! Дальняе святло не грэе.

...Таму ў відушчых — свой шлях. І не цягнуцца яны па ім панурай сляпой чарадою, а ўпэўнена шыбуюць дружным шэрагам. Невідушчыя толькі здзіўлена круцяць галовамі, калі чуюць выбаркова гул мэтанакіраванай хады: "А хто там ідзе?" І самае галоўнае ў сляпой бязглуздасці: "Куды і навошта?"

І нікога ён не пераканаў, бо не імкнуўся. І не спрачаўся ні з кім, бо не бачыў сэнсу. І са скуры не вылузваўся, каб выбіцца ў начальнікі. Не марыў пра нязбыўнае. Не чакаў лепшага часу. Проста кветкі любіў, дрэвы, Сож. Проста вёў урокі біялогіі і ціха радаваўся, што восень за вакном, што сонейка дае нырца ў прышкольны ставок, што дыхаецца лёгка і гэтак жа лёгка жывецца. Адзіны ў свеце і адзін з многіх. Нарадзіўся, пражыў і памёр. Зараз у ягонай хаце чужыя людзі. І бярозкі, калісьці ім пасаджаныя, ужо для іншых плачуць увосень лістотай. І ставок безнадзейна зарос чаротам. І сын ягоны вывучыўся на настаўніка і з'ехаў немаведама куды... Простыі незразумелы кругазварот душ у прыродзе.

Стварэнне людскага жыцця — справа калектыўная. Карціну пад аптымістычным назовам "Перамога светлай будучыні над змрочным мінулым" малюем разам. Вось яно, палатно — падыходзь, твары. Творым. Нехта, вусаты, упэўненымі мазкамі жанчыну накідаў — прыгожую, якая церпіць, маўчыць і на адну зарплату выкручваецца. Усе мужчыны загулі ад задавальнення. Жонка чыясьці мужыка намалявала — не свайго. Гэты — на карціне — цвярозы, есці не просіць, не мацюгаецца без дай прычыны, вачмі глядзіць разумнымі: маўляў, кахаю, любая, на ўсё дзеля цябе гатовы. З надзеяй жанчыны ўздыхнулі. Бабулька нейкая прыклыпала. Доўга на карціну глядзела, плакала чамусьці. Калі адышла — дзеці на палатне раптам паразумнелі, неяк папрыгажэлі неўпрыкмет. Хтосьці з акулярнай кволай інтэлігенцыі неба на карціне падблакіціў, дрэўцы падзеляніў. Нейкі салідны з партфелем падышоў, нетаропка ды з веданнем справы стол прама перад домам намаляваў, а на стале — і сала, і каўбаса. А хтосьці, зухаваты ды адчайны, музыкаў у куток дадаў. І засвідлілася радасна карціна, зайграла, фарбамі весела зазіхацела... Не проста жанчына, не проста мужык, не проста дзеці — сям'я на карціне. Дружная, заможная ячэйка грамадства ды трывалы падмурак дзяржавы, можна сказаць! Словам, намалявалі. У галерэі павесілі. Якраз паміж карцінамі "Нашы вялікія дасягненні" і "Нашы слаўныя здабыткі". Калі на душы зусім невыносна ды пагана — прыходзім, любуемся...

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

### КАНЦЭРТЫ

*9 красавіка* — у к/з "Мінск" будзе граць самы папулярны украінскі гурт "Воплі Відаплясава". Ён стварыў сапраўдную моду на украінскую мову і музыку. І не толькі на радзіме. Тым не менш у "ВВ" няпростыя адносіны з украінскімі ўладамі і юрыдычныя праблемы з мясцовым шоу-бізнесам. Вось вытрымка з інтэрв'ю Алега Скрыпкі тамтэйшай газеце "День" пра тое, як пачуваюцца музыкі ў такіх умовах:

"Рашэнне можа быць простым — з'ехаць з краіны. Адчуванне, што нас хочуць проста задушыць. Але знішчыць нас немажліва, бо ў нас дужа высокая папулярнасць не толькі ў Кіеве, а і ў Маскве таксама. Хоць вельмі сумна ўсведамляць неабходнасць паехаць і існаваць у гэтым халодным непрыветным горадзе".

**— Вы самі згадалі пра ўласную папулярнасць. Вы ж разумееце, што калі кінеце заклік сваім фанатам, то яны за вас гарою стануць?**

— Артыст — заўжды трохі не ад свету гэтага. Я патрапіў на тэрыторыю юрыдычных мудрагелій, у якіх я не цямлю абсалютна. Біць, мачыць і на барыкады — першае, што хочацца зрабіць. Але ж трэба спачатку падумаць: куды бегчы, каго мачыць, за што біць? Я не зусім разумею, таму пабягу адзін.

**— Значыць, рэвалюцыйны радыкалізм — не ваш шлях?**

— Я б падзяліў усіх выканаўцаў на рамантыкаў і рэвалюцыянераў. Рэвалюцыянеры "буялі" на пачатку перабудовы. А цяпер настаў рамантычны перыяд. Гурт "ВВ" — гэта стопрацэнтна рамантычны гурт, таму я і казаў, што мы зараз "на гары". Да таго немажліва, каб мы заклікалі кагосьці на барыкады, бо гаворым трошкі пра іншыя рэчы. І "Весна", і "Танці" — гэта чыстая лірыка. Я думаю, што сярэднеўкраінскі характар — не рэвалюцыйны, калі падзяляць усе характары на інтравертаў і экстравертаў, тоукраінцы — стопрацэнтныя інтраверты, якім заўжды ў вулічных бойках давалі "па галаве"...

### ВЫСТАВЫ

*29 сакавіка, 17.00* — у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Скарыны, 81) адбудзецца адкрыццё персанальнай выставы Сяргея Давідовіча і прэзентацыя ягонай новай кнігі "Душы маёй бяссонніца".

### ЗАПРАШАЕМ

Кніжны клуб ТБМ запрашае ўзяць удзел у сустрэчы з Васілём Сёмухам — аўтарам перакладу "Фаўста" Гётэ (26 сакавіка ў 15 гадзін у Нацыянальнай бібліятэцы); у сустрэчы з паэткай Данутай Бічэль-Загнетавай (*31 сакавіка ў 18 гадзін* у тэатральнай зале Чырвонага касцёла).

Беларускі паэтычны тэатр "Зніч" запрашае на творчую вечарыну мастака Аляксея Марачкіна (30 сакавіка ў 18 гадзін у тэатральнай зале Чырвонага касцёла).

## Выстава ў сядзібе ТБМ

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сардэчна запрашае вас наведаць выставу беларускага відэа, аўдыё, а таксама лепшых беларускіх кніжак, выдадзеных апошнімі гадамі. У прыватнасці, на выставе можна прыдбаць "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" У. Арлова і Г. Сагановіча, "Беларусь. Гістарычнае падарожжа для дзяцей" К. Тарасава, новы нумар "Беларускага гістарычнага агляду", "Анямэнне. З хронікі знішчэння беларускай мовы" і іншыя кнігі.

*Выстава праццуе будзённымі днямі з 11 гадзін.*

**Адрас: Румянцава, 13 (сядзіба ТБМ)**

## Беларуская акадэмія мастацтваў

**аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага складу:**

загадчык кафедры сцэнічнай мовы і вакалу 1
загадчык кафедры рэжысуры 1
дацэнт кафедры сцэнічнай мовы і вакалу 1
дацэнт кафедры дызайну 1
старшы выкладчык кафедры мадэлявання адзення і мастацкага ткацтва 1

*Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы.*

**Заявы і дакументы, згодна палажэнню аб конкурсах, падаваць на імя рэктара акадэміі па адрасе: 220012, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 81, аддзел кадраў; тэл. 232-77-34.**

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Павел ВЕРАБ'ЁЎ — *намеснік галоўнага рэдактара,*
Алесь ГАЎРОН — *адказны сакратар,*
Мікола ГІЛЬ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Віктар ШНІП — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, ахове помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 23.03.2000 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 1478

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12